ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
29 САКАВІКА 1996 г. № 13 (3837) Кошт 2 500 руб.

Янка КУПАЛА

## ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

**Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэснем мы, душою ўпаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...**

**Сягоння мы жывём і ўдзень мы блудзім
Пад маскай, асляпляючаю нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Не ведаем, не можам, хоць і час.**

**Заціснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам з усіх бакоў,
Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.**

**Пакрыўленыя колісь нашы душы
Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ;
Снуёмся, ў думках зводных затануўшы,
А хтось, а штось і мучыць і пячэ.**

**Цябе чакаем, будучыні нейкай,
Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.**

**А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі,
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.**

**Нявольніцтва й жабрацтва так нас з'ела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела
Не смеем, стоптаныя на пясок.**

**Там чутна: Беларусь! Там — Незалежнасць!
А там — "Паўстань праклятым..." Ну, а мы?
Мы ў страху... дум крутня... разбежнасць...
Без толку крыллем лопаем, як цьмы.**

**О, так, як цьмы, як спудажны вароны!..
І слухаем і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны, —
Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?**

**Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпынку выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.**

**З кійком жабрачым так мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у свет — скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сведкі,
Што мы — не мы, што нехта вінават...**

**І так жывём, сябе саміх не знаўшы,
Учора, сёння, лазім між канаў...
Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом пракляты заламаў?**

**Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны,
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны —
Кліч буралому: вызваленне з пут?!**

*1922 г.*





## ДЖАЗ, ДЖАЗ, ДЖАЗ!

Тры дні гучала гэтая сонечная музыка ў строгіх сценах Рускага тэатра. Цяпло галасоў, жар зіхоткай "медзі", пругкія хвалі воплескаў, хвалюючае ўсведамленне аншлагу, чаканне нечаканага ў музыканцкіх імправізацыях... Прайшоў у Мінску традыцыйны ўжо фестываль джазавай музыкі. Зноў і ягоным "сэрцам", і грунтам-апірышчам быў народны артыст Беларусі маэстра Міхал Фінберг з Дзяржаўным канцэртным аркестрам і яго салістамі. І госці былі. Прынамсі, улюбёнка мінскай публікі летувіская джазавая спявачка Нэда. А яшчэ была нагода — успомніць першага заслужанага артыста Беларусі, першага шырокавядомага нашага джазмена Эдзі Рознера, чый аркестр слухалі продкі сённяшніх фанатаў гэтага дзівоснага музычнага мастацтва — мастацтва вялікіх эмоцый, высокай самааддананасці, выключнай віртуознасці.

Гэта ўжо можна лічыць гісторыяй, бо адбываліся фестывальныя канцэрты ў апошні месяц зімы... Але вось — новая вестка, вясновая: гастрольныя выступленні Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі ў Маскве, у Зале імя П. Чайкоўскага. Такім чынам аркестр пачынае серыю перад'юбілейных імпрэзаў, рыхтуючыся да свайго 10-годдзя. Урачыстая дата прыпадае на жнівень 1997-га...

**С. Б.**

*На здымках Віт. АМІНАВА — імгненні фестывалю*







# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***Гістарычная праўда, ісціна бывае толькі адна. І яна ніколькі не залежыць ад розных каментатараў ды інтэрпрэтатараў... Тое, што адбылося 24 сакавіка 1996 года ў Мінску, безумоўна, застанецца ў найноўшай гісторыі Беларусі. Як засталіся Курапаты 1988 года... Вандэйцы зноў паднялі галаву — сёння іх час. А значыць, беларускія афіцыйныя выданні можна не чытаць, Беларускае тэлебачанне — можна не глядзець. Мы гэта ўжо праходзілі ў гады "Пены на хвалі перабудовы". Сёння зноў пануе "праўда" вандэйцаў, вандэйцаў-рэваншыстаў. Не бяда, што шыта яна белымі ніткамі, што факты не стыкуюцца і не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Бо разлік робіцца не на тых, хто думае і аналізуе, а на тых, хто слепа верыць...***

### *АБВЯРЖЭННЕ ТЫДНЯ*

Залішняя шчырасць і адкрытасць прэзідэнта Беларусі зноў падвяла яго, зноў саслужыла яму дрэнную службу. Пасля сямігадзіннай сустрэчы з кіраўнікамі Расіі ён нагаварыў журналістам столькі ўсяго пра будучую "беларуска-расійскую інтэграцыю" ў адну дзяржаву, — аж да адзіных бюджэту, грошай, войска, Канстытуцыі і г.д. — што спачатку сакратар прэзідэнта Расіі С. Мядзведзеў, а потым і сам Б. Ельцын вымушаны былі тлумачыць, што "пра стварэнне адзінай дзяржавы з Беларуссю пытанне не стаіць. Нехта проста штосьці пераблытаў". Гэты "нехта", выступаючы на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, вымушаны быў абвергнуць самога сябе і накінуўся на "асобныя палітычныя сілы" і "палітычных спекулянтаў", якія ў сваіх карысных мэтах хочуць абылгаць першага прэзідэнта і набраць сабе ачкі... Цяжка прывыкнуць да гэткіх парадоксаў, калі сказаць мякка.

### *ЛІЧБА ТЫДНЯ*

200 мільярдаў рублёў завінавацілася Беларусь Расіі за газ толькі за люты. У сакавіку доўг расце. Адлік вядзецца ад 1 лютага — ад гэтак званага "нулявога варыянта", які яшчэ не ратыфікаваны ні ў Маскве, ні ў Мінску. Чым будзем разлічвацца з Расіяй на гэты раз? Суверэнітэтам?..

### *ДЫЯГНАЗ ТЫДНЯ*

"Ці шкадуеце вы, што распалася Рымская імперыя?" — пытае ў сваіх чытачоў "Фемида" (N 13). І сама адказвае: 99,9 працэнта рэспандэнтаў шкадуюць... Але, калі б спыталі пра гэта ў рымскіх рабоў, то працэнт шкадуючых быў бы максімальным. Бо "няма для раба большага няшчасця, чым смерць яго гаспадара, які клапаціўся пра яго — карміў і апранаў... Яшчэ большае няшчасце для раба — атрыманне волі. І зусім ужо страшна — волі нечаканай, небам, лёсам дараванай. Быць чалавекам вольным, аказваецца, зусім не проста. Перш за ўсё трэба думаць. Трэба самому прымаць рашэнні. Рабіць выбар..." Менавіта на такіх людзей, якія "яшчэ не ўсвядомілі, што ім нечакана-негадана прываліла воля", і разлічаны рознага роду рэферэндумы "сацыёлагаў", што "пасыпаюць соль на раны": "Шкадуеце вы, што распаўся СССР?" Шкадуюць. І нічога дзіўнага. Але будучыня не за тымі 75 працэнтамі, што шкадуюць і плачуцца, а за тымі 25, што могуць думаць, што гатовыя да самага галоўнага ў жыцці — зрабіць выбар.

### *СВЯТКАВАННЕ ТЫДНЯ*

Адзначэнне 78-х угодкаў БНР вылілася ў Мінску ў 30-тысячны мітынг, які паказаў, што ідэя незалежнасці жыве на Беларусі і будзе жыць, покуль Жыве Беларусь.

### *ПРЫЗНАЧЭННІ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт Беларусі на мінулым тыдні падпісаў некалькі "кадравых" указаў. Анатоль Бутэвіч афіцыйна вызвалены ад пасады міністра культуры і друку ў сувязі з пераходам на іншую работу. Намеснікамі міністра культуры прызначаны Ю. Цвяткоў і Ю. Стральчонак. На жаль, разам з указамі не друкуюцца біяграфіі новых кіраўнікоў. Калі Юрыя Мікалаевіча Цвяткова мы добра ведаем па працы ў сферы культуры, на кінастудыі "Беларусьфільм", то імя Юрыя Сцяпанавіча Стральчонка большасць з нас чуе ўпершыню.

### *ПЕРАТВАРЭННЕ ТЫДНЯ*

Разам з паведамленнямі пра "единение" Беларусі і Расіі газеты надрукавалі і інфармацыю аб пераўтварэнні генеральных консульстваў Рэспублікі Беларусь у Рыме, Бухарэсце, Гаазе і Таронта адпаведна ў пасольствы Рэспублікі Беларусь у Італьянскай Рэспубліцы, Румыніі, Каралеўстве Нідэрланды і ў Канадзе. Інтэграцыя ў вольны свет працягваецца. Па інерцыі?

### *АПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт Беларусі апярэдзіў Вярхоўны Савет і стварыў камісію па "праверцы фінансава-гаспадарчай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і падведамасных яму суб'ектаў гаспадарання". У склад яе ўвайшлі Генеральны пракурор В. Капітан, дзяржсакратар бяспекі В. Шэйман, міністр унутраных спраў В. Агалец, начальнікі дзяржаўнай падаткавай інспекцыі М. Дзямчук і службы кантролю прэзідэнта М. Дамашкевіч, старшыня камітэта дзяржбяспекі У. Мацкевіч, старшыня кантрольнай палаты В. Саковіч і інш. Імёны гавораць самі за сябе... Наўрад ці і да 25 красавіка, калі дзяржсакратар бяспекі В. Шэйман дакладзе прэзідэнту аб выніках праверкі, і пасля І. І. Ціцянкову давядзецца шмат хваляваццa.

### *ПАДМАН ТЫДНЯ*

"Народная газета" 27 сакавіка на першай паласе парадавалася, што "не упустила подписную пальму первенства" і набрала на другі квартал г. г. 246911 падпісчыкаў. Аднак, мяркуючы па некалькіх нумарах "НГ", што выйшлі пры новым рэдактары, людзі падпісваліся зусім на іншую газету... І іх проста падманулі, змяніўшы рэдактара (а, адпаведна, і змест газеты) пасля заканчэння падпіскі. Калі "Народная газета" і надалей застанецца такою, якую мы маем сёння, то можна смела прагназаваць ёй будучыню, падобную лёсу "Знамя юности": падзенне накладу з 700 тысяч да 17. А таму — радавацца будзем потым, хоць бы праз квартал, калегі.

### *ДАЗВОЛ ТЫДНЯ*

Дзяржкамітэт па друку Рэспублікі Беларусь накіраваў у рэдакцыі газет, якія друкуюцца за межамі Беларусі, паведамленне аб тым, што паліграфічныя прадпрыемствы нашай краіны маюць магчымасць друкаваць іх выданні. Паведамлена таксама, што рэдакцыі могуць заключыць дагаворы на распаўсюджванне сваіх выданняў праз сістэму "Саюздруку" ва ўстаноўленым парадку. Толькі вось ці захочуць вяртацца самастойныя выданні пад дзяржаўнае крыло? У наш непрадказальны час лепш спадзявацца толькі на саміх сябе. Тым больш, што такой дзяржаве можна і сказаць — "единожды солгавши — кто тебе поверит".

*З нагоды*

## ГАСПАДАРЫ

Беларуска-расійскія перамовы ў Маскве, заявы Лукашэнкі аб перспектыве "саюза, якога яшчэ свет не бачыў", — інакш кажучы, рэальная пагроза самому існаванню Беларускай дзяржавы з'яднала пад бел-чырвона-белым сцягам учарашніх палітычных апанентаў. Нацыянальны камітэт па святкаванні 78-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі сабраў цэлае сузор'е аўтарытэтных палітыкаў ад памяркоўных лібералаў-рыначнікаў да радыкальных нацыяналістаў. Як бы там ні казалі, што беларуская нацыянальная ідэя апошнім часам церпіць паразу за паразай, што неяк "не атрымліваецца" суверэнная Беларуская дзяржава, тым не менш за гады незалежнасці з'явілася нямала людзей, якія хочуць жыць ва ўласнай хаце пад назвай Беларусь, а не кватараваць у камуналцы "абноўленага саюза".

Здаецца, што каштоўнасць незалежнасці пачынаюць усведамляць услед за культурнай і палітычнай элітай і паспалітыя людзі. Грандыёзная дэманстрацыя 24 сакавіка — сведчанне гэтаму. Для тых, хто пасля травеньскага "рэферэндуму" перажыў нешта блізкае да пачуцця страты Радзімы, 24 сакавіка стала днём вяртання надзеі. Відовішча вялікай грамады пад нацыянальнымі сцягамі ўражвала і ў эстэтычным і ў палітычным сэнсе.

Падзеі таго дня шырокавядомы. Яны сталі навіной нумар адзін у еўрапейскай інфармацыйнай прасторы. Тое, што адбылося ў Мінску, як беларусы "прагнуць уз'яднання з Расіяй", пабачылі мільёны тэлегледачоў на захад ад Беларусі. Сёе-тое трапіла і на расійскі (а значыць, СНДны) экран.

Вельмі сімвалічны быў кадр мітынгу каля Опернага тэатра, калі сярод мора бел-чырвона-белых сцягоў прамільгнуў сіні з залатымі зоркамі, скампанаванымі ў круг, сцяг Еўрапейскага Саюза. Вось яна, наша сапраўдная мэта, сапраўдная мара — вольная і заможная Беларусь у вольнай і заможнай Еўропе.

Думаю, не без уплыву мінскіх падзей днём пазней прэзідэнт Расіі зрабіў заяву, што ніякае аб'яднанне Расіі і Беларусі не плануецца...

Гэтым днём моцна пахіснуўся і так невысокі, нетрывалы аўтарытэт выканаўчай улады. Бо скарыстанне сілы ёсць сведчанне слабасці. За дубінку бярэцца той, хто не здольны пераканаць апанента.

Кажуць, пачні рушыць дом — даведаешся, хто гаспадар. Калі ўзнікла пагроза беларускаму дому, дык і гаспадары знайшліся. Вы бачылі іх на мінскіх вуліцах пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*Фота Тараса КУТНЯКА*



## 24 САКАВІКА 96-ГА

**Дзе ў роздуме стаў Максім,**
**На апоўзнях былой зімы**
**Гаварылі усе аб <u>ім</u>,**
**(Чым <u>яго</u> заслужылі мы?).**

**Хто па прозвішчу называў,**
**Ну, а хто далікатна — "той".**
**То смяяўся народ, то кляў,**
**То слязу уціраў рукой.**

**Усе мы былі адно —**
**І душа ў нас адна, і плоць.**
**І адвечнага неба радно**
**Нам казала, што воля —**
**ёсць!**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*ПРАГУЧАЛА З ПАРЛАМЕНЦКАЙ ТРЫБУНЫ*

## С. БАГДАНКЕВІЧ: "З КІМ МЫ ХОЧАМ АБ'ЯДНАЦЦА?"

Паважаныя дэпутаты! Апошнім часам нашы тэлевізійныя праграмы пастаянна скажаюць пазіцыю фракцыі "Грамадзянскае дзеянне", пазіцыі дэпутатаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі па пытаннях унутранай і знешняй палітыкі. Запярэчыць публічна праз тэлебачанне ва ўмовах нашай "дэмакратыі" мне не даюць. Я хацеў бы, хоць бы перад вамі, зрабіць заяву. Наша фракцыя адназначна выказваецца за стварэнне ў Беларусі адкрытага грамадзянскага грамадства, за адкрытую эканоміку, за цеснае, узаемавыгаднае супрацоўніцтва з Расіяй, за свабодны рынак у СНД, за дружбу з вялікім рускім народам. Няма чаго дзяліць нам з народам Расіі і з народамі іншых краін.

У той жа час мы адназначна выказваемся супраць паспешлівых саюзаў, якія звычайна заканчваюцца вялікім "пшыкам", або "хлапком", як гэта было з рублёвай зонай. Мы супраць таго, каб спрабаваць падыграць некаму на выбарах прэзідэнта ў Расіі. Супраць таго, каб спадар Лукашэнка, які абавязаўся перад народам пайсці ў адстаўку праз два гады, калі ён пакажа сваю нядольнасць у плане вырашэння эканамічных і іншых праблем (а ён паказаў гэту няздольнасць, мы ў галечы жывём і наша эканоміка ляжыць), мог, скарыстоўваючы ідэю саюза, калі Расія зацікаўлена падыграць нам у гэтым плане, утрымацца ва ўладзе. Мы з Расіяй жывём у агульнай камунальнай кватэры. У нас агульная валюта, таму што яна канвертуемая, у нас свабодны пераліў капіталу, у нас няма мытных і іншых межаў. Што мы атрымаем, калі аб'яднаемся з Расіяй, дзе дзікунскі капіталізм, дзе мафіёзныя структуры страляюцца адна з адной на вуліцах і г. д., дзе льецца кроў у Чачні, дзе неспакойна ў Інгушэціі і Паўночнай Асеціі? З кім мы хочам аб'яднацца? Я мог бы зразумець, калі б мы хацелі аб'яднацца з еўрапейскім супольніцтвам, дзе стабільнасць, салідарнасць, высокая забяспечанасць народа. З кім мы ў дадзеных умовах хочам аб'яднацца, аддаць сваю незалежнасць, свой суверэнітэт за нішто? Няўжо мы не бачым, што робіцца ў Расіі?! Мы ж бачым гэта. Мы ж нармальныя людзі. Мы нічога не атрымаем, акрамя страты свайго суверэнітэту.

## М. ГРЫБ: "УСХВАЛЯВАЛІ НАСТУПЫ НА КАНСТЫТУЦЫЮ..."

Я вымушаны сёння выйсці за гэтую трыбуну ў сувязі з тым, што мяне ўсхвалявалі апошнія наступы на нашу Канстытуцыю.

Як вядома, Канстытуцыя, як і ўсякі дакумент, можа мець пэўныя недакладнасці, але ў нас ёсць працэдура, як гэтыя недакладнасці можна выпраўляць. Калі ласка, ёсць прапановы, уносьце, будзем вырашаць, будзем разглядаць.

Але адбываецца зусім іншае. Напрыклад, сёння дэпутату, які мае іншыя думкі, чым кіраўніцтва выканаўчай улады, доступу да тэлебачання, да радыё, да сродкаў масавай інфармацыі няма. Ёсць такі доступ тым, хто падзяляе пазіцыю прэзідэнцкай улады. Напрыклад, учора спадар Замяталін і прафесар Акулаў па тэлебачанні з усіх сіл намагаліся пераканаць людзей у тым, што трэба ўносіць змены ў Канстытуцыю, бо Канстытуцыя не абмяркоўвалася, не прымалася рэферэндумам.

Але ж у законе нідзе не сказана, што Канстытуцыя павінна прымацца рэферэндумам. Няпраўда тое, што Канстытуцыя наша нібыта прымалася пайменнымі бюлетэнямі і што гэтыя бюлетэні развозіліся па месцах жыхарства дэпутатаў, дзе яны галасавалі за той ці іншы артыкул.

І яшчэ адна заўвага. Нядаўна па радыё я пачуў, што створана нейкая міжведамасная камісія па праверцы Кіраўніцтва справамі пры Адміністрацыі прэзідэнта. Гэтую камісію стварыў прэзідэнт і ўключыў туды некалькі дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Якіх дэпутатаў? Хто іх вылучаў? Атрымліваецца, што прэзідэнт іх абраў на свой погляд і падыход у абыход парламента. Я не разумею гэтага. Давайце спыняць такую практыку.

26.III.96 г.

*Меркаванне*

## ПАВЕРЫМ?..

Зусім дзіцём я думаў, што слова "расізм" паходзіць ад "Расія". Потым аказалася, што гэта не зусім так — словы маюць розную этымалогію.

Пасля развалу СССР, таго "землятрусу", у выніку якога адарваліся кавалкі імперыі, узнялася хваля расійскага шавінізму й панславізму, якая захліснула цяпер Беларусь. Да прыкладу, наша "Радыё 1", якое заўсёды было, ёсць і будзе, палітычна граматным, пачало выпускаць у эфір перадачы, прысвечаныя "адраджэнню казацтва ў Расіі" і інш. такога ж кшталту; нядаўна там жа са здзіўленнем слухаў гімн "Боже, царя храни!" Цяпер нам з радасцю расказваюць пра тое, як на мяжы Украіны, Беларусі й Расіі вырашана пабудаваць "село Троицкое", дзе "будут жить славяне". Паводле якіх антрапалагічных ды фізіялагічных прыкметаў будуць адбіраць сапраўдных славянаў — ніхто не гаворыць. А, можа, хутка галоўны пляц сталіцы пераназавуць у пл. "Славянского единства"? Кажуць, такія прапановы "адтуль" ужо ёсць.

Трыццаць гадоў таму, у сакавіку 1966 г. вядомы французскі драматург румынскага паходжання Эжэн Ёнэска, пісаў: "Я ўпэўнены, што ў краінах, пераўтвораных Савецкай Расіяй у калоніі, былі й ёсць сілы любові, не зніклі шчырае жаданне й рашучасць стварыць лепшае грамадства, і таму зразумела, што не сацыялізм мне так не падабаецца, а рэакцыйна-тыранічны дух "Святой Русі", краіны незразумелай і непрадказальнай, краіны самых жорсткіх і страшных цароў, краіны жахлівага імперыялізму, краіны фанатычнай і расісцкай, якая стагоддзямі спавядала панславізм, мяняла догмы й ідэалогію адно для таго, каб у які ўжо раз апраўдацца і знайсці новую кропку апоры перад чарговым скачком. Краіна генацыду — ці не з расійскай мовы прыйшло на Захад слова "погром"? Краіна цынізму, прапаганды й ілжы — заўсёднай спадарожніцы любой прапаганды..."

Ці з такой краінай нам трэба зараз ісці? Адно суцяшае — як апраўдваўся наш прэзідэнт на сесіі ў гэтую сераду, дамова з Расіяй, як аказваецца, "не выходит даже на стандартный уровень Евросоюза", гэта, "чуть больше, чем рамочный договор".

Паверым?..

**Аляксей ШЭІН**

Выставы

# МЕЛОДЫЯ АДРАДЖЭННЯ



Традыцыйна 25 сакавіка ў Палацы мастацтваў, у дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, адкрылася выстава суполкі "Пагоня". Пад гукі паланеза Міхала Агінскага "Развітанне з радзімай" мастакоў прывіталі Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Зянон Пазняк.

Насуперак мінулагоднім выставам сёлетняя экспазіцыя атрымалася надзвычай светлая і ўзнёслая. Яскрава выявілася гэта ў жывапісных палотнах А. Марачкіна, Я. Батальёнка, А. Пушкіна, Я. Цімохава, не супярэчаць, а гарманіруюць з імі вытанчаныя графічныя лісты Р. Сітніцы, У. Васюка, габелены В. Маркавец-Бартлавай, В. Дзёмкінай, кераміка Я. Бусла і Л. Талбузіна, выцінанкі Н. Сокалавай-Кубай. Зрэшты, не абышлося на выставе і без трапных палітычных карыкатур, і без сумеснай інсталяцыі ўсіх сяброў аб'яднання. Але ж найбольшае ўражанне засталося не ад гэтых "палітычных сатыр", а ад адухоўленасці палотнаў мастакоў. Чым творчая грамада вельмі яскрава даводзіць усім нам, што Бацькаўшчына — насуперак усяму — жыве!

Матэрыял пра выставу суполкі "Пагоня" ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа".

**Н. Ш.**

*На здымках: на адкрыцці выставы; Я. КУЛІК трыпціх "Ефрасіння Полацкая", "Дойлід Іван", "Майстар Богуш".*

Фестывалі

# БУДЗЕМ ЖЫЦЬ З МУЗЫКАЙ!

Спадзеючыся на гэта, глядзяць у XXI стагоддзе арганізатары фестывалю "Мінская вясна-96". Яны вызначылі тэму традыцыйнага міжнароднага фэсту шматабяцальнаю назвай: "Музыка на мяжы XXI стагоддзя". А за назвай — разнастайнасць імёнаў, жанраў, стыляў. Прэм'еры сучасных твораў і непадуладная павевам часу класіка. Гастралёры з Аўстрыі, Германіі, Расіі — і ўзыходзячыя "зоркі" беларускага выканальніцтва... Вялікая ды камерная філарманічныя залы, афіша "даўжынёю" амаль 20 дзён — выбар сапраўды ёсць! Адбудуцца два канцэрты сусветна вядомага расійскага піяніста, даўняга сябра мінскай публікі Мікалая Пятрова; рыхтуецца вечар беларускай санаты; Акадэмічны народны аркестр імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам М. Казінца ды Дзяржаўны канцэртны аркестр на чале з М. Фінбергам пры ўдзеле джазавага ансамбля "Камерата" збіраюцца здзівіць супольным выступленнем; два дні запар з лепшымі праграмамі будуць выступаць "Харошкі"; духавы аркестр "Няміга" з дырыжорам П. Вандзілоўскім ды артыстам В. Анісенкам сваю імпрэзу прымяркоўваюць да 10-годдзя чарнобыльскай трагедыі... Які вялікі пералік ні быў бы, ён не адлюструе багатую і маляўнічую панараму мастацтва, "зашыфраваную" ў двух словах: "Мінская вясна". Першы канцэрт фестывалю — у панядзелак: калектыў студэнтаў пад кіраўніцтвам знанага маэстра Віктара Роўды парадуе публіку яркім харавым канцэртам.

**С. Б.**

# ДЭМАНСТРАЦЫЯ АДСУТНАСЦІ

## ЗАЯВА БЕЛАРУСКАГА ХЕЛЬСІНКСКАГА КАМІТЭТА

Беларускі Хельсінкскі Камітэт выказвае заклапочанасць дзейнасцю выканкама Мінскага Савета, якая абмяжоўвае законныя правы грамадзян. Нічым неабгрунтаваная забарона мітынгу незалежных прафсаюзаў, мірнага шэсця ў падтрымку незалежнасці выклікалі напружанасць у грамадстве, пратэст супраць парушэння гарантаваных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь правоў асобы. Уся адказнасць за падзеі 24 сакавіка ў Мінску кладзецца на кіраўніцтва Мінскага гарвыканкама.

Тэндэнцыйнае асвятленне падзей 24 сакавіка, асабліва ў беларускіх электронных сродках масавай інфармацыі яшчэ раз прадэманстравала ўсяму свету адсутнасць на Беларусі свабоды слова.

Жорсткасць, з якой спецпадраздзяленні распраўляліся з безабароннымі маніфестантамі, не мае сабе роўнай у гісторыі Беларусі. Узброеныя мужчыны ў масках, касках ужывалі сілу супраць жанчын і дзяўчат, збівалі дубінкамі старых людзей, разбівалі ў кроў твары. Мы рашуча асуджаем антыгуманныя і антыдэмакратычныя дзеянні сілавых структур, што правакуюць грамадзянскую вайну на Беларусі.

Патрабуем, каб віноўныя ў гэтых злачынствах былі пакараныя згодна з Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь.

*Прынята выканкамам БХК, 26 сакавіка 1996 г.*

Віншуем!

# 700, 78 і 50 ГОД

Напярэдадні Дня Волі ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры, дзе ўжо не раз ладзіліся экспазіцыі выяўленчага мастацтва, адкрылася персанальная выстава графіка Міколы Купавы. Нагадаю для творчай справаздачы — юбілей творцы: сёлета Купаве споўнілася пяцьдзесят год. Але сам мастак лічыць асабіста для сябе больш важнымі іншыя даты — 700-годдзе надання герба "Пагоня", нашай нацыянальнай святыні, статуса дзяржаўнага герба Вялікага княства і 78-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

На вернісажы прысутнічалі вядомыя дзеячы сучаснага Адраджэння, шматлікія сябры і калегі мастака. Выступоўцы прыгадвалі эпізоды творчай біяграфіі Міколы Купавы, па якіх можна прасачыць найноўшую гісторыю патрыятычнага руху Беларусі. Тое ж адлюстравана ў творах, прадстаўленых у экспазіцыі. М. Купава вядомы як майстар эстампа, як мастак-даследчык гісторыі і культуры. Без ягоных твораў цяжка ўявіць культурную прастору двух апошніх дзесяцігоддзяў.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

# СМЯЯЦЦА — ДЫК СМЯЯЦЦА...

Смех, кажуць, ачышчае, жывіць душу, прадаўжае жыццё. Каб пераканацца ў гэтым, варта завітаць на вечарыну гумару "Рэха Аўцюкоў", што пройдзе ў Доме літаратара 1 красавіка. Ладзіць гэтае калектыўнае "жартаванне" Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і выканкам Калінкавіцкага раёна. А таксама — Беларускі дзіцячы фонд і Мінскі цэнтр адраджэння і развіцця беларускай культуры. Да іх далучыліся Саюз беларускіх пісьменнікаў і Беларускі універсітэт культуры, не засталіся ўбаку рэдакцыі часопіса "Вожык", газет "Рэспубліка", "Звязда"...

У выніку чакаецца яркае, цікавае, захапляючае відовішча, на якім будзе адзін пастаянны гаспадар — сам спадар Смех. Для падтрымкі ж яго мабілізавана вялікая група тых, хто не толькі смяяцца ўмее. А гэта — народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, а поплеч з ім не народныя па званні, але таксама таленавітыя Алесь Петрашкевіч, Валянцін Блакіт, Генадзь Бураўкін (не блытаць з Генадзем Буралкіным, які, калі і будзе на вечарыне, дык яму месца толькі ў зале), Сяргей Законнікаў, Мікола Чарняўскі.

Галоўнымі ў групе захопу... суму, стомленасці, самотлівасці стануць пераможцы I Усебеларускага фестывалю народнага гумару "Аўцюкі-95" — народныя тэатры мініяцюр "Фанограф" Гарадоцкага ГДК, "Балаган" Лепельскага РДК, "Карусель" Палаца культуры Мінскага трактарнага завода, выканаўца ўласных прыпевак Ніна Захарэвіч з Пастаўскага раёна, выканаўца жартоўных песень Аляксандр Працкевіч са знакамітай Крупіцы Мінскага раёна, тэатр жарту Калінкавіцкага РДК, тэатр гульні кафедры рэжысуры святаў Беларускага універсітэта культуры, гурт вандроўных музыкаў "Фэст" з Баранавіч...

Пераказаць, што будзе на вечарыне, — немагчыма. Хіба толькі варта нагадаць, што аўцюкоўскае частаванне правядуць пераможцы агляду-конкурсу падворкаў Вялікіх і Малых Аўцюкоў Яўхімія Есьман і Яўгенія Гаркуша... Ініцыятары і аўтары Першага Усебеларускага фестывалю народнага гумару Уладзімір Ліпскі, Алесь Петрашкевіч, Тадэўш Стружэцкі, Пётр Гуд (дарэчы, ён рэжысёр-пастаноўшчык і гэтага свята) раскажуць... Што раскажуць, пакуль невядома. Відаць, гэта будзе залежаць ад таго, калі сам аповяд адбудзецца: да частавання ці пасля частавання...

А яшчэ кажуць, што Акадэмія навук (пакуль толькі Беларусі, бо аб'яднанне якраз з Расіяй не адбылося) будзе праводзіць навуковы аналіз і агучванне запісаных на фестывалі прыстойных і непрыстойных (для навукі) анекдотаў...

Сцвярджаюць, што частаванне не паўплывае на падвядзенне вынікаў конкурсаў анекдотаў газеты "Рэспубліка" і прыпевак газеты "Звязда"...

Запланавана, што вядучымі свята стануць народны артыст СССР Генадзь Аўсяннікаў і артыстка купалаўскага тэатра Галіна Бальчэўская...

Калі пасля гэтага вы захацелі 1 красавіка быць у вялікай зале Дома літаратара, калі ласка, прыходзьце. Толькі не забудзьце прыхапіць з сабою ...жарт, альбо пяць тысяч рублёў. Рэч у тым, што ўваход у залу — толькі праз "Аўцюкоўскую мытню", а "мытнікі" гумар па-свойму разумеюць. Хочаш трапіць туды, куды пакуль ніхто не трапляў — ці анекдот раскажы (зразумела, не такі, ад якога вушы вянуць і апускаецца ...настрой), ці пакінь пяць тысяч. Не для хабару, а на падтрымку новага гумарыстычнага фестывалю. А лепей, бадай, і тое, і другое з сабой узяць.

Гуляць — дык гуляць, смяяцца — дык смяяцца! Блізу 18 гадзін 1 красавіка збіраемся ля "Аўцюкоўскай мытні" ў Доме літаратара.

Варункі

# ШТО ПЕРАМОЖА?

**Прызнаюся, дзве рэчы звязваюць мяне і паэта Генадзя Пашкова. Мы абодва любім Пціч і, спадзяюся, беларускую мову.**

**Пціч натхніла Генадзя Пашкова на дзіцячую кніжку, а ягоная настойлівая беларуская мова даволі дзіўнавата выглядае ў кодле "славянствующих" і рознай іншай "тожебелорусской" інтэлігенцыі.**

**Бачыў яго неяк па тэлевізары за круглым сталом пасля сумнавядомых "Дзяцей ілжы", дзе ён па-беларуску, насуплена "змагаўся" з беларускім нацыяналізмам.**

**Цікава мне было паглядзець на чалавека, які гадаваўся ў беларускай вёсцы, які скончыў беларускае аддзяленне філфака, самарэалізаваўся дзякуючы беларускай мове, а цяпер выступаў заадно з людзьмі, якія надта не любілі беларушчыну. Згадваю 1990-ы год. Наш сцяг яшчэ не быў дзяржаўным, але яго ўжо ўздымалі паўсюль. Ля помніка Максіму Багдановічу на дзень яго нараджэння сабраліся аматары паэзіі вялікага Беларуса. Прыйшоў і Генадзь Пашкоў, які працаваў тады ў ЦК камуністычнай партыі. Над купкаю людзей лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Гаварылі прамовы, чыталі вершы. Генадзь Пашкоў пад сцяг не пайшоў. Сціпленька прастаяў убаку на ходніку. І гэта была пазіцыя.**

**А вось зараз яго прызначылі рэдактарам "Беларускай энцыклапедыі" на месца заўчасна памерлага Барыса Сачанкі. Барыс Іванавіч быў на сваім месцы, але прабыў на пасадзе нядоўга. Пры ім выйшлі два тамы гістарычнай энцыклапедыі і падрыхтаваны энцыклапедычны аднатомнік "Беларусь", дзе пра сённяшняга галоўнага рэдактара няма ані радка.**

**У выдавецтве поўным ходам ідзе падрыхтоўка да другога выдання шматтомнай Беларускай энцыклапедыі. У такім выданні звычайна збіраюць усё жыццё нацыі. Калі адзін мой знаёмы даведаўся, што галоўным рэдактарам энцыклапедыі прызначылі Генадзя Пашкова, дык ён уголас запытаўся сам у сябе: няўжо прыйдзецца трэці раз энцыклапедыю перапісваць?**

**І я таксама калі падумаў, што Генадзь Пятровіч раптам захоча ўбачыць у энцыклапедыі ўсе трыццаць з гакам з'ездаў сваёй любімай партыі, дык мне стала вельмі сумна.**

**Было ўжо такое, што іншы знакаміты беларускі панславіст нядаўна памерлы І. Чыгрынаў таксама ўваходзіў ва ўсялякія сербскія камітэты. Тым не менш, за ягонымі шырокімі плячыма спакойна жыла "Спадчына".**

**Што будзе цяпер выходзіць у энцыклапедыі і ці такія ж шырокія плечы ў Генадзя Пашкова — пабачым.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

***P. S.* Насцярогі аказаліся небеспадстаўнымі. Пасля напісання "Варункаў" стала вядома, што "на дапрацоўку" пры новым рэдактары павернутыя трэці том Энцыклапедыі Гісторыі Беларусі ды першы том Беларускай энцыклапедыі.**

## 30 ГАДОЎ — ГУЧЫЦЬ І РОБІЦЬ СВАЁ

**"Трэба рабіць сваё", — цытаваў калісьці беларускага класіка на нашых старонках Андрэй Каляда. "Я прыхільнік тэорыі малых спраў. Кожны мусіць рабіць сваё на сваім месцы", — пачаў быў у інтэрв'ю "ЛіМу" Юрась Чарэнка (яго вы зможаце прачытаць у бліжэйшых нумарах). Першы — стваральнік і былы кіраўнік народнага тэатра "Жывое слова", другі — кіраўнік цяперашні. Таго самага "Жывога слова" пры Педагагічным універсітэце, дзе кожны год мяняюцца акцёры, дзе век спектакля большы хіба за год, дзе творчая й вытворчая неабходнасць часцяком саступае навучанню й выхаванню...**

**29 сакавіка "Жывому слову" — 30 гадоў. Гучыць і робіць сваё! З чым яго і віншуем палімаўску ды па-сяброўску.**

## БЕЛАРУСЬ У ПЕРШЫМ ТЫСЯЧАГОДДЗІ НАШАЙ ЭРЫ

**Сёлета з 12 па 15 красавіка ў Мінску прайшла міжнародная канферэнцыя "Беларусь у сістэме трансеўрапейскіх сувязяў у I тысячагоддзі н. э." Арганізатарамі выступілі Цэнтр этнакасмалогіі "Крыўя", Фонд развіцця традыцыйнай этнічнай культуры (ФРТЭК) і Інстытут гісторыі АН Беларусі. Былі створаны спрыяльныя ўмовы для плённай працы вучоных. Такая тэма канферэнцыі была абрана невыпадкова. У I тысячагоддзі нашай эры адбываліся важныя працэсы ў культуры, рэлігіі, мове, эканоміцы, грамадскіх адносінах насельніцтва тагачаснай Еўропы, якія значна паўплывалі на фармаванне этнасаў і далейшае развіццё падзей. Удзел у канферэнцыі ўзялі спецыялісты рознага профілю — мовазнаўцы, археолагі, культуролагі, этнамузыколагі, фалькларысты, антраполагі, этнолагі з 7 краін — Беларусі, Літвы, Латвіі, Расіі, ЗША, Польшчы і Украіны. Адбылася ўзаемакарысная дыскусія па пастаўленай праблематыцы, абмяркоўваліся высновы, атрыманыя ў выніку даследаванняў і падмацаваныя фота-, аўдыё- і відэаматэрыяламі. Арганізатары выказваюць вялікую падзяку спонсарам — фірмам "Ваўкалака", "Дайнова" і "Понедельник" за дапамогу ў падрыхтоўцы канферэнцыі.**

**Інфармацыйная служба "ISK"**

## НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ



**Комплекс музея беларускай культуры, які будуецца ў Гайнаўцы (паўночны ўсход Польшчы), будзе ўмяшчаць музей, культурны цэнтр і матэль на 25 месцаў.**



*На здымку: першыя экспанаты ў часткова пабудаваным музеі.*

*Фота ПАП / ЦАФ-БЕЛТА*

Пошта

# ПАТРЭБА ДНЯ — ІДЭАЛОГІЯ СВАБОДЫ!

Апошнім часам часта даводзіцца чуць, што, вось, не бяруць нас у Еўропу — не бяруць ні з нашым таварам, непатрэбным на насычаным еўрапейскім рынку, ні ў больш шырокім аспекце, маючы на ўвазе прыкрае непрыняцце нашае краіны ў Савет Еўропы, арганізацыю, куды не пускаюць толькі нас ды яшчэ ваюючую Боснію і Герцагавіну.

Не хацеў бы заступацца за гордую і непадкупную Еўропу і вышукваць для яе апраўданні, чаму яна такая несправядлівая ды нячулая да рахманых і працавітых беларусаў.

Давайце паразважаем аб тым, як мы самі ставімся да Еўропы, у якое месца сваёй свядомасці мы ставім сваю еўрапейскасць, што і ў які бок тут змянілася за апошнія гады.

Кажуць, што апошнім часам мы сталі бліжэй да Еўропы. Так, нашмат спрасцілася працэдура афармлення дакументаў для паездкі за мяжу. Супрацоўніцтва, абмен лістамі ды факсамі актыўна вядзецца як на ўзроўні прадпрыемстваў, так і на ўзроўні фізічных асоб. Можна сказаць, што мы ўжо патроху набліжаемся да адчування, што Парыж ды Лондан бліжэй да нас, чым адваротны бок месяца.

Аднак усё гэтае новае супрацоўніцтва, калі разабрацца, мае пад сабой аснову матэрыяльнага абмену, абмену матэрыяльнымі ці тэхнічнымі інтэлектуальнымі каштоўнасцямі, — яно не кранае або кранае толькі ў самай нязначнай ступені каштоўнасці духоўныя і культурныя. А вось якраз змены ў абмене культурнымі, нематэрыяльнымі каштоўнасцямі — або ніякія, або негатыўныя.

Назаву толькі тое, што бачыцца пры павярхоўным паглядзе.

Паглядзім на нашы газетна-часопісныя шапікі. Не будзем дзяліць тое, што там прапануецца, на прэсу дэмакратычную і таталітарную, на левую, правую, тэхнічную, парнаграфічную і г. д. Нават не будзем засяроджвацца на тым, на якой мове прапануецца большасць тавару. Давайце разгледзім толькі адно — дзе вырабляецца ўся гэтая прадукцыя. І супаставім гэтую геаграфію хоць бы з тым, што было пры СССР.

Цяпер геаграфія звужана да непрыстойнасці: Мінск, Масква, мясцовыя выданні. Дзе-нідзе ёсць спецыялізаваныя выданні з Польшчы, Германіі, Аўстрыі па вязанні, модах, сексе, культурызме ды рок-музыцы. Нідзе не знайсці перыядычных выданняў, так бы мовіць, агульнага напрамку не беларускага і не расійскага паходжання. Мне цяжка сабе ўявіць, па чым вывучаюць, напрыклад, нямецкую мову цяперашнія студэнты. Ну, добра, прычыны, чаму перастала існаваць Neues Deutschland, нам вядомыя. Handelsblatt за тры дойчмаркі і Die Welt за дзве нам на кожны дзень недаступныя. Аднак — куды падзеліся Panorama ды Perspektywi, іншыя польскія выданні? Чаму цяпер немагчыма купіць у кіёску нават беластоцкую "Ніву"?

Магчыма, купляць свежыя нумары газет і часопісаў Германіі і Польшчы, іншых еўрапейскіх краін па тых цэнах, за якія яны прадаюцца ў гэтых краінах, для нас занадта дорага. Аднак ці нельга парупіцца на дзяржаўным узроўні, каб частка тыражу спецыяльна выдрукоўвалася для нашай краіны ці для СНД у цэлым? Наша краіна магла б стаць сапраўдным мостам паміж Усходам і Захадам, калі б адважылася на такую ініцыятыву. Былі ж падобныя дамоўленасці ў былога СССР па газеце англійскіх камуністаў Morning Star, па газеце нямецкіх працоўных Neues Deutschland. Тады гэта вызначалася ідэалагічнымі прычынамі, і гэта было правільна, бо ідэалагічныя пытанні — самыя важныя пытанні для любога грамадства. І цяпер, калі мы сапраўды імкнёмся ў Еўропу, галоўнае для нас — пераняць не еўрпейскі тавар і нават не еўрапейскую тэхналогію, а пераняць менавіта еўрапейскую ідэалогію. І я не думаю, што яе можна было б выкласці на нямногіх старонках якогасьці глыбакадумнага трактата. Ідэалогія пранізвае ўсё, у тым ліку і прэсу. І самае галоўнае, што нам трэба пераняць ад Захаду — гуманістычную тэндэнцыю, павагу і адказнасць перад кожным канкрэтным, нават самым "маленькім" чалавекам.

Успамінаю сваю студэнцкую навуку і тую ж Neues Deutschland. Так здарылася, што ў тую пару пацярпеў катастрофу гэдээраўскі самалёт, загінула шмат людзей. Дык цэлая паласа ў гэтай газеце была адведзена паведамленню аб гэтых людзях — пра кожнага асобны артыкульчык: поўнае імя, месца і дата нараджэння, адрас, род заняткаў, іншая інфармацыя. Як гэта адрознівалася ад нашага роднага і знаёмага: "имеются человеческие жертвы".

Гэта быў сапраўдны ўрок гуманізму, які запамінаецца надоўга. Ад таго часу прайшло шмат гадоў, але да такога ўзроўню павагі да звычайнага чалавека, не героя і не перадавіка, нам яшчэ далёка. І мне здаецца, што мы не наблізімся да гуманістычнага ідэалу, калі будзем і надалей знаходзіцца ў штучнай інфармацыйнай самаізаляцыі — незалежна ад таго, ці ў рамках адной толькі Беларусі, ці ў рамках СНД у цэлым. Справа тут зусім не ў "идолопоклонничестве перед Западом". Ёсць нешта станоўчае там, ёсць і ў нас. Справа не ў тым, каб нешта слепа капіраваць. Але наша краіна павінна знайсці сваё месца ў агульнаеўрапейскім доме, а гэтага дасягнуць немагчыма, калі будзе працягвацца інфармацыйная ізаляцыя, нашмат мацнейшая, чым некалі пры СССР.

Нездарма разам з Перабудовай (толькі так, з вялікай літары, трэба пісаць гэтае слова, нават калі мы аказаліся няздольнымі скарыстаць усе тыя магчымасці, якія яна нам прадставіла) у сродках масавай інфармацыі, у тым ліку і па тэлевізары, сталі перадаваць астралагічную інфармацыю. Гэта адпавядае гуманістычнай еўрапейскай традыцыі, спрыяе засяроджанню чалавека на самім сабе і на сваіх справах. Толькі такі чалавек, засяроджаны на сабе і на сваіх справах, можа стаць суб'ектам прагрэсу ў еўрапейскім разуменні гэтага паняцця. Канцэпцыя сацыяльнай рыначнай гаспадаркі будуецца на рэалістычным уяўленні аб чалавеку, зыходзячы з таго, што чалавек стараецца прымаць рашэнні, якія ідуць на карысць яму самому або яго блізкім. Дасягненні чалавека тым вышэй, чым відавочней іх станоўчы вынік адбіваецца на яго́ным уласным лёсе. Сацыяльная рынкавая эканоміка лічыць сапраўдным рухавіком грамадскага дабрабыту пастаяннае імкненне чалавека да паляпшэння ўмоў свайго ўласнага жыцця. Не якіясьці планавыя арганізацыі, а кожны чалавек паасобку, незалежна і пад уласную адказнасць плануе, што яму спажываць, вырабляць, прадаваць ці купляць, бо ён лепш за ўсё ведае свае жаданні і патрэбы. І, канечне, такому чалавеку — свабоднаму, якому ўвесь час даводзіцца прымаць рашэнні, важна мець хоць нейкую зачэпку пры пастаянным недахопе інфармацыі. Такой зачэпкай становіцца для многіх менавіта астралагічная інфармацыя. Хай сабе гэта спецыфічны род інфармацыі, квазіінфармацыя, да якой, магчыма, нельга ставіцца абсалютна так, як да інфармацыі, аб падзеях, якія ўжо адбыліся, — аднак дайце чалавеку самому вырашаць, якой інфармацыяй яму карыстацца. Тым больш, што на інфармацыю аб падзеях, якія ўжо адбыліся, на тэлебачанні ставіцца такі моцны фільтр, што тая рэшта, якую прапануе нам наш блакітны экран, з дня ў дзень больш падобна сама на сябе, чым на рэальнае жыццё, якое быццам бы павінна быць адлюстравана...

Аднак астралагічны прагноз на Беларускім тэлебачанні спачатку скрозь выціскалі на ўсё больш позні і нязручны час, а цяпер вось забаранілі зусім. Ці на тое была воля Галоўнага тэлегледача, ці гэта робіцца па нейкай указцы, аднолькава ўладарнай і для БТ і для расійскага тэлебачання?..

Як бы там ні было, забарона астралагічнага прагнозу на Беларускім тэлебачанні ёсць яшчэ адзін удар па чалавечай свабодзе, бо ўсе іншыя перадачы так або іначай расказваюць чалавеку аб другіх людзях, і толькі астралагічны прагноз гаворыць яму аб ім самім.

Зноў пра тэлебачанне. Неяк неўпрыкмет знікла адзіная перадача на БТ, якая звязвала нашу краіну са знешнім светам. Маю на ўвазе навіны BBC і CNN. Калі сказаць чэсна, я вельмі рэдка глядзеў гэтую перадачу. Як для мне, дык занадта шырокі ахоп падзей як у геаграфічным сэнсе, так і з пункту гледжання тэматыкі. Не заўсёды дасканальным быў пераклад, абсалютна нязручны час выхаду ў эфір. Усё гэта так. Але што нам прапанавалі ўзамен? Здаецца, толькі "Панараму" даўжынёй у 55 хвілін. Я разумею, што тэлевізійныя вядучыя імкнуцца да большых ганарараў, але, але... На жаль, павелічэнне колькасці суправаджаецца, насуперак Энгельсу, паніжэннем якасці, і ўжо нас частуюць не толькі моўным вінегрэтам замест беларускай мовы ў дыктарскім тэксце, але і літарай "щ" у цітрах перадачы (напрыклад, 19 лютага 1996 г.), і многімі іншымі памылкамі.

Вось такія назіранні... Якія ж высновы могуць быць з іх зроблены?

Наша грамадства ў цяперашні час робіць сапраўды важкія крокі ў напрамку да сацыяльнаарыентаванай рыначнай эканомікі. Аднак часам узнікае ўражанне, што рэформы робяцца як бы нехаця, як бы падпарадкоўваючыся нейкаму знешняму ціску. На мой погляд, гэта адбываецца таму, што адстае, так бы мовіць, ідэалагічнае забеспячэнне рэформ. Рэформы ў першую чаргу павінны адбыцца ў галовах людзей. А ў нас ідэалагічна забяспечвалася толькі камуністычная хімера, быццам свабоднае грамадства — гэта грамадства без ідэалогіі наогул. Не. Свабоднае грамадства — гэта грамадства з ідэалогіяй Свабоды, і мы зараз маем пільную патрэбу ў такой ідэалогіі. Гэта павінны зразумець тыя, хто прымае рашэнні ў нас, і тыя, хто прымае рашэнне на Захадзе. На Захадзе павінны зразумець, што самым эфектыўным відам гуманітарнай дапамогі для нас была б інфармацыйная дапамога. Але мы таксама павінны быць гатовы прыняць такую дапамогу.

**А. УРБАНОВІЧ**

*г. Гомель*

Рэпліка

# ЗДЗІЎЛЕННЕ І ТРЫВОГА

Здавалася, нічым нас ужо здзівіць і ўразіць нельга. Выходзіць можна, ды яшчэ як. 15 сакавіка, у Дзень нашай Канстытуцыі, камуністычныя думцы Расіі і іх аднадумцы дружна прагаласавалі за аднаўленне Савецкай імперыі. Адыёзны Жырыноўскі нават пабразгаў наручнікамі: намёк — "трымайцеся і сушыце сухары". Другі малады палітык заявіў: "Украина — это же Россия, только там произношение несколько иное". А пра Беларусь у яго і гаворкі няма. Ведае, што аднадумцаў не бракуе і ў нас.

Перакладалі ж "дасведчаныя" лінгвісты: "У канюшыне трашчалі конікі" — "В конюшне ржали лошадки", "разгараўся золак" — "разгоралась зола", "аброць" — "обруч". Такая "ідэнтычнасць моў"!

Вось і прапаную самаўпэўненым "фобам" перакласці рыфмаванае практыкаванне, у якім няма ніводнага небеларускага слова.

**У вырai ветразь знікае**
**За хвалі, нібы на спачын, —**
**Ніякая здань не злякае,**
**Не ўразіць журбой далячынь.**
**У змроку зіхоткая здрада**
**Завабіць хлуснёй у віры.**
**На золку сканае прынада,**
**Нібыта мянтуз на жвіры.**
**Раптоўна згаданыя мроі**
**Ў карунках пяшчотнай тугі**
**Павольна знікаюць, як строі,**
**Бязважкасцю ў лёхі смугі.**
**Знікае ўсхвалёваны ветразь,**
**Я ж пільна з кунегай сачу,**
**Як знічка, зірнуўшы праз нетры,**
**Зайздросціць Алегу Зінчу.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

# КРЫЗІС РЭФОРМ
# або РЭФОРМА КРЫЗІСУ?

ЦЯЖКА СКАЗАЦЬ, што горш: шкадаваць Беларусь ці зайздросціць ёй. Яна завісла паміж Усходам і Захадам, паміж камунізмам і нацыянальным дэмакратызмам, паміж дзяржаўнай і прыватнай эканомікай. Усё гэта невыпадкова, ды і не так проста. Палітычныя і сацыяльныя працэсы трансфармацыі Беларусі прыкметна адрозніваюцца ад аналагічных зменаў не толькі ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, але і ў былых рэспубліках СССР. У адных гэта выклікае адназначна крытычную пазіцыю і жаданне “расправіцца” з тымі, хто перашкаджае рэформам, інтэграцыі Беларусі ў свабодную і дэмакратычную Еўропу. Другія, як правіла, спасылаюцца на тое, што ідэі лібералізму і рынку не адпавядаюць духу і ладу жыцця нашых людзей на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. Яны хацелі б, маўляў, рэформ, але ў імя народа і не так хутка, як гэта рабілі суседнія краіны.

Як правыя, так і левыя палітычныя партыі і рухі ўпэўнены ў слушнасці сваіх поглядаў і не адчуваюць жадання знайсці нейкую раўнадзейную, якая можа называцца “стратэгіяй для Беларусі”, хоць гэта ўсё-такі давядзецца зрабіць. Пытанне ў тым, калі і каму? Бадай, адно, у чым яны зыходзяцца, — крызіс рэформ. Дакладней — паўрэформ. У гэтай сітуацыі ёсць два шляхі. Першы — перайсці да радыкальных пераўтварэнняў, другі — правесці рэформу самога крызісу. Зрабіць яго іншым, калі хочаце. Пачалася, па сутнасці, рэформа банкаў, фінансавага сектара, валютнага рэгулявання і, разам з тым, робіцца спроба вярнуцца да звыклых метадаў дзяржаўнага рэгулявання і кіравання як на макраэканамічным, так і на мікраэканамічным узроўні. Пытанне ў тым, наколькі правільна выбраны такі шлях.

Вядома, вопыту пераўтварэнняў таталітарнага сацыялізму хапае. Нават фундаментальна камуністычныя Албанія і Кітай сталі паспяхова рухацца па шляху рэформ і іх эканоміка вызначаецца ростам валавога ўнутранага прадукта, прагрэсам у станаўленні канкурэнтных прадпрыемстваў, стварэння новых вытворчасцей і рабочых месц. Гэтыя краіны змяняюцца эканамічна і сацыяльна мадэрнізуюцца.

Пры ўсім адрозненні тэмпаў пераўтварэнняў Беларусь знаходзіцца ў аўтсайдэрах па прычынах, якія досыць неадназначныя і не такія простыя і не могуць быць вытлумачаны толькі ўстойлівым кансерватызмам, хоць менавіта інерцыйнасць і кансерватызм соцыуму і тых палітычных сіл, якія традыцыйна былі прадстаўлены ў рэспубліцы, можна ўмоўна назваць палітычным і сацыяльным “феноменам Беларусі”.

Прычыны “сацыялістычнай” інерцыйнасці Беларусі можна класіфікаваць наступным чынам: адносна трывалае становішча рэспублікі ў даперабудовачны перыяд. Аднак цікава, што аналагічнае становішча ў краінах СЭУ займала, напрыклад, Чэхія, якая выгадна адрознівалася ад суседніх краін. Разам з тым, менавіта Чэхія дастаткова хутка і паспяхова прайшла трансфармацыйную фазу развіцця і здолела змяніць алгарытм эканамічнага развіцця на карысць новага выбару — рыначнай сістэмы. Беларусь жа гэтага не зрабіла: перашкодзіла высокая ступень субсідарнасці эканомікі і грамадства. Да свайго суверэнітэту рэспубліка прыйшла з “давескам” у выглядзе 5 мільёнаў насельніцтва, якія атрымлівалі субсідыі і льготы з бюджэтных сродкаў. Практычна адна палова насельніцтва павінна была субсідзіраваць другую, прычым на ўмовах, якія не задавальнялі ні тых, ні іншых. Ідучы на выбары, пенсіянеры і льготнікі падтрымліваюць тых, хто проста абяцае палепшыць іх становішча. Іншых “народных выбраннікаў” ім і не трэба. Моладзь, якая занялася бізнесам, хутка зразумела, што трэба рабіць “сваю гульню”: няхай усёй палітычнай бадзягай займаюцца пенсіянеры ці неўтаймоўныя палітыкі, а рабіць грошы можна ў любых умовах. Ёсць грошы — астатняе купляецца: чыноўнікі атрымліваюць у месяц 100—200 долараў, яны танныя і купіць іх можна, не трэба толькі скупіцца. Далей — патэрналізм і надзея на дзяржаву як апошняга крэдытора.

Гэта тычылася ўсіх прадпрыемстваў, грамадскіх інстытутаў, творчых саюзаў. Што тычыцца апошніх, то іх абвінавачваць у гэтым няма падстаў. Аднак як буйныя, так і невялікія прадпрыемствы прывыклі ўзвальваць на плечы (хай будзе гэта ЦК КПБ або ўрад) іншых свае праблемы, патрабаваць грошы, льготы, субсідыі. Няма грошай у трактарнага завода ці “Гарызонта” — няхай дае Лукашэнка або Чыгір. Гэта іх праблемы, яны начальнікі.

У выніку мела месца сітуацыя, якую можна назваць умоўна “карнавал у Кіеве”. Недзе на пачатку перабудовы кіеўскія ўлады вырашылі правесці карнавал і прызначылі час яго пачатку. Людзі выйшлі на вуліцы горада і пачалі чакаць, што нехта будзе паказваць нейкае новае і незвычайнае для ўсіх прадстаўленне. Аднак яно не пачыналася. Жыхарам пачалі тлумачыць, што карнавал — гэта тое, да чаго рыхтуецца кожны і кожны ўдзельнічае, ён не адбываецца па загадзе начальства. Па гэтай самай прычыне кіеўскі карнавал і праваліўся.




“Карнавал” рэформ не адбыўся і ў Беларусі. Начальства не дало ўказанняў. Самыя “разумныя” і адукаваныя таксама не спяшаліся са сваімі ідэямі і прапановамі. Інтэлігенцыя досыць раўнадушна пазірала на патугі наменклатуры змагацца з нацыянальна-дэмакратычнай апазіцыяй. Традыцый дысідэнцтва не было ў нашай інтэлігенцыі, асобныя іншадумцы хутка ад’язджалі з рэспублікі ў Маскву ці Піцер, дзе попыт на апанентаў рэжыму быў вышэйшы і дзе яны ўпісваліся ў адпаведны фон.

Не было ў рэспубліцы і жорсткай барацьбы за ўладу, наменклатура проста не саступіла яе новым палітычным сілам. Наменклатурныя палітычныя сілы Беларусі меркавалі, што глыбіня і маштабы маючых адбыцца пераўтварэнняў не будуць такія значныя, і з гэтай прычыны не рабілі намаганняў па рэфармаванні эканомікі, спадзеючыся “захаваць па-тэнцыял” рэспублікі і яе месца ў сістэме падзелу працы ўжо ў новай постсавецкай прасторы.

Гэта была ўжо ідэалогія, сістэма вобразаў і каштоўнасцей. Усе афіцыйныя палітыкі (частка з іх перайшла ўжо ў дэмакратычны лагер) трубілі пра тое, што яны выгандлёўваюць у Расіі танную нафту і газ, клапоцяцца пра інтарэсы народа і змагаюцца супраць рабавання народа, супраць прадажных і несумленных камерсантаў, спекулянтаў і гандляроў. Гэты рэфрэн стаў традыцыйным і для часткі цяперашняга кіраўніцтва рэспублікі.

## ГУЛЬНЯ ПА НОВЫХ ПРАВІЛАХ

Распад імперыі і развал партыйнай камуністычнай сістэмы пужнуў, але не напалохаў мясцовую алігархію. Яна хутка зарыентавалася і ўзялася за справу. Дзяліць уласнасць усенародна, адкрыта не пачалі. Вырашылі пакрыўляцца: вось вам ваўчары, вось народныя прадпрыемствы, арэндныя, акцыянерныя. Вывескі мяняліся хутка. Справа настолькі спадабалася, што пачалі мяняць і гербы, і сцягі, пячаткі і дзяржаўныя сімвалы. Да палітыкі далучыліся і грошы, узніклі банкі (за грошы насельніцтва і дзяржаўных прадпрыемстваў), фінансавыя кампаніі, і справа закруцілася. Усё гэта называецца ў транзіталогіі (тэорыі пераўтварэнняў постсацыялістычных краін) трансфармацыяй палітычнай улады ў эканамічную. Гэта трансфармацыя прайшла, але і не закончылася ні ў Польшчы, ні ў Кітаі, ні ў Расіі. Палітычная ўлада пераўвасобілася ў эканамічную, грашовую ўладу.

Цяпер постнаменклатурным групам выгадная рынкавая сістэма, яны не будуць праціўнікамі рынкавай эканомікі. Ні Зюганаў, ні яго прыхільнікі не будуць падводзіць “бомбу пад старшыню” або дырэктара банка. Выбраўшы камуністаў, людзі не зусім усведамляюць, што яны прывядуць да ўлады палітыкаў, ужо зусім далёкіх ад каштоўнасцей сацыялізму 30-х гг., не кажучы пра адзіна правільнае вучэнне. Можна паспрабаваць пераканаць сябе ў тым, што цяперашнія камуністы ўжо не камуністы, перастаюць быць марксістамі. У Расіі члены партыі могуць быць і вернікамі, за што дакаралі ў свой час функцыянеры са Старой плошчы італьянскіх і французскіх “еўракамуністаў”.

У Беларусі рэформы (альбо тое, што пад імі разумеюць) пачыналі члены камуністычнай партыі, прычым адны шчыра і сумленна, другія рабілі рэформы “пад сябе”. І прама, і фігуральна. Вядома, спачатку была імітацыя рынкавых рэформ. Шчыра кажучы, многія і не ведалі толкам, што і як рабіць. Асаблівасць эканамічнай палітыкі была ў тым, што спачатку палітычнае і эканамічнае кіраўніцтва паспрабавала паступова прымераць выгады рынкавай сістэмы для сябе і “сваіх людзей”.

Гэта атрымала назву “залатыя парашуты” для наменклатуры і новых эліт. Выхад у бізнес, стварэнне розных ТАА, ЗАТ і інш. стала масавай з’явай у перыяд 1990—1994 гг. Хто толькі не стаў арганізатарам такіх фірм. Вось прыклад: у адным з сельскіх прыгранічных рэгіёнаў было зарэгістравана сумеснае прадпрыемства, дзе замежны бок прадстаўляў грамадзянін ЮАР з досыць выразным грузінскім прозвішчам. Што знайшоў у лясах сінявокай рэспублікі зулуска-каўказскі мутант, у імя чаго ён узваліў на свае інтэрнацыянальныя плечы справу станаўлення рынкавых адносін у нашай нерэфармуемай эканоміцы? Такія бізнесмены і стварылі ў вачах простых людзей вобраз новай эканомікі і новага грамадства. Слова “бізнесмен” стала сінонімам слова злачынец. А калі так, то барацьба супраць злачыннасці — гэта і ёсць барацьба супраць прадпрымальнікаў. Асабліва супраць тых, хто не стварае, а прадае, перапрадае.

Дзіўна, што заклік да занятку вытворчасцю паўтараецца як заклінанне. Прычым, калі б проста ўважліва чыталі Маркса і Энгельса, то ведалі б, што капітал (а гэта ёсць аснова прадпрымальніцтва, рынку) ва ўсім свеце заўсёды і ўсюды пачынаў сваю гісторыю як гандлёвы капітал, а не як прамысловы. Патрэбны не захоп прадпрыемстваў “новымі” рускімі або беларусамі пад лозунгам прыватызацыі, а скалачванне сваёй справы, магазіна, кавярні, майстэрні па аказанні паслуг, рамонце і т. п. Дарэчы, так пачыналіся рэформы ў Кітаі. Кітайскія камуністы не сталі распрадаваць ці прыватызаваць заводы і фабрыкі, а адкрылі прастору для развіцця прыватнай ініцыятывы, сямейнай справы. Рынкавая эканоміка пачала ствараца на ўласнай аснове, а не на захопе дзяржаўнай маёмасці.

## МЕТАДЫ ПЕРАРАЗМЕРКАВАННЯ ЎЛАСНАСЦІ

Да гэтага часу прэзідэнт не можа знайсці чалавека, якому можна было б даверыць пост міністра дзяржаўнай маёмасці. Пытанне ў тым, ці патрэбны такі міністр, калі ёсць дзяржаўныя структуры, якія кіруюць асобна прамысловасцю, асобна сельскай гаспадаркай, камунальнай гаспадаркай і г. д. Больш зразумела было б, калі б у дзяржаўнай эканоміцы ўзнікла міністэрства прыватызацыі (што і было), потым яно само сябе знішчыла ў выніку эфектыўнай работы на радасць падаткаплацельшчыкам і аматарам ваўчараў. У Расіі, дарэчы, аднымі з першых у рэгіёнах зніклі камітэты і камісіі па прыватызацыі адразу ж пасля заканчэння першага этапа прыватызацыі.

Што тычыцца Беларусі, то пост міністра дзяржаўнай маёмасці можа ператварыцца ў нейкі помнік рынкавых рэформ. Не толькі па той прычыне, што прэзідэнт не дазволіць прыватызаваць, па яго словах, ніводнае, нават сярэдняе прадпрыемства ў рэспубліцы. Падобна, што чыноўнікі разумеюць: пачаўшы прыватызацыю, яны падпілоўваюць дрэва, на якім пакуль сядзяць. Сядзець лепш усё-такі не на “галінах улады”, а на ствалах.

У эканамічнай тэорыі існуе такая цікавая тэарэма Коўза. Згодна з ёй, розныя негатыўныя экстэрналіі (негатыўныя знешнія эфекты) атрымліваюцца ў выніку няпэўнасці або неабазначанасці правоў уласнасці. Там, дзе ўласнік не ідэнтыфікаваны, не выяўлены — там назіраецца эфект “безбілетніка”. У нашай маленькай сціплай рэспубліцы такога хапае. Уся краіна гатова стаць адным вялікім “зайцам”.

Прэтэндэнтаў хапае і ў іншым. Узяць тое, што ляжыць на паверхні. У скарбніцу сусветнай практыкі прыватызацыі мы ўнеслі шэраг новых і цікавых метадаў і прыёмаў. Вось толькі два з іх, здольныя выклікаць захапленне ў так званых цывілізаваных краінах, у якіх зусім адсутнічаюць фантазіі падобнага роду. Уявім, што ў вышэйшых эшалонах улады з’яўляецца структура, якая “прыводзіць” у парадак паступленні ад дзяржаўнай уласнасці, што здаецца ў арэнду. Нерухомасць, будынкі даюць неблагі даход. Па крайняй меры, самы багаты чалавек планеты — прафесар эканомікі з Токіа і самы вядомы мецэнат навукі ў краінах СНД зрабілі свае грошы на гэтым. Імёнаў мы не называем, каб не прыцягнуць увагу мясцовых і іншых рэкеціраў. У рэспубліцы ёсць паслядоўнікі геніяў нерухомасці, хоць яны не ведаюць біяграфій сваіх замежных калег.

Далей, уявім, што вы плаціце падаткі ў сваю гарадскую казну. На гэтыя грошы ўпарадкоўваюцца вуліцы, будуюцца дарогі для нас, падаткаплацельшчыкаў. Быццам яно так і павінна быць. Але варта прыехаць у цэнтр горада, як вы бачыце: на правым баку вуліцы знак “прыпынак забаронены”, а на левым тусуюцца падзельшчыкі з гордым надпісам на спіне “Мэта”. Тыя, што справа, на машынах ДАІ, з вас выпатрабуюць штраф за прыпынак у “неположенном” месцы. Так мяркуюць яны. Аўтара гэтых радкоў перад днём міліцыі, не паспеў ён выйсці з машыны, хуценька аштрафавалі на суму, роўную адной бутэльцы гарэлкі, выпісаўшы адпаведны квіток. Прычым на тым месцы, каля той грамадскай арганізацыі, членам якой ён быў доўгі час і з якой супрацоўнічае. Тыя, што злева, збіральнікі падаці з выразнай “спіннай” формулай, таксама паслужліва выдадуць квіток на дазвол паставіць машыну на асфальце, пакладзеным за вашы грошы.

Захапляльны экстаз зліцця інтарэсаў чыноўнікаў, якіх мы фінансуем, і бізнесменаў, якім мы аддаем грошы за неіснуючыя паслугі. Што б і хто б ні гаварыў пра рынкавыя адносіны, менавіта на гэтым прыкладзе бачна ўся кандовасць і тупасць нашых суайчыннікаў у мундзірах і без іх.

Але гэта прыклады, якія ляжаць на паверхні. Ёсць і больш вытанчаныя. Тут мы павінны перайсці да банкаўскіх і фінансавых штукарстваў. Пра іх — у другім артыкуле.

**Л. ЗАІКА,**
**дырэктар Інстытута незалежных даследаванняў НЦСД “Усход—Захад”**

*Фота А. КЛЕШЧУКА.*

## ПЕРШЫ Ў СЁЛЕТНІМ ГОДЗЕ

**нумар часопіса "Спадчына" адкрываецца артыкулам Д. Карава "Архіўная спадчына Вялікага княства Літоўскага і беларускія архівы ў канцы XVIII — пачатку XX ст." А. Семянчук выступае з развагамі "Марцін і Яхім Бельскія — гісторыкі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага".**

**А. Смалянчук, працуючы ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, адшукаў рукапіс артыкула А. Луцкевіча "Краёвае становішча", напісаны ў 1914 годзе. Гэты артыкул у свой час не быў апублікаваны і толькі цяпер прапануецца ўвазе чытачоў. На думку А. Смаленчука, "ён дазваляе даволі глыбока зазірнуць у сутнасць нацыянальнай пазіцыі аднаго з кіраўнікоў беларускага руху. Акрамя таго, і сваім зместам артыкул застаецца актуальным".**

**З альманаха твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і празаікаў "Ля чужых берагоў" (Мюнхен, 1955) перадрукавана апавяданне М. Люціча "Янка сеяў — людзі жалі".**

**"Барацьба магнацкіх груповак у XVIII ст." — тэма даследавання Г. Прыбыткі. Ёсць магчымасць пазнаёміцца з артыкулам В. Лабачэўскай "Беларуская этнаграфічная калекцыя з Вільні". Многіх, думаецца, заінтрыгуе артыкул Ф. Клімчука "Беларусы — нашчадкі банцараўцаў?".**

**Змястоўны раздзел "Мемуары". Дзякуючы А. Гесь (прадмова і падрыхтоўка тэкстаў да друку) можна пазнаёміцца з біяграфіяй М. Краўцова і прачытаць яго ўражанні пра Першы Усебеларускі з'езд. А да гэтай значнай падзеі ў нацыянальнай гісторыі М. Краўцоў звяртаўся двойчы, адпаведна прапануюцца і два перадрукі — "Разгон" з часопіса "Беларускае жыццё" (1920) і "20 гадоў назад" са "Шляху моладзі" (1938).**

**Змешчаны працяг "Дыярыуша князя Міхала Казімера Радзівіла..." (пераклад і публікацыя В. Арэшкі) і "Дыярыуша аб падзеях у Польшчы" А. С. Радзівіла (пераклад і публікацыя У. Свяжынскага).**

**Пад рубрыкай "Рэлігійная гісторыя" — пачатак працы А. Надсана "Святы Кірыла Тураўскі".**

## ЧАРГОВЫ БУМ... "БАМ-ЛІТа"

**На пачатку сакавіка ў сталічным Доме літаратара прайшла вечарына "Міжсусветны дзень Бум-Бам-Літа". На думку крытыка Пятра Васючэнкі, які выступіў на вечарыне, ББЛ сёння займае нішу вядомай ў 20-ыя гады літаратурнай арганізацыі "Узвышша", таму што ўпершыню за апошнія дзесяцігоддзі паўстаў з уласна-эстэтычных праграм сяброў руха (яны летась былі надрукаваны ў літаратурна-філасофскім сшытку газеты "Культура").**

**Трэба адразу звярнуць увагу на той факт, што, на думку бум-бам-літаўцаў, гэта была ці не самая вечарына за ўсю гісторыю існавання руху. Так, ужо выпрацавана мадэль класічнага выступлення ББЛ — інтэнсіўныя выступленні тэкставікоў з экспрэсійна-кароткімі творамі, якія пераміжоўваюцца рытмічнымі зразумелымі песнямі, цюканне ў тазік са сцэны, спяванне гімна ББЛ. Гэткая мадэль дазваляе збіраць вельмі шырокую аўдыторыю, пачынаючы ад рафінаваных інтэлігентаў-постмадэрністаў да выпадковых людзей, якія маюць цікавасць да сучаснай беларускай літаратуры. Фактычна, кожны з такой вечарыны выносіць нешта сваё: хто запамінае новую мелодыю, хто — новае спалучэнне слоў, хто — параэстэтычную канцэпцыю.**

**Вечарына ў Доме літаратара па сцэнічных канонах не была дасканалай: зацягнутыя выступленні, доўгае чаканне абвешчаных нумароў... Арганізацыйныя накладкі перашкодзілі стварыць на сцэне гарманічнае цэлае. Аднак, падкрэсліваю, гэта думка саміх сяброў ББЛ, якія імкнуцца да сінтэзу і спалучэння розных відаў мастацтва. Прыкладам таму пошукі Юрася Барысевіча, які падараваў публіцы выкшталцоны тэкст; новы эзатэрычны тэкст-праект Алеся Туровіча "Мазюкала", вершы Зміцера Вішнёва, Сяргея Патаранскага, Севы Гарачкі, Міхася Башуры, Лявона Вольскага, новыя песні Сержука Мінскевіча.**

**Пэўна, галоўным эстэтычным набыткам вечарыны стала пастаноўка эмбрыёна п'есы "З новым Гадо", якую выканалі пад фанаграму сябры руху, і якая ўяўляе сабой калаж з тэкстаў, што друкаваліся раней у падборцы літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО". Падчас вечарыны дэманстравалася выстава твораў Артура Клінава.**

**Новае пакаленне літаратараў, як бачым, прапануе новыя формы падачы матэрыялу, і наколькі яны затрымаюцца ў архіве сучаснай культуры, адкажа час.**

**Алесь ТУР**

Крытыка

# УСЁ НЕ СКОНЧЫЦЦА

СТРУКТУРАЛЬНАЯ РЭЦЭНЗІЯ

1. ВЕРБАЛІЗАЦЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МІФА

Культура любога народа можа лічыцца дастаткова развітай толькі тады, калі ўсе праявы рэчаіснасці на ўсіх узроўнях у ёй вербалізаваныя. Беларуская культура яшчэ толькі праходзіць працэс вербалізацыі. Таму заканамерна, што ў ёй з'яўляюцца творы самых розных жанраў, накірункаў, формаў, што думка творцаў сягае ад найвышэйшых, звышархетыповых абстракцый да асаблівасцяў фізіялогіі чалавечага цела... Усё павінна быць апісана, уведзена ў кантэкст нацыянальнай культуры. Але асабліва важным мне ўяўляецца вербалізацыя ўсяго, што звязана з вобразам нашай, канкрэтнай, асобнай нацыі, вобразам беларуса, як прадстаўніка гэтай нацыі, і беларушчыны, як сукупнасці этнаграфічных, псіхалагічных, геапалітычных ды іншых асаблівасцяў краіны і яе насельніцтва (гаворка не можа ісці пра этнічныя прыкметы, бо геаменталітэт, уласцівы сукупнасці людзей, якая пражывае на той ці іншай тэрыторыі, развіваецца і перадаецца не генетычна, а, умоўна кажучы, біялагічна — жывеш на гэтай зямлі, "урос" у яе каранямі — пераймаеш яе "дух", што можна называць натуральнай духоўнай асіміляцыяй).

Мне заўсёды цікава чытаць творы, у якіх пісьменнікі спрабуюць асэнсаваць, "вербалізаваць" "беларускі міф", як вобраз беларуса і беларушчыны. А паколькі гаворка — пра творчых людзей, яны ствараюць гэты міф, робячы свой унёсак у наш няроўны, супярэчлівы, непрызнаны працэс самаідэнтыфікацыі нацыі. Паэзія гарадзенца Аляксея Чобата, на маю думку, таксама выконвае гэтую місію, на сваім узроўні, "праз свае акуляры", так бы мовіць. Паспрабуем крыху прааналізаваць той беларускі міф, які вымалеваўся на старонках кнігі згаданага паэта "Новая Галілея". Трэба зазначыць, што мне давялося рэцэнзаваць першы зборнік Алеся Чобата "Год", выдадзены ў тым жа выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1992 годзе. Агульнае ўражанне — першы зборнік лепшы, больш цэласны, арыгінальны: у новым зборніку паэтам практычна не сказана нічога новага, нават паўтараюцца многія вершы з першага зборніка. Што ж, існуе меркаванне, быццам другія паэтычныя зборнікі — своеасаблівая "яма" перад наступным трамплінам...

2. СТРУКТУРА БЕЛАРУСКАГА МІФА "НОВАЙ ГАЛІЛЕІ"

У структуры гэтага міфа я ўмоўна вылучыла чатыры састаўляючыя — чатыры канцы традыцыйнага вобразнага крыжа. Вось якая "мапа" краіны Беларусь а ля Чобат атрымалася:




**а). Супраць-стаянне** — тыповая з'ява ў беларускай паэзіі адраджэнчага накірунку. Лірычны герой супрацьстаіць: як нацыянальна свядомы — несвядомаму натоўпу; як паэт і рамантык — мясцоваму бюргерству; як чалавек з еўрапейскай свядомасцю — местачковасці; урэшце як інтэлігент — люмпену. Адсюль пастаянны матыў непатрэбнасці, страчанасці, адвергнутасці:

**Маленькі хлопчык, з вёсачкі паэт,**
**нікому не патрэбны і нідзе.**

Супрацьстаянне ў чобатаўскім "Мілым Краі" адбываецца на ўсіх узроўнях:

**Каталік бяжыць у касцёл,**
**праваслаўны ў царкву.**
**За кароўнік варона ляціць,**
**за мяжу дэпутат...**

Супрацьстаянне/супастаўленне выкарыстоўваецца ў якасці паэтычнага прыёму, які надае вершу дынамізм, драматычнасць, але паўтараецца і паўтараецца, супастаўляецца, супрацьстаўляецца... Паэт штучна сартуе з'явы і асобаў, каб сутыкнуць іх:

**Людзі ветру і полымя клічуць**
**на пляцы народ,**
**людзі бізнесу латаюць дзіркі штогод,**
**людзі мутнай вады**
**баламуцяць і труцяць...**

і г.д.

**б). Ад-сутнасць.**

У свеце паэзіі А. Чобата ўсё адсутнічае, пра што толькі паэт ні захоча напісаць:

**ні парадку, ні крыку...**
**ні вайны, ні пакутаў...**
**на вуліцы — ні сябра, ні сабакі...**
**ні голасу, ні нават адгалоску...**
**ні зорачкі, ні краю, ні мяжы...**
**ні памяці, ні роспачы, ні слёз...**

Прычым жыхар гэтага свету, Мілага Краю, "тутэйшыя", не толькі нічога не маюць, але і не хочуць мець:

**Вось і бягуць тутэйшыя,**
**якія нічога не маюць**

●

**...Як не маю — дык не маю!**

●

**...Наш працавіты Янка**
**болей не мае сілы...**

●

**...а людзям не трэба зямлі...**

Прычым знікаюць рэчы самыя неверагодныя:

**...А няма Гародні старой!**

●

**Сягоння ў нашай батлейцы**
**няма аднаго Пана Бога.**

У рэшце рэшт, у самога аўтара ўзнікае заканамернае пытанне:

**...Куды ўсё знікла?..**

І сумная канстатацыя:

**...Няма нічога.**

Часопісы ў лютым

# А СЛОВА БУДЗЕ ЖЫЦЬ!

Багатыя лютаўскія нумары на паэзію. Для прыкладу, у "Маладосці" са сваімі творамі выступаюць В. Лукша, В. Барысюк, У. Цішуроў, У. Дзюба, І. Чыгрын (дарэчы, яго падборка змешчана і ў "Полымі"). Паэты, як кажуць, розныя і кожнаму з іх ёсць што сказаць чытачу. Глыбокай роздумнасцю вызначаецца, напрыклад, лірычны герой У. Дзюбы, напоўненасць радка філасафічнасцю прываблівае ў І. Чыгрына. Але асабліва радуе падборка В. Лукшы і ў першую чаргу такія вершы, як "У полацкім музеі кнігадруку" і "Фрэскі святой Ефрасінні". Паэт вельмі ўдала спалучае рэаліі сённяшняга жыцця з тым вечным, што напоўнена агульначалавечымі праблемамі. Для В. Лукшы сэнс духоўнасці — у пастаянным вяртанні да вытокаў, а іх ва ўсёй значнасці і паўнаце нельга спасцігнуць, не разабраўшыся як след, адкуль нашы карані. Пазіцыя лірычнага героя В. Лукшы — пазіцыя чалавека высокай нацыянальнай свядомасці, гатовага пастаянна духоўна ачышчацца, імкнуцца да маральнай дасканаласці. Адсюль і жаданне спасцігаць сэнс мінулых эпох, увязваючы тое, што было, з сучаснасцю, а тым самым перакідваючы масток духоўнасці і ў дзень заўтрашні:

**Іду ў музей.**
**І на душы — адліга**
**Як запавет гучыць у Сафійцы хор...**
**Так,**
**Будзе жыць**
**Яе Вялікасць Кніга...**
**Над ёю —**
**Багаяўленскі сабор.**

А "Полымя" адкрываюць вершы М. Дуксы. Паэт працуе над новай кнігай "Пад нябесным вогнішчам". А што яна будзе арыгінальнай, па-свойму непаўторнай, сумнявацца не даводзіцца. Накірунак яе адчуваецца з твораў, што прыйшлі да чытача. Ці не ўсе вершы аднолькава дасканалыя і ці не ў кожным ёсць тое адметнае, самабытнае, што ўзрушае душу, прымушае па-новаму многае асэнсоўваць у тваім жыцці. Як відаць з асобных твораў, М. Дукса не абмінае і тэм, якія сёння гучаць часта і нярэдка "эксплуатуюцца" аўтарамі без духоўнай патрэбы ў гэтым. Проста спрацоўвае мода. М. Дукса — прыемнае выключэнне. Узяць хоць бы яго верш "Прыйсці да алтара". Хто б ты ні быў — вернік ці атэіст, сказанае паэтам глыбока кранае. Бо ўзнікла яно як споведзь душы, якая прагне абнаўлення і якой хочацца, каб яе ўзрушанасць пачулі іншыя і, памагчымасці, прыслухаліся да гэтага голасу абнаўлення і ачышчэння: "Прыйсці да алтара, // калі зазззяе ранне // і смагай веры стане // світальная пара.// Прыйсці яшчэ тады, // як радаснае сэрца // крыніцай гулка б'ецца, // не знаючы жуды". А калі гэта адбудзецца, дык напаткае цябе сапраўднае шчасце: "Найлепшая пара — / / адчуць з абдымкаў змогі, // што ўсе твае дарогі // вялі да алтара".

Аднак гэтае прасвятленне, такое патрэбнае і жаданае, даецца нялёгка. Праз адмаўленне таго, у што раней верыў. Праз вяртанне да веры сапраўднай і вечнай. Праз усведамленне памылак, якія і цябе не мінулі: "Прыходзілі не раз // зынначыць нашы лёсы // і ўскаламуціць час // фальшывыя Хрыстосы" ("Фальшывыя Хрыстосы").

У шэрагу вершаў М. Дуксы, у якіх прысутнічае тая праўда, што неабходна сёння кожнаму, хто хоча як мага хутчэй выслабаніцца з путаў колішняй маны, і верш "Інтэлігенцыя", хоць сама па сабе задумка яго і куды шырэй, бо закранаецца ў ім спаконвечная праблема сувязі народа і інтэлігенцыі. Паэт сказаў пра гэта так, як ніхто да яго яшчэ не гаварыў:

**Наш лёс каймою чорнай перашыты,**
**на ім няма ніякіх пазалот.**
**Мы сеем, сеем сонечнае жыта,**
**а жнём рукамі голымі асот.**

**Вышэй стаяць і гонарам, і рангам**
**над хцівай злосцю праўда й дабрыня.**
**Вяртаецца балючым бумерангам**
**душ нашых незямная вышыня.**

**Наканавана ўпасці з-пад аблокаў...**
**І гэта ўжо збываецца не раз:**
**каменнем б'е натоўп сваіх прарокаў,**
**абавязкова б'е чамусьці нас.**

У "Полымі" і чаканая вестачка са Злучаных Штатаў Амерыкі, з далёкага Глен-Коў. Далёкага і ўсё ж блізкага, бо жыве там цудоўны паэт, шчыры беларус М. Сяднёў. Вершы, прапанаваныя спадаром М. Сяднёвым "Полымю" — частка таго, што пісалася ім больш дзесяці гадоў назад. Усе творы, за выключэннем верша "Лебедзь", датаванага 1993 годам, напісаны ў 1983-ым. Прываблівае "Санет", у якім тактоўна закранаецца праблема творчасці, паэтычнага натхнення, а яны, як вядома, не заўсёды "ўціскаюцца" ў нейкія пэўныя рамкі, няхай і дасканалыя, хай і "класічныя": "Даўно хацеў я ўзяцца за санет, // ды у мяне няма на гэту форму ўмення. // Калі бяруся за яго, натхненне // знікае у мяне і я ўжо не паэт". Іншая рэч, "...калі адкульсці з глыбіні // натхнення з'явяцца агні, // яно само знаходзіць форму выражэння // без асаблівае натужнае пакуты. // Свабодны дух, зрадзіўшыся з натхнення, // у ланцугі не любіць быць закутым".

Верш "Лебедзь" — пра лёс выгнаннікаў, якія мусяць задавальняцца толькі тым прыстанішчам, якое знайшлі. Выбіваецца лебедзь з сіл, трапіўшы ў "ледзяны палон". А раней... "Ён марыў тут, калі была вясна, // калі у мройнасці плылі яго часіны. // Калі ўсміхалася яму яна, // не думаў ён пра хату, пра павець, // і ў марах не стварыў краіны, // куды б ад сцюжы мог ён заляцець".

"Паэма без назвы" В. Гадулькі ў "Полымі" друкуецца пад рубрыкай "Спадчына", а самому паэту ў маі сёлетняга года споўнілася б усяго 50... Памёр ён раптоўна пасля непрацяглай хваробы 15 чэрвеня 1993. Пра гэта гаворыць ва ўступным артыкуле В. Сахарчук, паведамляючы пра "няпростае і нялёгкае жыццё" яшчэ аднаго з тых, хто, на жаль, не змог цалкам выявіць свой талент: "Так сталася, што лёс вельмі жорстка абышоўся з імі, і яму не ўдалося

# НІКОЛІ

•

**...Пуста цяпер ў Айчыне.**

•

**...Край, якога няма.**

У апошніх цытатах маем прыклад вербалізацыі ад-сутнасці, даведзенай да абсалюту.

**в). Бяз-лёсавасць —**

Гэта адмоўная велічыня заканамерна ўзнікае ў кампаніі двух папярэдніх разгледжаных: там, дзе адно супрацьстаіць другому і ўсё адсутнічае, няма паняцця перспектывы. У Края няма лёсу. Ёсць — безвыходная рэальнасць:

**Чорны парк і чорны горад**
**назаўсёды тут...**

•

**Лёс пачатку не меў,**
**і канца смерці не дасць.**

•

**Прападае свет непадзельны —**
**нараджаецца непрасветны.**

З'яўляецца таксама матыў бессэнсоўных вечных намаганняў, матыў"Сізіфа-Данаідаўскі", сублімаваны на беларускую прыроду:

**Вечны дзятлік дзяўбе —**
**і не можа прабіць...**

**г). Нацрамантызм** — абавязковы элемент беларускай адраджэнчай паэзіі: узвышэнне вобраза роднага краю, рамантызацыя, нават міфалагізацыя яго гісторыі, атрыбутаў беларушчыны. У паэзіі Алеся Чобата гэта адбываецца ўвесь час на супрацьстаянні, з улюбёным паэтавым спалучэннем неспалучальнага. Прывяду два двухрадкоўі:

**...А ніхто не бачыць выйсця ў залатыя сны** (матыў вышэйразгледжанай бязлёсавасці)

**...А вялікі народ не памірае** (нацыянальны рамантызм)

•

**Мы — жабракі ў жабрацкае краіне** (бязлёсавасць/ад-сутнасць)

**Якая ўжо ніколі не загіне** (нацыянальны рамантызм)

Прывяду і яшчэ характэрны для паэта радок:

**...чужы і мілы край яшчэ не з намі...**

Тут і супрацьстаянне, і бязлёсавасць, і рамантызм... Бо рамантычнае паняцце Краю вельмі неадназначнае:

гэта каханне без адказу, жорсткасць і пакаранне з боку свайго ж народа ў адказ на вернасць яму. І тым не менш Край застаецца паняццем сакральным, адзінай адназначнай каштоўнасцю: "Храм на крыві, Беларусь."

Бяз-лёсавасць, супраць-стаянне, каханне-пакута могуць прывесці толькі да смерці героя:

**Самотны змоўца і герой**
**заўсёды памрэ спакойна.**

3. СТВАРАЛЬНЫ ЦЭНТР СТРУКТУРЫ

Чаго відавочна не хапае ў прыведзенай схеме — дык гэта стваральнага пачатку. Усё — толькі на "супраць-", "бяз-", "не", "ні"... Але зборнік названы — "Новая Галілея". Як вядома, з Галілеі прыйшоў Ісус Хрыстос... Значыць, стваральны, сакральны пачатак прадугледжваецца, прадбачыцца? Што ж, суб'ектыўнае асэнсаванне Алесем Чобатам нацыянальнага міфа мае выразна трагічны характар, тое, што я называю "стыль горкага рамантызму". Так, у яго вершах адчуваецца той самы душэўны надлом, што прымусіў аднойчы Караткевіча вуснамі Насрэддзіна ўсклікнуць:

**Як мне далей любіць такі народ —**
**Няшчасны мой, улюбёны, ненавідны...**

Тым не менш, мы павінны ствараць, рабіць сваю справу — бо

**Але заўжды патрэбна будзе воля,**
**Таму што ўсё не скончыцца ніколі.**

І гэтая выснова павінна стаць у цэнтры паэтычнага свету, і, падобна сонцу, асвяціць і высвеціць яго вобразы, і звязаць іх у адну рухомую, жывую сістэму, здольную да самаразвіцця.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

---

ажыццявіць ніводнай са сваіх мар, якімі ён, па сутнасці, і жыў. Замест здзяйснення іх, жыццё высцілала яму дарогу стратамі. Спачатку ён страціў інстытут замежных моў, які вымушаны быў пакінуць на пятам курсе, затым брата, пасля каханне, нарэшце бацьку, маці і застаўся адзін, але мужна працягваў несці свой крыж, пакуль яго не падвяло здароўе".

Паэт В. Гадулька з вёскі Федзькавічы, што на Жабінкаўшчыне... А што ён быў паэтам, сумнявацца не даводзіцца, пазнаёміўшыся з гэтай невялікай "Паэмай без назвы", у якой так шмат свайго, асабістага і ў якой боль, што нельга назваць чужым.

У "Полымі" змешчаны і пачатак аповесці І. Навуменкі "Любімы горад". Гэта працяг яго папярэдніх твораў "Дзяцінства", "Падлетак", "Юнацтва", а тым самым атрымалася тэтралогія пра пакаленне сённяшніх сямідзесяцігадовых, да якога, як вядома, належыць і сам аўтар твораў. У галоўным героі Васілю Войціку, пазнаюцца пэўныя аўтабіяграфічныя моманты. Але, як і ў кожным мастацкім творы, пісьменнік не абмяжоўвае сябе толькі асэнсаваннем уласна перажытага. Васіль Войцік, безумоўна, вобраз збіральны, ён адзін з тых, каго І. Навуменка называе "асколкамі вайны". Зразумела, што вельмі цяжка прывыкаць да мірнага жыцця, пазбаўляючыся многіх ілюзій юнацтва, спазнаючы ўсю драматычнасць і складанасць паўсядзённасці.

Не абмінае пасляваеннай рэчаіснасці ў дзённікавых запісах "Роздум на апошнім перагоне" Іван Шамякін (заканчэнне запісаў будзе ў трэцім нумары "Полымя"). Першы з іх датуецца 8 лютага 1991 года, аднак у ім — вяртанне да "дзён хвароб і смерці Сталіна". І згадкі пра той час зусім не "прыглянцаваныя" з вышыні нашага сённяшняга бачання і ўспрыманне тагачасных падзей. Увогуле, і пра іншыя падзеі, у прыватнасці, пра так званы карыбскі крызіс, Іван Пятровіч расказвае праўдзіва. Гэтая праўда — менавіта шамякінская — і прываблівае ў дзённіку, які ўспрымаецца яшчэ адным турботным роздумам слыннага майстра "пра час і пра сябе".

Роздум аб перажытым прысутнічае і ў "рэквіеме па дарагіх і незабыўных" "Мае Дзяды і Радаўніцы", з якім у "Полымі" выступае С. Грахоўскі. Адначасна гэта і роздум ад імя ўсяго пакалення, якое так шмат вынесла на сваіх плячах: "Вось і думай цяпер, дзе памыляўся сотні раз, за што папракалі і бэсцілі, а дзе і як засцярогся ад пагібелі і бясследнага знікнення. У юнацтве жыў марамі пра шчасце, у сталасці — чапляўся, каб выжыць, у старасці застаецца адно — успамінаць, назад пракручваць бясконцую плёнку свайго стракатага існавання, бо жыць, як жывуць шчаслівыя людзі, не давялося. Я мог бы год без перапынку ўспамінаць сотні людзей, з якімі мяне зводзіў і разводзіў лёс. Большасць іх, маладых, з фанернаю буркаю на назе, голымі кідалі ў сумёты таежнага снегу або прысыпалі пясочкам і прыкрывалі лапнікам. На іх касцях вырасла паўвекавая тайга". Згадвае ж Сяргей Іванавіч тых, хто пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках. Адзін за адным паўстаюць дарагія, незабыўныя воблікі. Паўлюк Трус, Алесь Ліпнёвы, Кузьма Чорны, Юрый Рудзько, Міхась Клімковіч, Усевалад Ігнатоўскі, Аляксандр Чарвякоў...

І як заўсёды, радуе сваёй прозай В. Гардзей. Усяго два яго апавяданні змешчаны ў "Полымі" — "Скрылік сала для фермера" і "Вяртанне аблуднага Брыся"... Усяго два творы "малой прозы"... А які вялікі свет нашага жыцця паўстае з яго старонак! Як удаецца пісьменніку зазірнуць у душы людзей простых, звычайных і ўбачыць у іх такое багацце, што застаецца толькі здзіўляцца назіральнасці аўтара і яго здатнасці пісаць ярка і непаўторна, не забываючы пра тонкі, дасціпны гумар.

Не абмінулі часопісы 75-годдзя з дня нараджэння І. Мележа. У прыватнасці, у "Маладосці" сваімі згадкамі пра выдатнага майстра дзеліцца Г. Далідовіч. "З клопатам пра вечнасць" — гэта слова пра І. Мележа-пісьменніка, пра І. Мележа-грамадзяніна, чалавека. І, канечне ж, пра яго асаблівае стаўленне да творчай моладзі, пра ўменне (і жаданне) своечасова падтрымаць талент, які толькі заяўляе пра сябе. А ў "Нёмане" — разгорнутыя ўспаміны Л. Пятровай-Мележ "Пачатак і канец". І на самай справе, у гэтых згадках больш пра першае знаёмства з Іванам Паўлавічам, пра першыя гады сумеснага жыцця, а таксама пра той год, які стаў у жыцці І. Мележа апошнім. Падзагаловак публікацыі "З успамінаў пра Івана Мележа" дае падставы меркаваць, што ўвазе чытача прапанавана пакуль не ўсё, што з'явілася з-пад пяра ўдавы пісьменніка.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

Віншуем!

# Уладзіміру ІДЭЛЬСОНУ — 70



31 сакавіка спаўняецца 70 гадоў пісьменніку Уладзіміру Ідэльсону. Уладзімір Барысавіч нарадзіўся ў Ленінградзе, да 1941 года жыў у Мінску. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны сям'я эвакуіравалася ў Томск, дзе У. Ідэльсон скончыў І-е Томскае артылерыйскае вучылішча (1945). Пасля дэмабілізацыі з арміі (У. Ідэльсон удзельнік вайны) скончыў гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, працаваў выкладчыкам гісторыі. З 1956 года — па сумяшчэнні бібліятэкар рэдакцыі "ЛіМа", а з 1960-га — літработнік, загадчык аддзела інфармацыі. Затым У. Ідэльсон сваю працоўную дзейнасць звязаў з выдавецтвамі "Беларусь", "Мастацкая літаратура". З пасады старшага рэдактара выдавецтва "Юнацтва" у 1988 годзе пайшоў на пенсію.

З першымі артыкуламі і рэцэнзіямі ў рэспубліканскай перыёдыцы У. Ідэльсон выступіў у 1959 годзе. Добра вядомы як перакладчык. Дзякуючы яму на беларускай мове пабачылі свет кнігі "В'етнамскія апавяданні" (1968, разам з Я. Васілёнкам), "Таджыкскія народныя казкі" (1970), "Кіргізскія народныя казкі" (1971, разам з З. Петрушэнем), "Добры дзень, Вавёрка! Як жывеш, Кракадзіл" Ю. Дзмітрыева (1983) і іншыя. Акрамя таго У. Ідэльсон пераклаў многія творы беларускіх пісьменнікаў на рускую мову.

У літаратурным запісе У. Ідэльсона выйшлі мемуары І. Хімічава "В борьбе и тревоге" (1977), І. Арцем'ева "Позывные Москвы" (1978), П. Хадыкі "По велению сердца" (1980).

У сааўтарстве з М. Герчыкам У. Ідэльсон напісаў сцэнарый фільма "Сцяпан Жыхар" паводле апавядання І. Пташнікава "Сцяпан Жыхар са Сцешыц", а таксама сцэнарыі да шэрагу дакументальных і навукова-папулярных стужак.

Віншуем Уладзміра Барысавіча з 70-годдзем! Зычым яму і надалей жыццёвых і творчых поспехаў!

---

# НЯПРОСТА

*Уладзіміру ІДЭЛЬСОНУ*

**Ад малатка як уцячы цвіку?**
**Як ямбу перакінуцца харэем?**
**Адчуў ты добра на сваім вяку,**
**Што ўсе вякі**
**Няпроста быць яўрэем.**

**Адным магу суцешыць —**
**Не прасцей**
**І беларусам быць у Беларусі.**
**Зярняты год**
**Праз сіта сноў прасей.**
**Мы ўсе —**
**Мігцінкі ў зорнай пацярусе.**

**І як твой род**
**Ні секлі, ні мялі,**
**Ты выжыць здолеў.**
**І ў табе прачула**
**Загаварыла мова той зямлі,**
**Што прадзедаў аднойчы прыхінула.**

**Мы на адной зямлі.**
**Мы ўсе свае.**
**Але сваё хай кожны прышануе.**
**Нам моц і немач**
**Бог Адзін дае.**
**І неба шчодрыць**
**Лусту праліўную...**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

---

# ВЫСОКАЕ СЛОВА — НАСТАЎНІК

Не буду чарговы раз скардзіцца на недарэчнасці жыцця, пры якім доўгія гады падазронымі для ўлады асобамі былі патрыёты, якія вышэй за ўласны дабрабыт заўсёды ставілі інтарэсы народа, яго свабоду і незалежнасць. Узнятыя магутнай хваляй народнай падтрымкі ў пачатку 90-х, кароткі час адноснай незалежнасці яны зноўку патрацілі не на сябе. Яны дабіваліся беларускіх школ, нацыянальнай мовы ў ВНУ, імкнуліся зрабіць усё, каб "запрацавала" гістарычная памяць народа. Цяпер, зноўку апынуўшыся няўгоднымі ўладзе, яны не рвуцца падабацца ёй, як зрабіла частка нашай інтэлігенцыі і чыноўніцтва, што імкліва забываецца на мову, якою казырала яшчэ які год таму... Бо яны засталіся тымі, якімі былі ўсё жыццё, і настойліва, з годнасцю робяць сваю высакародную працу.

Такі — Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, загадчык кафедры культуры Гродзенскага універсітэта.

Я памятаю яго ў тыя свае школьныя гады, калі малады выкладчык педінстытута прыходзіў у дамок Элізы Ажэшкі, дзе няўрымслівы Аляксей Карпюк ладзіў якое-небудзь дзейства. Былі абмеркаванні новых кніжак, часта — проста надрукаваных у "Гродзенскай праўдзе" ці ў цэнтральных газетах вершаў. Аляксей Міхайлавіч гаварыў няшмат, але ягоныя меркаванні былі глыбокімі і прадуманымі. Памятаю, з якой цікавасцю я чытала і перачытвала ягоныя рэцэнзіі на вершы Дануты Бічэль-Загнетавай, звяраючы па іх свае ўласныя ўражанні. Часы гэтыя ўспамінаюцца мне светлымі і ўзнёслымі, і, калі б зараз давялося характарызаваць людзей, што складалі Гродзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі адным-двума словамі, я б ужыла найперш "нязломнасць і годнасць". Памятаю, як уразіла мяне ў адным з абласных гарадоў угодлівасць, з якою мае калегі круціліся вакол абласнога начальства. Цяпер па-чалавечы я іх разумею, але тады, пасля нашых гродзенцаў... Пасля таго, як бачыла, якую бескампраміснасць паказвалі ў цяжкія моманты Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль, Аляксей Пяткевіч, Анатоль Іверс...

Яны ж і дапамагалі, і абаранялі ва ўсе складаныя для мяне часы. Абаранілі, калі прыехала камісія на чале з Алешкам, каб наладзіць экзекуцыю пасля таго, як на нарадзе творчай моладзі я заявіла пратэст супраць русіфікацыі беларусаў. Дапамаглі выдаць першы зборнік вершаў. Аляксей Міхайлавіч усяляк заахвочваў да зацікаўлення гісторыяй, даваў чытаць забароненыя тады кнігі, накшталт твораў Ластоўскага, і можна цяпер дзівіцца ягонай рызыкоўнасці, бо рызыкаваў ён, па меншай меры, сваёй працай ва універсітэце. Аднак жа ставіўся да мяне вельмі сурова: першыя празаічныя творы рэзка раскрытыкаваў, сказаўшы, што лепей бы мне не здраджваць паэзіі, а, цытуючы асобныя радкі, тлумачыў іх нікчэмнасць такім голасам, што хацелася плакаць... І ўсё ж пісьменніку, мабыць, часам трэба даваць і хіну — мне хацелася даказваць адваротнае, хацелася спрачацца, пісаць. Мабыць, у гэтым і заключаецца талент Настаўніка.

Я не была ягонай студэнткай. Але падчас шматлікіх творчых сустрэч на Гродзеншчыне, дый па ўсёй краіне, я часта сустракала апантаных аматараў беларускага слова, беларускай ідэі. Многія з іх вучыліся ў Пяткевіча. Зерняткі, пасеяныя ім, узыходзілі, няхай былі пасеяны яны часам на камені, а часам на пустыннай, ужо абпаленай манкуртцвам зямлі. Ён і зараз сее іх, працуючы няс-томна, аддана і светла на вечны рухавік нашага жыцця — ідэю незалежнасці нацыянальнага адраджэння: піша артыкулы, чытае даклады, вядзе на Гродзенскім тэлебачанні штомесячную перадачу "Кнігарня", да якой я далучала яго яшчэ ў далёкія 70-я гады як рэдактар студыі. І, вядома ж, вучыць студэнтаў універсітэта, закладваючы ў маладыя душы светлыя парасткі дабрыні, справяд-лівасці, служэння Радзіме.

Мы, беларусы, часам не вельмі паказваем свае адносіны да нейкіх з'яў, саромеемся добрага слова пра сябра. Дарэмна. Бо вельмі важна ведаць, што твае справы знаходзяць водгук у нечым сэрцы. Я ведаю, што былыя студэнты Гродзенскага педінстытута, а цяпер універсітэта, пасылаюць Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу віншаванне з днём нараджэння (30 сакавіка яму спаўняецца шэсцьдзесят пяць гадоў). Далучаюся да гэтага віншавання.

**Вольга ІПАТАВА**

## "НЯЗГАСНАЯ ЗОРКА"

— такой назвай быў акрэслены вечар успамінаў, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта, драматурга, байкапісца, празаіка, вучонага, грамадскага дзеяча — Кандрата Крапівы.



Прайшоў ён пад шатамі Дзяржаўнага Літаратурнага музея Янкі Купалы. Права першай падзяліцца ўспамінамі атрымала Алена Атраховіч — кандыдат мастацтвазнаўства, член саюза мастакоў, старшы выкладчык кафедры мастацкага праектавання тканін і мадэліравання касцюма Беларускай акадэміі мастацтваў, унучка К. Крапівы. Завітала яна на вечар са сваёй дачкой Варварай. Дарэчы, гэта яна ў свой час натхніла Крапіву на клопат пра самых маленькіх нашчадкаў — так з'явіліся загадкі Дзеда Кандрата.

Перад прысутнымі выступілі пляменніца Янкі Купалы Я. Раманоўская, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, драматург А. Петрашкевіч, кандыдат філалагічных навук, загадчык аддзела сучаснай беларускай літаратуры Інстытута літаратуры АН імя Янкі Купалы С. Лаўшук.



Удзельнікі вечарыны азнаёміліся з выставай "Шлях у неўміручасць", якая адлюстроўвае творчасць і жыццёвыя сувязі волатаў беларускай літаратуры Кандрата Крапівы і Янкі Купалы. Напрыканцы сустрэчы з канцэртнай праграмай выступіў фальклорны ансамбль "Чабарок" СШ N 3 г. Мінска пад кіраўніцтвам Наталлі Нарэйкі.

**А. МАРЧУК**

## ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТА

Шмат гадоў сачу за творчасцю настаўніка, члена літаратурнага аб'яднання "Прыдняпроўе" Міколы Емяльянава, вершы якога змяшчаліся ў мясцовых і рэспубліканскіх перыядычных выданнях, гучалі па радыё. А цяпер, нарэшце, трымаю ў руках яго першую кніжку "Кровное родство", выдадзеную ў Магілёве пры спонсарскім садзеянні навукова-вытворчага аб'яднання "Будтэхніка".

Амаль усе вершы М. Емяльянава — пра жыццё-быццё і каханне, пра месца чалавека ў грамадстве і адказнасць перад ім, родную прыроду — для мяне не новыя: адны чытаў у газеце, іншыя чуў, калі разам з Міколам выступалі ў школе, рабочым калектыве ці на нейкіх урачыстасцях-святах, асобныя сам рыхтаваў у наш абласны калектыўны зборнік "Дняпроўскія хвалі".

Але ж прыемна бачыць творчы набытак паэта пад адной вокладкай!

**Іван АНОШКІН**

## У ЧАС КАНІКУЛ

Літаратурную гасцёўню правяла мінская гарадская бібліятэка N 18. Напярэдадні Тыдня дзіцячай і юнацкай літаратуры школьнікі віталі творчае аб'яднанне студэнтаў філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта "Восьмая вышыня". Гучалі вершы і песні на словы "вышынёўцаў", ішла размова аб сувязі літаратуры з нашым няпростым і складаным жыццём. Была праведзена літаратурная віктарына, пераможцы якой атрымалі падарункі. Прысутныя мелі магчымасць пазнаёміцца з тэматычным праглядам "Аматарам прыгод" і аглядам літаратуры, з якой можна адпачыць у час канікул.

**А. ЛЯПІЧ**

Паэзія

Эдуард АКУЛІН



## ТАМ РАДЗІМА — МАЯ ЮДОЛЬ...

•

Я хацеў бы пісаць, як жыву, —
так, як піша Мікола Купрэеў.
Пра аблокі — што скрозь плывуць
праз душу і, як дым, чарнеюць...

Я хацеў бы пісаць, але
так пішу, як я сам умею.
Бо мой сон, нібы Сож змялеў,
а на сподзе душы — лілея...

Гэта здрада — мая віна,
хоць пра здраду пісаць нягожа.
А заплачу — гарчэй віна
смутак — згублены колісь нож мой.

І слязіна мая, як кроў,
што падсочана з роду Дрэва,
дзе ўпадзе яна — там Любоў,
там світальных валос залева...

Там Чарнобыль — матулін боль,
што жыццця разарваў аорту...
Там Радзіма — мая Юдоль,
Пекла з Богам і вырай з чортам.

### РАСКА

Зялёны падраснік азерца
задраны прыпол ракі
ажыўшае жабаў скерца
радзімкі з тваёй рукі
раска — не рада ветру
сябра ёй — жоўты жвір
раску не вабяць нетры
вораг ёй — юркі вір
раска — прывідны востраў
мрояў раёвых рой
раска — салютаў роскід
вадзянікавы строй
раска — русалчын вэлюм
азёрна-манетны двор
вохрава-акварэльны
люстронак бурштынін-зор.

### ЧОВЕН

Чулліві рачной пяшчотай
аблашчаны лавай хваль
ён мроіць чаіным лётам
закаханы у чуждаль
човен — адчайны адужнік ветру
начны прытулак ліпнёвых пчол
павек пасцелю віровых нетраў
не зменіць човен на мулкі дол
ён звечара знічак повен
а ранкам слязьмі ліней
човен — сонца жалобны промень
човен — чорны рачны манах
палюбоўнік паўночны поўні
брат радзіміцкіх трун-карстаг.

### ВАЛУН

Ад лядовых часін Калумб
для паўночных вятроў — калун
дубаволатавы кілун
заімшэлы авал—валун
валун—ад'еты валляк стагоддзяў
катаклізмаў мінулых зоб
семя, што самародзіць
самы мудры ў акрузе лоб
валун — вечнасці вольнанаёмнік
бокамлежачы мусіць жыць
ён самому сабе — ёсць помнік
гэты вечнанятленны Жыд
вынікаючы вонкі з ночы
новалунавы цвеліць цень
і у час той нябоскі хоча
ён адужаць самую Смерць.

### СТРЭЛЬБА

Хросная маці ляснога рэха
двухмесны патронны трон
не гразіся ёй дзеля смеху
следам стрэльбе ступае Кон
бо ад стрэльбы — журба ласіхі
бо на стрэльбе — дзікова кроў
стрэльба — чортава прорва ліха
і Везувій людскіх грахоў
стрэльба — страх азвярэлы ворага
стрэльба — стрэл, што дачасу спіць
стрэльба — тайная сувязь пораху
і агню, што прывык "лес біць"
стрэльба — гэта вясло Харона
развітальнай галеры кіль
шлагбаўм на шляху падзорным
зламанага лёсу кій.

### ЗАГНЕТ

Загон прыгонных чыгункоў
патэльняў — чорны парапет
цагляны трон дамавікоў —
стары парэпаны загнет
на загнеце збіраюцца з духам
перад тым, як пайсці ў агонь
глінны глечык, гаршчок і куфаль
і рахманы свісцёлак-конь
тут адвечару — дроў бярэмак
што крэміруюць акурат
як на досвітку знойдзе певень
дыямент у мільён карат
аб загнет на куццю б'юць кашу
ад загнета — настрой Каляд
кот падоўгу тут госцем важным
у чаканні мышыных свят
у загнета няма сакрэтаў
ні ад кога, бо ён і сам
як заўважыў адзін Паэта —
самы першы паганскі Храм.

### ЯНО

*М. БАГДАНОВІЧУ*

Я помню, што гэта ўжо колісь было.
Каляды. Завейная шчырасць.
Сумёт за балоннем — узнятым крылом
Луг-лебедзя, гнанага ў вырай.

І ты ўслед за ім, як крывіцкі Ясон,
памкнуўся, паверыўшы ў мару.
А слуцкага паса — цяжкое руно —
заззяла царкоўным арнатам...

І раптам з нябыту узнікла Яно
паўночнай парой сыродзім'я.
Валошка, што ўмерзла
ў ваконнае шкло —
пагляд твой расстайны, Максіме.

### З НІЗКІ "ЭРА СНОЎ"

•

Ільну няўтольнаю ракой
на бераг райскае Нірваны,
калі любуюся табой -
жамчужынай на сподзе ванны...

Ад вохры хны у валасох
русалкай станеш на імгненне...
А ногі з рыбіным хвастом
ад воч схаваюцца у пене.

Хоць погляд грэшны адвяду —
ад хараства не адхрысціцца.
Цяпер я знаю — на бяду
царква затопленая сніцца...

### Я СУМУЮ...

Я сумую па нас былых...
Па трымценні няўцерпных вуснаў,
па залеве валос тваіх,
над жаданнем маім распусным.

Я сумую па нас былых.
Па разынак ажыўшай плоці,
па абдымках, што п'юць уздых,
з языкамі ў агульным роце...

Я сумую па нас былых.
Па цунамі з лагуны ўлоння,
па світальных руках тваіх —
майго сонца патухлых промнях...

Я сумую па нас былых,
што шукалі ў граху патолі,
а знайшлі толькі яску-міг,
што не ўспыхне ізноў ніколі.

•

А помніш апошні з табой наш раман?..
Калі, нібы дзве брыганціны,
на рыфы кахання нас нёс ураган,
сарваўшы з сямейнай пуціны...

А помніш, як поўняй сукенка сплыла
да ног, і заплакала свечка...
І ты ад таго мне заўсёды была —
крылом незамкнёнага вечка...

А помніш, як потым купальскі туман
пачуццяў нястрымных Нямігу
да срэбнай расінкі ў падземны арган
забраў да жаданага мігу.

І я з той пары з асцярогай хаджу
улоннем знаёмым праспекту,
а раптам Нямігу ад сноў абуджу,
схаваную ў памяць-калектар.

### КВАДРА КАХАННЯ

#### ЖАНЧЫНА

Навошта прывабіла Евіным сокам
з двух купалаў жарсці, што ззялі высока
на целе — царкве незямнога парока,
цвінтар якой спляжыла здрады асока?..

#### ПАЦАЛУНКІ

Грахоў за жыццё — непад'ёмныя клункі,
ды самы найпершы — ад Бога дарунак...
На памяці-лёдзе — як свежыя лункі,
той ночы Кахання — тваё пацалункі.

#### КАЛЕНІ

Ты сёння мяне параўнала з аленем,
што з жарсці ракі піў да ранку без лені...
Я ноч быў няўтольным, бо любай калені
былі берагамі той рэчкі без мелі.

#### УСПАМІН

Чырвонай масандрай
з фужэра-каміна —
агонь. Тваё ногі — кантактная міна,
што доўга шчэ будзе у снах-успамінах
маіх узрывацца світальнай гадзінай.



БЕЛАРУСКАЯ МОВА ў перапоўненым тралейбусе, які толькі што ледзь сашчапіў за Алесінай спіною дзверы, гучала, як нейкі ірэальны, нябесны ўздых Дзевы Марыі.

— Вы на наступным прыпынку сыходзіце?

Дзяўчына пыталася не ў яе, у жанчыны ў жоўтым пухавіку, што стаяла на прыступку вышэй, і тая ажно перасмыкнулася:

— Ты что, не можешь по-человечески спросить?! Я по-белорусски не понимаю!

— Немига. Следующая остановка...

— Я на сваёй зямлі. І гавару так, як мусяць тут гаварыць усе, і вы таксама, — звонка сцебанула дзяўчына і працiснулася, выскачыла з тралейбуса.

Алеся не паспела яе разгледзець. Толькі праляцеў, мякка сплыў ліловы гавару, а і пішу па-беларуску.

— А... Так вы, может быть, поэт...

Ну, поэтам можно, — марматнуў мужчына з пластырам.

Але да яго ўжо падышлі, яго ўхапілі за рукі двое хлапцоў, якія пэўна ўсё чулі.

— Можа, выйдзем?

З-за прылаўка выбегла загадчыца. Алеся не стрымала слёз і, не чакаючы кавы, выбегла з магазіна.

Ізноў гэтае непераадольнае, немае двухмоўе...

Ёй пашанцавала нарадзіцца ў сям'і вядомага мастака. Яна штолета ездзіла да сваёй бабулі ў вёску Заазер'е пад Лепелем, дзе мова, нечапаная, чыстая, як тое дальняе лясное возера, пра сцежку да якога ведаюць толькі бацька ды дзядзька Коля. Тое возера, пэўна, ад стварэння свету жывіцца гаючаю крынічнай вадой.

Яна вучылася чытаць па беларускім яна не ўмее скакаць цераз "казла" і лазіць па канаце. З таго, што яна не бегае, не дурэе разам з усімі на перапынках, з таго, што ніколі не спісвае, з таго, што вучыць, вучыцца і шмат чытае...

Ды не, той байкот не месяц цягнуўся. Ён доўжыцца скрозь усё яе жыццё. Дзіўная рыбіна без жабраў... Кінулі ў акварыум і назіраюць... Выжыве — не выжыве?

Бацька ездзіў па Беларусі, замалёўваў народныя строі, збіраў кераміку і маляваныя дываны. Мама спявала са сцэны народныя песні. А яна пачала не толькі гаварыць, але і мысліць па-руску. І першыя вершы ў яе таксама былі рускія. Няўклюдныя, важкія, падобныя на немаўлят, нараджаных з хваробаю Даўна. У мастацкае вучылішча, куды перайшоў працаваць бацька, яна паступіла чыста механічна, абы збегчы са школы...

ёсць сапраўдны дыялектык, і, карыстаючыся тым, што напярэдадні экзамена наўрад ці хто будзе з ёю спрачацца, метадычна даводзіла, што ці не ўсё роўна, якія герб і сцяг, і што філасофскія тэрміны немагчыма перакласці на беларускую мову... А Алесі ў адчаі мроілася планета, не планета, дык востраў, горад, вёска, рэзервацыя ў рэшце рэшт, дзе і ў краме, і на пошце, і ў паліклініцы можна і трэба гаварыць па-беларуску. І ніхто цябе не абразіць, не зблесціць, не давядзе да слёз... У рэшце рэшт індзейцы ж захавалі ў гэтых сваіх рэзервацыях сваю культуру... А потым яна ішла ў майстэрню і ляпіла сваю рыбіну. Вялізную гліняную рыбіну з бездапаможна разяўленым ротам...

З тралейбуса яе выпхнулі ў слотны, калючы змрок...

Галіна БАГДАНАВА



# "ТАРМАЗНУТАЯ"

АНАТОМІЯ АДНАГО РЭФЕРЭНДУМУ

плашч... І салодкі, язмінавы водар парфумы...

— Грубиянка! Хамка! Вы только посмотрите, какая хамка!

Жанчына ў пухавіку, — плямамі, плямамі, — налівалася чырванню. Яна пасунулася, даючы Алесі месца і чакаючы яе падтрымкі. Алеся, не падымаючы вачэй, працiснулася, праслізнула да вакна, да кампосцера, прабіла талон, зачапілася за поручань... У сярэдзіне ў яе ўсё зайшлося. Душу сцебанулі плёткай. Балела, пякло нясцерпна. Ды не толькі ад кінутых услед незнаёмай дзяўчыне ў ліловым плашчы абразлівых слоў. Ад сваёй уласнай нематы. Ізноў яна, як і ў школьныя гады, не можа рашыцца загаварыць з незнаёмым чалавекам па-беларуску. Ізноў гэтая брыдкая, слізкая двaістaсць. І ў тралейбусе, і ў краме, і ў паліклініцы. Не, яна не такая, як гэтая раз'юшаная ўчырванелая кабета ў пухавіку. Але і не такая, як дзяўчына ў ліловым плашчы. Яна шэрая нямая нікчэмнасць...

**У анёла-ахоўніка**
**Крылы спякліся. Абгарэлі.**
**І косткі тырчаць, як шыпы...**

З самага ранку гэтыя навязлівыя радкі вярэдзілі яе падсвядомасць. І цяпер, калі за тралейбусным вакном у стомленай восеньскай шэрані паплылі, замільгалі заводы, масты, зноў заводы... І дадому яшчэ ехаць і ехаць... Гэтыя словы біліся, пульсавалі ў скронях... Нудна, страшна, балюча.

Быў жа час, два, тры гады таму, калі ў іхнім магазіне з'явіліся беларускія шыльдачкі: "алей", "малако"... Калі іхняя маладзенькая паштарка пачала ўкідваць ім у скрынку напісаныя па-беларуску запіскі, накшталт: "На Вашае імя атрыманы ліст са ЗША. Калі ласка, зайдзіце ў аддзел дастаўкі"... Тады Алеся для самой сябе нечакана не толькі ў гастраноме ці тралейбусе, нават у зубнога доктара проста і весела гаварыла па-беларуску.

Што ж цяпер? Сорамна за сваё пакусанае моллю паліто і паношаныя чобаты? Не хочацца прыцягваць да сябе ўвагу? Ці гэта проста звычайны страх?..

Так, яна баіцца, каб, як тады, па вясне, не расплакацца. Яна тады звыкла, весела падала знаёмай прадаўшчыцы квіток і папрасіла кубачак кавы. І зусім нечакана пачула ззаду незадаволенае мужчынскае шыпенне:

— Ой, прямо пить расхотелось. Тошнит от белорусского. Особенно после вчерашнего фильма.

— Фашисты! — падтакнуў яму другі, з пластырам пад вокам. Ён стаяў перад Алесяю і нешта выглядаў на вітрыне.

— Не падабаецца, едзьце ў Парыж і слухайце там французскую мову! — рашуча вымавіла Алеся, — а я не толькі "Буквары". Ёй тады было гадоў пяць. Нават крыху меней. Яна шмат хварэла і дактары параілі зрабіць аперацыю — выразаць міндаліны. Яна баялася не столькі самой аперацыі, колькі вялізнай змрочнай палаты на чатырох, дзе не было мамы, толькі тры, старэйшыя за яе дзяўчынкі. У чаканні аперацыі яна чытала "Буквар". Ды не, не ўголас, шэптам. А яны, гэтыя дзяўчынкі-школьніцы, перадражнівалі, нядобра смяяліся з беларускіх слоў і нават літар. Смяяліся з яе, Алесі. А яна ж, каб нават ведала як, была бяссільная штo-небудзь ім давесці.

У яе ўжо выразалі міндаліны. Яны ўпалі, коўзнуліся ў поўную крыві белую эмаляваную, выгнутую літарай С місачку. Яны былі падобныя на жабры... Усё гэта яна ўгледзела скрозь бінт, якім завязалі ёй вочы. Праз дзень, ужо без заморозкі, ёй выдалялі яшчэ кавалак... З-за гэтага давялося начаваць у бальніцы яшчэ адну ноч. І суседкі-школьніцы паспелі ўкрасці з яе тумбачкі маленькую драўляную ялінку, якую прынесла мама. Рыбы з жабрамі нямеюць. Яна знямела, адасобілася ад усяго свету без жабраў, дакладней, без міндалін, ці як іх яшчэ называюць — гландаў... Яна плавала ў возеры ўласных мрояў, шмат думала і чытала...

Яе першая настаўніца падарыла ёй на дзень нараджэння выдатна ілюстраваныя "Беларускія народныя казкі". А ў новай школе, куды давялося перайсці, калі яны пераехалі на новую кватэру, яе, як выдатніцу, забралі ў самы моцны, 3 "А" клас і...паставілі першую ў жыцці тройку. Па беларускай мове.

— Сонейка свеціць. Вясна, — прачытала яна па падручніку.

— Не сонейка, а санейка! — строга папраўляла яе настаўніца.

Яна запярэчыла і была пакараная.

Настаўніцу ў хуткім часе ўзнагародзілі медалём да 100-годдзя з дня нараджэння Леніна і яна штодня прыколвала яго да сваіх суканак. На яе грудзях свяціла "санейка". На кантрольныя яна раздавала ўсім выдатнікам спецыяльныя дошчачкі, каб яны закрываліся і не давалі спісваць сваім суседзям. Цяпер тая настаўніца жыве ў Чыкага. Ды і Алесіны аднакласнікі з таго ўзорнага, спецыяльна адабранага "А"-класа хто ў Амерыцы, хто ў Ізраілі, хто ў Швейцарыі... Тут, у Мінску, засталося ўсяго некалькі чалавек. Дружны ў іх быў клас... І як усе дружна аб'явілі ёй ці не ў тым самым трэцім класе байкот... З-за чаго? Ці то металалом яна не збірала, бо трэба было ісці на музыку, ці то не за таго прагаласавала, калі выбіралі старасту... З месяц з ёй ніхто не размаўляў. Не размаўлялі, але смяяліся. З яе нязвыклага імені — Алеся. З таго, што

Але тут мама са сваіх гастроляў у Амерыку прывезла магнітафон і касету з Данчыкавымі песнямі. І гэты ценкі, высокі, светлы голас, гэтая мяккая, дасюль ніколі не чутая ёю заакеанская беларуская мова так растрывожылі, літаральна перавярнулі ёй душу...

**Сонца за хмаркамі ўранні**
**Скрылася, болей не свеціць.**
**Што ж ты мне сэрца параніла,**
**Найдаражэйшая ў свеце?..**

Яна ўглядалася ў рытмічнае мігценне рубінавых агеньчыкаў магнітафона, яна прагна ўбірала кожны гук і ніяк не магла наталіць смагі, бо ўсё, што ўбірала яна ў душу, — вылівалася слязьмі...

А тут яшчэ на іх курс вярнуўся з войска Генік Лозка. Ён быццам абудзіў усіх ад зімовага здранцвення. Дзяўчаты, хлопцы загаварылі па-беларуску, яны гуртаваліся, ладзілі "Калядкі", "Гуканні вясны", "Купаллі"... Алеся хадзіла на ўсе святы, здаралася, падпявала, станавілася ў карагод, бо гэта была яе родная стыхія... Цяпер да яе ў сне і наяве прыходзілі беларускія вершы... Лёгкія, светлыя, як аблачынкі... Яна рашылася, занесла іх у адзін з часопісаў. Пачала друкавацца. Без прозвішча. Падпісвалася проста "Алеся". Лепшыя радкі прысвячала Г. Л-ку. У рэшце рэшт яна разнявoлілася. Вышыла сабе блузку і фартушок. Спляла вяночак. Пахала разам з усімі на цэлую ноч у Вязынку святкаваць Купалле. Вачыма, душою чакала, шукала Геніка. Ён быў не адзін. У цемры яна тую дзяўчыну-"талакоўку" не разгледзела. Ды якое гэта мела значэнне. Яшчэ адна рана. Боль. Слёзы. І рубінавае святло Данчыкавых песень.

Пад восень паехала да бабы ў вёску. Дзядзька Коля сядзеў на ганку, смактаў сваю самакрутку, шкадаваў яе:

— Ты, Алеська, таму замуж не выходзіш, што па-беларуску гаворыш. У вас жа там, у горадзе, я ведаю, усе гаворыць па-руску. А ты... І не вясковая, і не гарадская...

На вяселле да Геніка яна не пайшла. І паступаць разам з ім у Акадэмію мастацтваў не стала. Рабіла разам з бацькам харугвы, шыла сцягі, хадзіла на мітынгі... Заплюшчыць вочы — рука сама намалюе гэтага светлага ганарлівага конніка ў рубінавым зззянні. Адраджэнне. Хто ведаў, што будзе яно такім кароткім. Учора іх іхняй сметніцы ляжаў цэлы стосачак дзіцячых кніжак. Зверху "Наш герб і сцяг". Нехта выкінуў.

Генік скончыў аддзяленне скульптуры. Яна паступіла на кераміку. Як добра, што яна паступіла на кераміку. З гліны можна ляпіць на любой мове. Нават моўчкі...

Выкладчыца філасофіі горача запэўнівала іх, што яна самы што ні

А назаўтра на лесвіцы Акадэміі мастацтваў ёй насустрач — той самы ліловы плашч, салодкі язмін парфумы. І звонкі дзявочы голас, той самы, з тралейбуса...

— Алеся, прывітанне! Ты мяне, пэўна, не пазнаеш! Няўжо я так змянілася?

— Віка?..

Гэта сапраўды была Віка, Віка Кукса, яе аднакласніца. Але ж яна гаворыць па-беларуску... Дзіўна. І што яна робіць у акадэміі?..

— А я цяпер тут вучуся. На аддзяленні мастацтвазнаўства. Завочна. І ты тут таксама? Вучышся, ці, можа, ужо працуеш?

— Вучуся. На керамiцы. Я ведала, ведала, што ты абавязкова будзеш тут вучыцца! Я цябе так часта ўспамінаю... Мы ж, дурні, з цябе ў школе смяяліся. І, ведаеш, як цябе называлі? "Тармазнутая"! Я ж тады не ведала, хто твой бацька... Уяўляю, якімі вачыма ты тады на нас усіх глядзела?! Уяўляю. Каб не "Талака", я б пэўна дасюль засталася сляпым кратом. А цяпер ведаю, што трэба рабіць... Я сёлета цэлыя два класы сваім дзецям у нашым мікраёне выбіла. У дзвюх школах. На выбар. Цэлы месяц з плакатам каля райана прастаяла, але выбіла! Праўда, у класе тым дзеці ўсё роўна на перапынках па-руску гавораць. І мае, гляджу, пачынаюць пад іх падрабляцца...А ў цябе дзеці ёсць?

— Я не замужам.

— А ў мяне муж скульптар. Генік Лозка. Можа, чула?

Алеся адчула, што чырванее. Непрыемна.

— Ведаю. Я з ім у вучылішчы разам вучылася.

— Праўда?! Я яму толькі што ў майстэрню званіла. Заказ яму новы далі: новыя гербы трэба для пасольстваў нашых за мяжою зрабіць. Некалькі тысяч долараў за кожны абзацаюць. Ты запішы наш тэлефон. І заходзь.. Абавязкова заходзь...

Алеся запісала. З абсалютнай упэўненасцю, што не пазвоніць і не зойдзе ніколі. У яе наперадзе ізноў метро, перапоўнены тралейбус.

**У анёла-ахоўніка**
**Крылы спякліся...**

— Наступны прыпынак — школа.

Усю дарогу прыпынкі абвяшчаюць па-беларуску. Як хацелася падарыць гэтай упартай звонкагалосай дзяўчыне за рулём кветкі?!. І самой загаварыць па-беларуску. Але — не. Алеся, як заўжды, спыталася нейтральна.

— Вы выходзіце?

— Так.

Знаёмыя светлыя вочы. Вытанчаны крыху нервовы твар... Захлынуцца можна. Гэта ж той самы паэт, бард, які спявае такія пранiклівыя, пранізлівыя песні... Яна ж пазаўчора была на яго вечары.

Тралейбус спыніўся. Яна выйшла. Ён падаў ёй руку. Мяккая, моцная яна ў яго. Як ва ўсіх сапраўдных творцаў... Гэта ён спявае пра анёла. Нешта светлае і трывожнае.

— А вы, даруйце, не Алеся?

Няма моцы дыхнуць... Яна не можа пераадолець сваю нечую роспач...

Спадар Паэт, прашу Вас, пачакайце. Не знікайце з яе жыцця. Не раставайце ў гэтым слотным восеньскім змроку. Яна зараз выплыве. Яна загаворыць. Яна заспявае... Яна ж так хоча жыць...

## БЕНЕФІС, АЛЕ БЕЗ МАНТСЭРАТ

**Харэографа і рэжысёра ўрачыстых відовішчаў, аднаго з "хросных бацькоў" знанага ансамбля "Харошкі" Міколу Дудчанку віншавалі дзеячы мастацтваў, творчыя паплечнікі, сябры. Віншавалі, сабраўшыся на шматлюдны ўрачысты вечар у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Нагода? 35-годдзе творчай дзейнасці М. Дудчанкі.**

**А вось у Дзяржаўным тэатры оперы і балета свайго бенефіцыянта Міхаіла Жылюка ўшаноўвалі адмыслова, па-тэатральнаму. У гонар яго адбыўся паказ спектакля "Севільскі цырульнік". Віноўнік урачыстасці ўвасабляў цэнтральны вобраз у гэтай неўміручай оперы — Фігара, і Фігара — Жылюк, як даўно заўважылі меламаны, — сама абаяльнасць.**

**Далёка не ўсе гарадскія рэкламныя шчыты спадобіліся дэманстраваць святочную афішу бенефіцыянта (наклад, відаць, не масавы). Затое захаваліся сям-там у цэнтры Мінска абвесткі канцэрта сусветнай "зоркі" Мантсэрат Кабалье, якога чакалі так, што і пасля паведамлення 6 сакавіка пра яго адмену нават не спяшаліся зняць анонс-палотнішча на фасадзе ДАВТа... Оперная прымадонна, якую экстрана шпіталізавалі напярэдадні вандроўкі ў Мінск, перадала з Іспаніі свае шкадаванні, прабачэнні і — надзею на тое, што выступленне ў сталіцы Беларусі ўсё ж адбудзецца. Кабалье назвала і мажлівую дату — 28 мая. Застаецца чакаць, нават скептыкам.**

**Н. К.**

## ПЕРСАНАЛЬНАЯ ВЫСТАВА



**У выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску адкрылася персанальная выстава работ аднаго са старэйшых мастакоў горада Анатоля Уладзіміравіча Ільінова.**

**Асноўнае месца ў творчасці мастака займае лірычны пейзаж. З вялікай любоўю і шчырасцю перадае ён някідкія куткі роднай беларускай прыроды праз сваю графічную мову.**

**А. Ільіноў — удзельнік многіх абласных, рэспубліканскіх і міжнародных выставак. Яго работы знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях як у нас у рэспубліцы, так і далёка за яе межамі.**



*На здымках: Анатоль Ільіноў; графічная работа А. Ільінова "Стары Віцебск".*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

*КУПАЛАЎЦЫ Ў ПРАСТОРЫ СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ*

# "...НЕ ТАМУ Я ПРЫНЯЎ ТВАЁ СЛУГАВАННЕ..."

***Купалаўскім тэатральным сценам — ужо семдзесят пяць. Шануючы самую гэтую дату (узрост, мудрасць ды набыткі атаясамляюцца з ёю), разумней за ўсё было б памаўчаць, бо філасофнічаць няма натхнення. Бальшыня чальцоў трупы — людзі сталыя, кіраўніцтва (у галоўнай рэжысёрскай асобе) мае ганаровыя званні разам з хрэстаматыйнымі назовамі пастановак; рэжысура (у трох чарговых асобах), як існасныя беларусы, нічога не мае, акрамя выпадковых мецэнатавых прэмій ды чаргі на пастаноўкі.***

***Акцёры? Далікатна скардзяцца. Заўжды. Так, што забыліся, як прадстаўляць пачуццё глыбокага здавальнення. Зрэшты, купалаўскія акцёры часцяком сустракаюцца ў іншых тэатрах. Кіруюць "Хрыстафорам", удзельнічаюць у пастаноўках "Вольнай сцэны", ганяюць "Рок-н-рол на саломе" якраз насупраць бацькоўскага будынка, але часцей проста глядзяць на калег. І, надараецца, глыбока-глыбенька ўздыхаюць. З пачуццём.***

*З Купалавага тэатра ўцякае жыццё.*
*І на гэтым можна было б скончыць.*



*Сцэна са спектакля "Тры Іваны — тры браты".*

Тэатр трухлее, друзлее, моршчыцца. Буцвее, магчыма. Ён утвораны паводле знанай мадэлі тэатра-сям'і, дзе спектаклі, як дзеці, мусяць гадавацца, а сямейнікі — ідылічна трымацца адно за аднаго. Гэтая мадэль, напэўна, не самая гнуткая. Вядома, ніякая не сучасная. Але менавіта яна каштоўная тым, што спакваля (часам прыхавана) утрымлівае, заахвочвае, рыхтуе адметны вынік-эфект: спектакль, які выходзіць да гледача, часцяком самадастатковы, у самім сабе шукае моцы абнаўляцца ды аднаўляцца, мае здольнасць, пер態ўтвараючыся, жыць гадамі. Гэтая мадэль ці не самая стратная. Варта было праіснаваць семдзесят пяць гадоў, каб самім упэўніцца, што на яе заўжды бракуе грошай. Тых, што сяк-так выдаткуе дзяржава. Тэатр не здатны зарабіць на сябе сам. І ці не кожны мае права папракаць яго за гэта. А тэатр пачынае хітраваць, азірацца, шукаць не творчай моцы, а ліхаманкавай магчымасці выкруціцца сёння, выслізнуць заўтра, — пра паслязаўтра згадваць толькі тады, калі трэба несці афішу ў друкарню.

...Тэатр — дарагая цацка? Чыя? Дзяржаўная? І дзяржава ўжо здзяцінела? Маскоўская крытыка ўгледзела ў разбурэнні і падваенні МХАТа праўобраз раскіданага Саюза непарушнага. Купала яшчэ калі падарыў нам вобраз раскіданага гнязда: сям'і, якая загінула праз уласную зацятасць ды нежаданне паслухацца здаровага розуму сучасніка. Але мхатаўская школа дагэтуль збірае вакол сябе здатных да здаровага разумення. Парыжане здатныя пажартаваць з узросту Камедзі-франсэз, але пачаткоўцу-акцёру, гартаванаму тамтэйшымі мэтрамі, аддасць перавагу бальшыня самых мадэрновых труп. Ён, бачыце, усё ўмее. Свайму купалаўскаму мы цаны не ведаем. Тузіну народных артыстаў дзеля маральнай падтрымкі ў скрусе сённяшняга існавання, напэўна, рыхтуюцца надаць годнасці міжнародных, — каб была нагода прыплаціць крыху за званне. Замест кампенсацыі на хлеб і малако. Прыплаціць за тое, што не ў стане заслужана аплаціць. Тэатр жа — сям'я, вось і разбяруцца па-сямейнаму...

Цяпер, здаецца, трэба перайсці да спектакляў. Да мастацкіх здабыткаў. Сцвердзіць, што нашы акцёры таксама могуць усё, нават не за ўзнагароду, а за зарплату. Зважыць на тое, што культура наша сцэнічная... увогуле ёсць. Часам вышэйшая, часам ніжэйшая. Спяваюць, рухаюцца, носяць свае пільчакі, спадніцамі за фатэлі не чапляюцца. Час-почас манціроўшчыкі могуць паваліць на артыстаў дэкарацыю (выпадкова), а артысты не падаваць рук манціроўшчыкам (цыгарэтамі занятыя). Зрэшты, тэатр, як вялікая сям'я, усім умее сам займацца і займаецца. Цяжка, тужліва, ахвярна, аднастайна. Аднастайна? Ага. Юбілеем, ушанаваннем заслужанага аўтара, вечарынаю артыста, пракатам спектакля з ягоным удзелам пад назваю "бенефіс", вітаннем госця або гасцей, — хоць сабе ў п'есе перакладной, хоць сабе — нацыянальнай. Урэшце вынікае, што "Раскіданым гняздом" — рыхтык як "Гасцямі". У выніку мы, — астатнія, тыя, хто запаўняе, каб не зеўралі пустэчай, тэатральныя месцы, пачуваемся гасцямі ў раскіданых гнёздах...

***З Купалавага тэатра ўцякае жыццё.***
***І на гэтым можна было б скончыць.***

Набор складнікаў сам па сабе не робіцца сістэмаю. Трэба яшчэ боскую волю ды чалавечую вымогу. Святло, музыка, артысты з вывучаным тэкстам не складуць спектакль. Трэба яшчэ прыстойны закулісны буфет з каваю і гарачымі лустамі. Трэба, каб акцёрскія дзеці былі дагледжаны. Трэба, каб паслязаўтра, купалаўца чакалі ў Варшаве, а праз тыдзень — на лабараторыі Міхаіла Чэхава пад Лонданам або ў Маскве. Тады купалавец і для нас сыграе, і на г э т ы м можна будзе скончыць. Але сёння выкручваюцца, заўтра — выслізгваюцца, а паслязаўтра трэба несці афішу ў друкарню. Няма калі.

...Жудлівы, роспачны арганізацыйны крызіс апанаваў наскае тэатральнае мастацтва. Адміністрацыя відавочна не можа пагрэбаваць прынцыпамі, а тэатр-сям'я злуецца і вымушана шкадуе няўдаліцу-сямейніка. І было б неразумна мець на ўвазе толькі ўласна тэатральную адміністрацыю. Тон задае, вядома, адміністрацыя дзяржаўная: вертыкальная, гарызантальная, пухлінна-хваробная, жорсткая, няўмелая, няўмольная. Каб ашчадзіць электраэнергію, яна можа ўпотай выключаць факс (а чаго будзе стаяць і суткамі маўчаць?); каб пакараць гледачоў, яна забароніць наведваць усе вечаровыя спектаклі дзецям. Разам з "Тутэйшымі" ды "Ідыліяй". Не толькі звар'яцелым класам школьнікаў, якім перад самым тэатральным парогам

# НАЗВА АБАВЯЗВАЕ

Усе мы некалі ўпершыню траплялі ў тэатр. Памятаеце? Ну добра, не самы першы раз, тады вас павялі бацькі, перакананыя, што дзіця ў тры гады ад нараджэння здольна вытрымаць оперу, а трошкі пазней. Успомнілі? Усім класам, пад наглядам настаўніцы роднае мовы, выправіліся ў Купалаўскі тэатр на "Паўлінку".

Што было потым? Настаўніца ў думках праклінала той дзень, калі прапанавала вам наведаць тэатр, і старанна рабіла выгляд, што не мае дачынення да раптоўна здзічэлых дзяцей. Хлопцы дралі праграмкі на папяровыя паскі, скручвалі іх, для надзейнасці ўмацоўвалі слінай, уладальнік гальштука адцягваў яго наніз, напятую гумку агортваў папяровы прабой... Жык!

Часам стрэл дасягаў мэты — мужчына ў гадах, які невядома чаму апынаўся на дзённым спектаклі, хапаўся за лысіну. Дзяўчаты перашэптваліся, храбусцелі абгорткамі шакаладак. Мы, ды і вы таксама, паводзілі сябе, як у школе на ўроку літаратуры. А небарака-настаўніца не мела магчымасці падняцца, ляснуць указкай па стале: "Цыц, бо кепска вам будзе!"

А цяпер прыгадайце іншы выпадак. Вы пайшлі ў тэатр па ўласнай ахвоце — упершыню. Дзікунства скончылася. Два білеты. У першым акце, калі на сцэне герой-каханак укленчыў перад гераіняй, а там, дзе сядзелі вы, хутчэй за ўсё ў бельэтажы, хаця ў маім выпадку месцам дзеяння аказаўся бенуар, рукі хлопца і дзяўчыны сустрэліся. Вы не глядзелі адно адному ў вочы. У антракце не спяшаліся ў буфет. Пасля спектакля цалаваліся каля фантана "Хлопчык з лебедзем".

І вось цяпер, калі вы чуеце слова тэатр, самахоць аднаўляецца адзін з гэтых успамінаў. Абодва ў нечым саромныя. Уласна для мяне і тое, і другое звязаны з Купалаўскім тэатрам, у назве якога тады яшчэ не існавала атрутнага слова — акадэмічны.

Гэтыя ўспаміны — усяго толькі спроба настроіць вас на пэўны лад успрымання далейшага. Калі існуе колькі пунктаў судакранання, лягчэй разумець іншага. Так, шчырая гаворка можа пайсці і паміж цалкам living рознымі людзьмі, калі яны вып'юць колькі чарак разам. Агульны кайф яднае.

Мяне заўсёды здзіўляла маніякальнае жаданне беларускіх пісьменнікаў пры жыцці трапіць у школьную хрэстаматыю. Крый божа ад такой пашаны. Хрэстаматыя — могілкі літаратуры. На яе старонках мусяць ляжаць заслужаныя, вядомыя, народныя, лепшыя, але... нябожчыкі. Ад іх нельга чакаць ані новых твораў, ані неардынарных учынкаў, іх нельга судзіць па законах жывых, па законах нашага часу. Трапіць у хрэстаматыю пры жыцці ўсё адно, што стаць у маляўнічай паставе на Вайсковых могілках паміж надмагіллямі Янкі Купалы і Якуба Коласа, ды ўдаваць з сябе бронзавую скульптуру. Вам не падабаецца слова могілкі? Добра, заменім яго на музей, сэнс ад гэтага не зменіцца. Музей — могілкі рэчаў, тут імі не карыстаюцца, магнацкі кунтуш ураўнены ў правах з сялянскаю світкай.

Драматургія — спецыфічны від мастацтва. Калі раман у выглядзе выдадзенае кнігі — закончаны прадукт, то п'еса — паўфабрыкат. Для яе рэалізацыі неабходны спектакль. Кнігі працягваюць жыццё ў бібліятэках, п'есы, спектаклі — у тэатрах. Тэатральны працэс... час ідзе, адыходзяць пакаленні, школы, у ім таксама ёсць жывыя, ёсць нябожчыкі. Першым і другім, як вядома, супрацьпаказана існаваць разам. Вось тут я падвёў вас да раздарожжа,

патлумачылі, куды прывялі, але і памытым дзеткам у папрасаваных нагавічках з мамаю за руку? А на ранішніх сурова трымаць гэтых самых дзетак за ручкі з мамамі на скразнячку між касай ды ўваходнымі дзвярамі, каб потым расказаць казачку дваццацігадовай даўніны (а грашовы збор харошы). Культура сцэнічная ў нас увогуле ёсць, хоць акцёры свецяць каленьмі ды споднімі праз дзірачкі і дзіркі — тыя ж яшчэ дзірышчамі не назавеш, толькі ж дваццаты сезон праціраюцца. Расказаць, бо ўсё паказванне, паводле тагачаснай рэжысуры, прадугледжвае якраз расказванне. Затое там сам Генадзь Аўсяннікаў іграе Крумкача, сваю другую вядомую ролю ў сённяшнім рэпер-туары. Разумееце, ставіць знарок на выбітнага акцёра спектакль — дарагавата. Разумееце, ставіць знарок для дзяцей... Купалаў тэатр не хоча ставіць для дзяцей. Тэатр не хоча (хоць і мусіць) пускаць іх увечары і трымае на скразнячку ўраніцы. З гэтага тэатра ўцякае жыццё...

Але на гэтым скончыць няможна. Няможна, бо менавіта ў фатэлях (а не крэслах) Купалаўскага тэатра я адседзела сваёй маці спадніцы на каленях, я пазнавала старых акцёраў пасля спектакля ў скверы ля хлопчыка з гуссю-лебедзем. Мо таму цяпер маю імпэт і патрэбу нешта звягаць, бо гэта — іхняя ласка, загадка, таемнасць; іхняя любоў, традыцыя, жыццё. З іхніх вачэй — у мае вочы, з іхніх рук — не, не ў мае... Хіба з іхняе сцэны да мяне ў залу. Без мяне, разумееце, у зале — ніяк. Каб маглі, дык абышліся б...

Я ідэалізую мінулае. Без яго, прывідна трывалага, мне не здужаць паскудстваў цяперашчыны; адміністрацыя, падобна, не памятае бацькоўскіх каленяў. У выніку тэатр абтрос, як пыл, мае сацыяльныя дамаганні (напалову патаемныя спадзяванні). Тэатр грэбуе маім дзіцем. Хто ўсур'ёз кіўне на парадкі, не баючыся зачапіць людзей, якія іх спарадзілі ды штодня дасканаляць? І хоць тэатральныя парадкі, вядома, спараджае не толькі тэатр, ён, як і шмат хто іншы, таксама, з тым самым, туды ж...

Тэатр ніяк не займаецца дзецьмі. Баіцца? Падсвядома, прыцішана, прыхавана. Бо заўсёды баішся, калі думаеш толькі пра сёння, пра заўтра ды пра афішу ў друкарні. Няма ўладыкі, кладара і нават якога памаўзлівага дыктатара з показкі, каб супакоіць сумленне. Каб настрашыць і загадаць не баяцца. Служба, маўляў, не дружба. Страшаць не так дзеці, як пакрыёмае пытанне "каму слугуем". Так страшыць, што ўжо не радасна чуць, што самі акцёры, маўляў, дзеці...

Купалаўскі тэатр падсвядома і свядома не займаецца дзецьмі: з яго ўцякае жыццё. Да дзяцей, якія яшчэ радуюцца чытанкам-маляванкам нароўні з камп'ютэрнымі забавамі, а ў добрых кніжках без акцёрскай падказкі чытаюць пра тое, як "дзеля маёй вялікай мары пра мудрасць і веды я пераадолеў свой страх і спытаўся ў Слаўнага, і сказаў: "Уладар, ці праўда, што ты і Таш — адно? Леў зарыкаў так, што зямля скаланулася, але гневаўся ён не на мяне, і мовіў: "Гэта хлусня. І не таму я прыняў тваё слугаванне, што мы — адно, а таму, што мы — супрацьлеглыя; я і яна такія розныя, што калі слугаванне мярзотнае, яно не можа быць мне, а калі слугаванне не мярзотнае, яно не можа быць ёй. Дык вось, калі хтосьці клянецца імем Таш і трымае клятву дзеля праўды, мной ён клянецца, не ведаючы, і я ўзнагароджу яго. Калі ж ён зробіць злое ў маё імя, хай ён кажа: "Аслан" — Таш ён слугуе, і Таш прыме ягонае слугаванне. Ці зразумеў ты, дзіця?" І я адказаў: "Уладыка, табе вядома, колькі я зразумеў". І яшчэ ён сказаў, як таго вымагала з мяне існасць: "Я ж шукаў Таш усе мае дні". — "Улюбёны сын мой, — сказаў мне Слаўны, — калі б не да мяне ты імкнуўся, ты б не шукаў так доўга і слушна. Кожны знаходзіць тое, што шукае на самай справе". Так цяпер пішуць пра гэта нават у дзіцячых кніжках.



*Ю. Авяр'янаў (Радца) і С. Станюта (Бабуля) у спектаклі "Снежная каралева".*

Тэатр, утвораны і выгадаваны на сямейнай мадэлі, ці то пераэкыў ужо, ці то не зрабіўся спраўнаю, праўдзіваю сям'ёю. Хутчэй за ўсё, гэта натуральна. Бо калі напісаць, што тэатр-сям'я не зважае на дзяцей, дык пытанне "каму слугуем" не трэба задаваць. Тады і без яго зразумела, — каму... Купалаўскі тэатр застаецца адным з рэдкіх месцаў, дзе адны дзеці змогуць услухацца ў мову, на якой размаўляюць са сцэны, а другія дзеці — ціхусенька паправіць артыстаў, дастаючы да мамчынага вуха. Недабіткі, разумееце, гэткія. Мала бацькоў ды дзядоў трэслі-шкуматалі. Паспадзяваліся, разумееце, ізноў дзяцей навучылі, пра Аслана чытаюць, — на мо-ове! Дык няхай (замест рэзарвацыі?) будзе для іх Купалаў тэатр. Я гэта — сур'ёзна. Бо самае верагоднае — атрымаць адказ на пытанне "каму слугуем" — надарыцца толькі тады, калі трэба будзе выбіраць. З дзецьмі-недабіткамі або... на скразняк іх разам з мамамі. За ручкі.

І я думаю, няшмат чые дзеці выстаяць на скразняку. Бо ў бальшыні бацькоў гнездзіцца адметнае, вытанчанае, няскратнае пачуццё лёгкай пагарды да тых, хто там, на скразняку, апынаецца. І выбітнае акцёрскае майстэрства тут ні пры чым.

***Калі з тэатра ўцякае жыццё...***

На гэтым можна было б і скончыць. Але ж дзеткі маюць такую дзівосную асаблівасць — робяцца дарослымі. І нашы — зробяцца. Не адседзеўшы маміных спадніц у купалаўскіх фатэлях. Тэатр тым часам адсвяткуе сваё стагоддзе, але хто будзе пільнаваць сіваватых старых ля фантаннага хлопчыка з гуссю-лебедзем, каб паведаміць усяму скверу, звяртаючыся да мамы: "Артыст пайшоў!"? Зрэшты, здаецца, і ўжо не часта хто пільнуе... Хто? Той, без каго не мае сэнсу круціцца сёння, выжываць заўтра, а паслязаўтра дамаўляцца з друкарняю пра афішы. Бо паслязаўтра ён у тэатр не прыйдзе. І на гэтым можна будзе скончыць.

— Мамачка, ты ў тэатр збіраешся? — з перадпакою чую голас сына-першакласніка. — Мамачка, а можна — я з табою? Я сам у школу прачнуся, толькі вазьмі...

Дзеці хутка забываюцца на скразнякі.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА з архіва тэатра*

калі вы, як і я, драматург. Калі ж вы глядач, то глядзіце далей, такая ваша доля. Тэатральныя могілкі — акадэмічныя тэатры. Гэта вынікае з іхняе назвы. Скажыце мастаку-жывапісцу, што ён акадэмічны мастак — пакрыўдзіцца. А скажыце драматургу, што яго паставіць акадэмічны тэатр — узрадуецца. Маніякальная цяга пісьменнікаў да хрэстаматыі. Прага трапіць на могілкі раней адведзенага богам часу.

Я, крый божа, не супраць існавання бібліятэк, хрэстаматый, могілак, крэматорыяў і акадэмічных тэатраў. Задача апошніх — захоўваць тое, што ўжо не падлягае зменам. Я мару, каб мажліва было прыйсці ў Купалаўскі тэатр і паглядзець традыцыйны беларускі спектакль: камедыю, трагедыю, драму, фарс, абсурд, трагікамедыю. Паглядзець спектаклі па п'есах беларускіх класікаў драматургіі і колькі п'ес сусветнае класікі, пастаўленых у традыцыях беларускае тэатральнае школы. Я пачынаю баяцца, калі ад акадэмічнага тэатра патрабуюць-чакаюць навацыяў, — гэта не ягоная задача. Аддайце Кесару Кесарава, а Богу — Богава. Іншыя тэатры мусяць напрацоўваць традыцыі, акадэмічны тэатр — іх захоўваць. Інакш парушыцца сувязь часоў.

Магчыма, я пераканаў вас, драматургаў, рэжысёраў. І тут высветлілася небяспечная рэч: рэпертуар такога тэатра немагчыма запоўніць айчыннай драматургіяй: "Паўлінка", "Тутэйшыя", "Раскіданае гняздо", "Пінская шляхта", "Хто смяецца апошнім?" Асабліва дапытлівыя назавуць яшчэ дзве-тры п'есы, якія становішча не ўратуюць. "Selanku"-"Ідылію" прашу не называць, бо напісана яна па-польску.

Беларускай драматургіі, як замкнёнай, самадастатковай школы, не існуе, нягледзячы на тое, што ў савецкія часы нашы п'есы ставіліся па ўсім СССРы. Сорамна прызнавацца, але мы былі толькі адным з класаў савецкай школы. Знікла дзяржава-імперыя — зрабіліся нецікавымі п'есы. І тут наш прарыў на культурным фронце ў выніку абярнуўся паразаю. Што рабіць? Пісаць, ставіць п'есы, ператвараць іх у спектаклі. Шмат што знікне, адыдзе ў нябыт, але нешта з напісанага і застанецца — стане з часам беларускаю нацыянальнаю школаю, якую нельга будзе зблытаць ані з чыёй іншай. Давайце мірыцца з думкаю, што ўласнае надмагілле, як гэта ні зманліва, лепш не бачыць. Пакінем акадэмічныя тэатры ў спакоі. Рэжысёры самі падшукаюць п'есы, навукоўцы вызначацца з хрэстаматыямі. Давайце цешыць сябе думкаю, што нехта потым — у наступным стагоддзі — згадае, як першы раз самахоць купіў білет у Купалаўскі тэатр, успомніць, як сустрэліся рукі хлопца і дзяўчыны...

Магчыма, гэта адбудзецца на "Паўлінцы", а магчыма, да сувенірнага набору беларускіх п'ес дададуцца і новыя творы.

**Максім КЛІМКОВІЧ**

# ПРАЗ ГОД АД ЧАСУ РАЗВІТАННЯ

Тэатр імя Івана Мележа — былы Мазырскі эксперыментальны тэатр "Верасень". Эксперымент скончыўся спектаклем "WELCOME да нашай вёскі" і жорсткім няпоспехам на адным з міжнародных фестываляў. Выйсце бачылася ў змене кіраўніцтва тэатра, бо зазвычай разам з ім, кіраўніцтвам, мяняюцца і творчыя запатрабаванні. У Мазыры, такім чынам, з'явіўся Валеры Ласоўскі разам са сваімі ўяўленнямі пра тэатр... на вялікай адлегласці ад буйных тэатральных цэнтраў.

26 лютага Рэспубліканская творчая майстэрня-лабараторыя малых тэатральных форм на базе Маладзёжнага тэатра прымала чарговых гасцей — пастаноўку мазырчукоў паводле Сяргея Кавалёва, а менавіта — "Трышчана ды Ізоту". І ўжо пераступіўшы парог залы, мусіла ўпэўніцца, зірнуўшы на дэкарацыі: сярэднявеччам ды рыцарствам не патыхае. (Хоць пра рыцарства... гэта як сказаць.) Увазе публікі прапанавалі найсвяжуткую мазырскую прэм'еру паводле амерыканца Саймана "Як пазнаёміцца з бацькам" (п'еса яшчэ больш вядомая пад назваю "Хачу здымацца ў кіно"). Што ж, і яе ацанілі, абмеркавалі... Зазначыўшы, што падобных спектакляў ёсць, было ды будзе — шмат. Што сама вабная драматургія збярэ публіку ў залу. Што не ўсе спектаклі могуць ладна ўштукавацца ў памеры сцэны Маладзёжнага тэатра ды асвойтацца з ягонаю дзіўнаватаю на тэатральнае разуменне прастораю. Таму і везлі ў Мінск тое, што лацвей, а самым прыдатным стаўся Сайман...

Адзначалі безумоўны прафесійны гарт ды рост мазырскіх выканаўцаў; перашэптваліся, між іншым, што такую гераіню, як Валянціна Шаплякова (яна выконвала ролю Лібі), не часта можна спаткаць і на сталічных сцэнах: дасціпная, пластычная, гнуткая, адметна рухаецца, так што харэаграфічная падрыхтоўка — навідавоку, хораша прамаўляе, так што беларуская мова ў яе вуснах не матляецца змучаным, спакутаваным "языком". Прыемна здзівіў расійскі артыст Вячаслаў Кузьмін, выканаўца ролі таго самага бацькі, з якім дзяўчо ехала знаёміцца, — адпаведнаю культураю (яе, дарэчы, не бракавала ўсім выканаўцам!), манерамі, стараннасцю ды паважным стаўленнем да беларускай артыкуляцыі. Заўвагі да Алены Пракопавай, па ролі — Стэфі, каханай жанчыны Лібінага бацькі, давялося толькі што не браць назад: захварэла актрыса, і Алена ўвялася ў спектакль з трох (!) рэпетыцый. Тэатр, нагадваю, не купалаўскі...

Мазырчукі пакінулі прыемнае ўражанне. Менавіта сваёю тактоўнаю тэатральнасцю, далікатнасцю, уважлівасцю... Трэба было бачыць, як акцёры сціпла селі на канапу, якая толькі што адпрацавала разам з імі ў спектаклі. Як слухалі крытыкаў, уздыхаючы ды перажываючы. Як пакусвалі вусны ў зале калегі-мележаўцы, ведаючы спектакль з лепшага боку. У Мінск прыехаў нават Андрэй Лазарэўскі, васьмідзесяцігадовы мазырскі акцёр, з усімі сваімі медалямі ды магутным творчым досведам. "Артысты падбіраюцца адметныя, напэўна, гераічныя, — казаў пра іх усіх, разам узятых, кіраўнік Валеры Ласоўскі. — Яны часам... не выходзяць з тэатра, рыхтуючы спектакль..." Рыхтуючы — казкі для дзяцей, "Даходнае месца" Астроўскага або "Гуляць дык гуляць" Куліка... "Акрамя горада, ягоных уладаў, у нас з'явіліся сябры ў камерцыйных структурах, — працягваў Валеры Ласоўскі. — Вытворча-гандлёвая кампанія "Белснабсэрвіс" дапамагла набыць дарагі рэквізіт ды апрануць артыстаў..."

Уразіла ў расповядзе мастацкага кіраўніка (адначасова — дырэктара тэатра) іншае. Гараджане, тэлефануючы ў касу з пытаннем "Што ў вас там новага" ды чуючы ў адказ пералік спектакляў, адказваюць са скрухаю: маўляў, бачылі ўжо і гэта, і тое, і нават па два разы хадзілі... Бачылі — за нейкі год! Год ад часу развітання з усімі эксперыментальнымі ілюзіямі. З часу абрання й надання тэатру Мележавага імя. З хвіліны ўсведамлення, што тэатры мусяць быць рознымі... Ды адрознымі.

Ёсць тэатры, пра якіх няможна скласці праўдзівага меркавання, не пабачыўшы ў звыклым, свойскім тэатральным асяродку. Таму не менш каштоўным за прыезд мазырчукоў у майстэрню-лабараторыю зрабілася жаданне тых, хто ўдзельнічаў у рабоце, наведаць тэатр на базе ў Мазыры. Балазе, там ёсць што паглядзець.

**Ж.Л.**

**P.S.** Падрабязна пра дзейнасць рэспубліканскай творчай майстэрні-лабараторыі малых тэатральных форм у бліжэйшых нумарах "ЛіМа" распавядзе крытык Рычард Смольскі.

Музыка

# ВЕДАЮЦЬ У ЕЎРОПЕ...

**На працягу пяці гадоў прыязджаю ў Лідскае музычнае вучылішча, каб даць урокі кампазіцыі. І ўсе пяць гадоў не перастаю здзіўляцца, як наладжаны ў ім вучэбна-выхаваўчы працэс, з якой самааддачай працуюць выкладчыкі. Немалая заслуга ў гэтым належыць дырэктару вучылішча Міхалу Андрэевічу Баяровічу, сапраўднаму энтузіясту музычнай адукацыі.**

**Я папрасіў Міхала Андрэевіча расказаць пра творчыя сувязі Лідскага музычнага вучылішча з замежнымі краінамі.**

— Першымі нашымі "ластаўкамі" за мяжой, — адзначыў ён, — былі эстрадны ансамбль "Фестываль", якім кіруе Уладзімір Бубен, і яго вучаніца Святлана Квач. У 1990 годзе яны ўдзельнічалі ў Міжнародным фестывалі акардэоннай музыкі ў Вільнюсе. Праз год ансамбль выступіў з новай праграмай на рэгіянальным конкурсе ў польскім горадзе Аўгуставе і на Міжнародным фестывалі ў латвійскім горадзе Даўгаўпілсе. У 1992 годзе Беластоцкае радыё прадаставіла магчымасць ансамблю Бубена іграць у прамым эфіры. Канцэрт даваўся не толькі для радыёслухачоў. але і для выбранай публікі, што сабралася ў студыі радыёцэнтра. Лідчане пакарылі аўдыторыю майстэрствам і вытанчаным густам. 1993 год — новы поспех: Уладзімір Бубен і Святлана Квач былі адзначаны дыпломамі на адным з самых аўтарытэтных еўрапейскіх конкурсаў акардэаністаў у горадзе Клінгенталі (Германія). Для баяністаў і акардэаністаў усяго свету гэты конкурс азначае прыблізна тое ж, што для піяністаў Міжнародны конкурс імя Чайкоўскага.

Вось яшчэ адна памятная падзея: Аўстрыя, горад Інсбрук. З 4 па 7 мая 1995 года тут праходзіў IV Міжнародны фестываль акардэоннай музыкі, на які прыехалі 270 акардэонных аркестраў і ансамбляў з 12 краін. Адзіным прадстаўніком СНД аказаўся лідскі ансамбль. І ён меў гонар выступіць у заключным гала-канцэрце! Пасля Аўстрыі "Фестываль" наведаў не менш шырокамаштабны і цікавы форум у Даніі. Поспехі Уладзіміра Бубена засведчылі ягоны талент — як педагога і выканаўцы. Бубен — гэта практычна адзіны ў рэспубліцы акардэаніст, які канцэртуе на такім высокім узроўні.

— Верагодна, у вучылішчы ёсць і іншыя калектывы, з мастацтвам якіх змаглі пазнаёміцца еўрапейцы?

— Не раз выязджаў за рубеж аркестр беларускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам Алены Сечка. У 1991—1992 гадах ён дэманстраваў сваё майстэрства ў Польшчы. Хутка некаторыя нашы калектывы, а іменна: аркестр беларускіх народных інструментаў, інструментальны ансамбль "Калейдаскоп" (кіраўнік Васіль Сечка) і вакальная група народнага хору (кіраўнік Тамара Харашылава) здзейснілі двухтыднёвае турнэ па Германіі. Іх цёпла прымалі ў Грэвесмюлене, Вісмары, Анкламе, Любеку, Гамбургу.

**— Я чуў пра цікавы артыстычны лёс нядаўніх выпускнікоў вучылішча Уладзіміра Нехвядовіча і Валерыя Сальkоўскага...**

— Закончыўшы наша вучылішча, Нехвядовіч і Сальkоўскі прадоўжылі навучанне ў Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі. Потым Нехвядовіч пераеўся ў Гановерскую вышэйшую школу музыкі і тэатра. Аднакурснікі вырашылі стварыць рэдкі ансамбль баяна (Нехвядовіч) і гусляў (Сальkоўскі). У такім складзе яны пачалі працаваць у Кёльнскай філармоніі. З цягам часу яны аб'ездзілі ўсю Германію. Добра заявілі пра сябе, напрыклад, на прэстыжным фестывалі зямлі Шлезвіг-Гальштэйн. Ім апладзіравалі ў Аўстрыі, Галандыі, Італіі, Францыі. Дуэт атрымаў пераканаўчую перамогу на Міжнародным конкурсе ў італьянскім горадзе Кастальфедарда. Нехвядовіч і Сальkоўскі заваявалі II месца ў катэгорыі ансамбляў. Адначасова Нехвядовічу было прысуджана III месца ў катэгорыі салістаў. Пасля конкурсу лаўрэаты далі серыю канцэртаў у Бразіліі і Грэцыі. Цяпер яны жывуць і працуюць у Заходняй Еўропе.

**— Не кожнае вучылішча можа пахваліцца такімі гадаванцамі...**

— Аднак варта ўспомніць і пра маладых кампазітараў — выхаванцаў вучылішча, якія сталі лаўрэатамі міжнародных конкурсаў маладых кампазітараў "Надзея-92" і "Надзея-93". Нягледзячы на тое, што конкурс "Надзея" праходзіў у Гродне, нашы пачынаючыя аўтары ўступілі ў барацьбу са сваімі равеснікамі з розных краін. І яны паказалі сябе з лепшага боку. Гаворка пра Ніну Ролік і Яўгена Ларыёнава, якія атрымалі дыпломы лаўрэатаў II і III ступені. Цяпер яны вучацца на кампазітарскім аддзяленні Беларускай акадэміі музыкі, адпаведна ў Дзмітрыя Смольскага і Яўгена Глебава. Для нас гэта вялікае дасягненне, і між іншым, гэта было б немагчыма без вашых падагагічных намаганняў, Віталь Канстанцінавіч.

**— Дзякуй за камплімент!..**

**Гутарыў Віталь РАДЗІЁНАЎ, старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

## РУПЛІВЕЦ НА НІВЕ ПЕРАКЛАДУ

**Сярод тых, хто шмат зрабіў дзеля прапаганды беларускай літаратуры, — і Міхаіл Гарбачоў. Нарадзіўся Міхаіл Васільевіч на Беларусі, у вёсцы Бесцвіна цяперашняга Сенніцкага раёна 24 сакавіка 1921 года. У 1951 годзе скончыў Маскоўскі паліграфічны інстытут. У апошнія гады (памёр у 1981 годзе) працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў СССР.**

**Дзякуючы М. Гарбачову чытачы колішняга Савецкага Саюза змаглі пазнаёміцца на рускай мове з раманамі І. Мележа "Людзі на балоце", І. Навуменкі "Вецер у соснах" і "Сорак трэці", І. Чыгрынава "Плач перапёлкі", В. Адамчыка "Чужая бацькаўшчына", аповесцямі В. Быкава "Альпійская балада", "Трэцяя ракета", "Мёртвым не баліць". М. Гарбачоў пераўвасобіў па-руску і паасобныя творы А. Кулакоўскага, М. Лупсякова, І. Пташнікава, І. Шамякіна і іншых пісьменнікаў.**

## БАЛГАРЫН — СЯБРА БЕЛАРУСАЎ

**Спонілася 70 гадоў з дня нараджэння вядомага балгарскага паэта, празаіка, а да ўсяго і перакладчыка нашай літаратуры Івана Давыдкава (памёр у 1990 годзе). І. Давыдкаў нямала зрабіў для таго, каб балгарскі чытач лепш пазнаёміўся з творамі беларускіх пісьменнікаў і палюбіў іх.**

**Для кнігі Я. Купалы "Выбраныя вершы", што выйшла ў Сафіі ў 1962 годзе, ён пераклаў такія творы народнага песняра, як "Явар і каліна", "Выйдзе...", "З кутка жаданняў", "Асёл і яго цень", "Лён" і іншыя.**

**Па-балгарску І. Давыдкаў пераўвасобіў асобныя творы Я. Коласа, А. Куляшова, П. Панчанкі, М. Танка, П. Броўкі, Н. Гілевіча, А. Вялюгіна, а Беларусі ён прысвяціў вершы "Вячэрняя песня" (пер. Н. Гілевіча), "Калі нарадзіўся мой сын..." (пер. П. Прыходзькі).**

**Творчасць балгарскага сябра на беларускай зямлі не абдзелена ўвагай. У 1970 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" з'явілася кніга І. Давыдкава "Крокі вернасці", творы для якой пераклалі Г. Бураўкін, Н. Гілевіч, А. Разанаў. Яго творы перакладалі таксама А. Вярцінскі, І. Калеснік, У. Паўлаў, М. Федзюковіч. Дзякуючы У. Анісковічу беларускі чытач змог пазнаёміцца з раманам І. Давыдкава "Белы конь за акном" (1981).**

## ЕХАЦЬ У ГОСЦІ ЁСЦЬ КУДЫ...

**Апошнім часам Маладзечна набыло вядомасць як сваімі культурнымі акцыямі, так і партнёрскімі сувязямі. З 1987 г. яго пабрацімам з'яўляецца нямецкі горад Эслінген. Той, маючы добры дзесятак партнёрскіх гарадоў па ўсёй Еўропе, вырашыў "падзяліцца" з маладзечанцамі. І вось у сярэдзіне сакавіка тут з'ехаліся дзве дэлегацыі: з самога Эслінгена і з польскага горада Петрыкаў Трыбунальскі.**

**Нягледзячы на тое, што іх прыезд супаў з традыцыйнай тэатральнай "Сакавіцай", гасцей сустракалі па поўнай праграме — г. зн. з абавязковай экскурсіяй у Хатынь (хаця Вязынка куды бліжэй). У ГПТВ-21 адбылася сустрэча паўднёвых немцаў з культурна-асветным маладзечанскім аб'яднаннем "Сябрына". З нямецкага боку прысутнічалі бургамістр Удал Гольдман, эканамічныя саветнікі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і германскай прэсы. Беларускі бок прадстаўлялі актывісты "Сябрыны" М. Кудзін (старшыня), Л. Попель, Г. Марачкіна, А. Лавіт, В. Карлецкі, І. Сушко і іншыя, а таксама намеснік старшыні гарвыканкама Я. Ідэльчык, журналісты.**

**На рахунку "Сябрыны" — шэраг дабрачынных акцый па аказанні дапамогі медыцынскім установам горада (абсталяваннем і лекамі). У культурным плане гэтая грамадская арганізацыя яшчэ не самавызначылася, хаця аб'ядноўвае ў асноўным інтэлігенцыю горада.**

**З прадстаўнікамі Петрыкава Трыбунальскага была заключана партнёрская дамова. Гэта тым больш зручна і карысна, бо гарадок знаходзіцца пры шашы, якраз па дарозе ў Эслінген. Як хтосьці пажартаваў, "заедзем да вас, а там пабачым, ці рухацца далей". Так што ў госці маладзечанцам ёсць куды ехаць...**

**Г. З.**

Паэзія

Міхась СКОБЛА



# З НОВАЙ КНІГІ "НАШЭСЦЕ ПОЎНІ"

## МАЎЧАННЕ-НОЧ

Варожыць ноч на месячным акрайцы,
мярэжам цемры прагнецца ахвяр.
Бярозы даўгавухія, як зайцы,
з апошніх сіл бягуць у промнях фар.

Чырвонае вуголле выграбае
з начы, як з печы, слуцкая шаша.
І поўня хваравітая, рабая
хаваецца між хмар ад скавыша.

Маўчыць зямля на пракаветнай мове,
маўчаць нябёсы над бязмоўем рэк,
лясы замоўклі — горасна-раптове,
замоўклі птушкі — скрушна, бы навек.

Ты, чалавек, не пыйся ў чарнабэжжа,
адпрэч бяседу з духамі начы.
З таго застолля выбавіць не зможа
цябе ніхто. Ты ноч перамаўчы.

Перачакай у сутаргах і свербе,
стрымайся ля апошняе мяжы,
як Чэхаў перад смерцяю "ichsterbe"
на мове на чужацкай не кажы.

Як да маўчання цяжка прыцярпецца!
Яно — бы для гульца манашскі скіт,
дзе свечкі бласлаўлёнае цяпельца
і цені ад агню бягуць наўскід.

Ды прыйдзе дзень, як сын святога зніча,
і ў галасе патануць долы й гаць,
ячмень вусаты сонца заказыча,
каб жаўранку на забаўку аддаць.

## ДОЖДЖ

Дождж, пракраўшыся ў храм па карнізе,
твар праявіць на белай сцяне.
І царква, нібы вежа ў Пізе,
нахіліўшыся, ў рэчку зірне.

Дождж абмые, напоіць, загоіць —
лісце, вербы і фрэскавы твар.
Нібы неба пярэстае доіць —
за вяроўкі цягае званар.

Дождж стаіць ля царквы, як прыдзвернік,
як ля хорама бедны сваяк,
як ля храма разгублены вернік,
што малітву не ўспомніць ніяк.

Дождж пусціце ў ладанную прошчу!
Ён стаміўся стаяць, грэшны дождж.
Ён ляцеў, разбіваўся аб плошчу,
уставаў, прадзіраўся праз хвошч.

Дождж на звонніцу сееца скупа,
лёгкі, светлы, амаль што сухі.
Расчыніце не дзверы, а купал —
дождж жадае замольваць грахі!

Дождж — ён марыў пра райскія кушчы,
дзе спагады людской не сустрэў
і пайшоў у паганскія пушчы,
дзе ён сам — бог для кветак і дрэў.

Дождж...

## НАЎЗДАГОН СНЕГАПАДУ

Калі апаноўваюць чорныя думкі
калі аджыўляемся чорным хлебам
калі купальскую песню
адразу ж заглытвае чорная дзірка
што пасецца ўвесь час над Айчынай
і пануе маўчанне

калі смакуем чарніцы не языком,
а прыборам
калі нават магічны выгук
Уладзіміра Дубоўкі
"чарнобылем не зарасцеш"
не дапамагае

Ты вяртаеш маёй Радзіме
сапраўднасць
Яе белага імя

●

Цягнік адсопся, рушыў да сталіцы,
нырнуў у цемру, быццам у тунэль.
Пакуль ты спіш, чакае на стальніцы
недапісаны ў поўнач рытурнэль.

Чыгунка натамлёная самлее,
на рэйках бліснe месяц, як таўро.
Табе ж прысніцца бабка Саламея,
і соннік расшыфруе — на дабро.

А я, на шкле festina lente сцершы,
бы ваўкалак, імчу па цаліках,
дапісваю нявыспаныя вершы,
як Пастарнак, на ранніх цягніках.

На строфы іх прыпынкамі драбіла
дарога, непадкупная, як лёс —
драўляна-металёвая драбіна,
што ўстане — і дастане да нябёс.

Прыпол ёй беразняк лісцём услаў і
адбегся прэч, спыніўся неспадзеў.
Дасні мой сон у ранішнім Заслаўі!
Я, нібы сон, цябе недагледзеў.

Цягнік і той, гамуючы, з аглядкай,
кіўнецца ўбок няўклюднай галавой —
туды, дзе ў хатцы, нібы уніятка,
ты спіш паміж касцёлам і царквой.

## ВЕРШ ПАСЛЯ ЭЛІЁТА

Якія выспы на якіх морах чакаюць нас
якія яблыкі ў якіх эдэмах
якія поўні даспяваюць на хвалях
дзеля нас

Горы схіляць галовы ў малітве
ветразі матылькамі абсядуць
дугу небакраю
мора жыцьме ў табе падгасподнікам
(чалавек жа амаль напалову з вады)

Ды горы сыходзяць караванам вярблюдаў
за небакрай
ды высахлі крылы і пырхаюць ветразі
за небакрай
ды мора нібы з пэрлавічнай чарупіны
ўцякае з цябе
за небакрай

Дарогі — і ўсе улукаткі —
кружаць табе галаву
елкі — пабач — вершалінамі
ўвінчаны ў неба
можна нагнуць і паскубці аблокі

Якія бязлюдныя выспы
якія каляровыя моры
якія набожныя горы
пасля гукання вясны гукацьмуць нас
мая берагіня

●

Вецер, нібы лёкай каля брычкі,
стане пры аўтобусным вакне.
Ты патушыш полымя спадніцкі,
што раптоўна ў гору шугане,

і пасланкай дзьмухаўцовых ранкаў
прызямлішся там, дзе ўжо імгла.
Як бы ты ішла з высокіх ганкаў,
па шыкоўных лесвіцах плыла!

Глянь на месяц — там чыя айчына?
Сонца знікла ў залатым чаўне.
Воблака, як мокрая аўчына,
у начоўках ночы патане.

Смольны бор раздарвае пахошчы,
у гушчар схавацца мусіў страх.
Як ты бегла ў неба — з Радагошчы,
вогнішчу купальскаму сястра!..

А тамтэйшы вецер, нібы віцязь,
крупніку, няйначай, перапіў —
паўдубровы нахіліў у Свіцязь
і краіну шчодра пакрапіў...

Лісцем, у скалелых дрэў забраным,
восень не нацешыцца ў вакне.
Бразне поўнач брамкай, як забралам,
і ў чужое хаце нас замкне.

●

Вуліцы места маўчаць без'языка.
Цягнуцца цугам праз парк ліхтары.
Грае ў тунелі на скрыпцы музыка —
холадна музыцы жыць на двары.

Вецер-байчак з-над Татарскіх гарадоў
плошчу ў абдымках гуллівых крутне,
на ўкамянелым гармоніку сходаў
вытне напеў, што расчуліць мяне.

Не паланез, не ваярскія гімны,
нешта — каб слухалі дрэвы і гмах,
каб разгавеўся, пануры і схімны,
смехам гірляндавым вечар-манах...

Нібы вяртаючы сябру пазыку,
што меркаваў быў — вазьму ў падарож,
кіну я сумнаму ветру-музыку
ў шапку апошні заношаны грош.

## ГОРАД

Ізноў вяльможны ягамосць
мяне пільнуе ў хворым парку.
Ён мой, ён мой каменны госць,
ён госць, з якім не вып'еш чарку.

У белым прадзіве бяроз,
у шэрай павуціне клёнаў
трапечацца сузор'е Воз
без нараканняў і праклёнаў.

Я крыкну, выклічу цябе.
Сяброў каменных мне не трэба!
Па вадасцёкавай трубе
мой голас выльецца ў неба.

Ды й там, падслуханы віжом,
заплача ён аб земным шчасці.
Вяртацца будзе капяжом,
каб да каменных ног упасці.

## РАНІЦАЙ

Печ — на хату прыполам белым,
бы пацвельвае — чухані.
Б'юць вагніпчу чалом спатнелым
кучаравыя чыгуны.

А на печы трыбух авечы —
футра княская на плячы.
Казыталі
пад пахай печы
ў качарэжніку рагачы.

Дым вылётваў на пацягушкі
і за ветрам імчаў — чуйдух.
Зачыняліся раптам юшкі —
ажно засланкай бразгаў дух.

Мулка ў кроквах было лясінам.
Кот учадзелы пхаўся прэч.
Прыпек змеўшы крылом гусіным,
млела з жаркасці пані-печ.

●

*Галі Хінцы-Янушкевіч*

У воблаку, бы ў белай ссылцы,
на ветры сох зляжалы пух.
У цалі вязань граў на скрыпцы,
жывіў нябесным гукам дух.

Пайшоў паўстанцам з роднай хаты
і смык — з гаспадарам у лес.
Скажы — ён падпілуе краты!
А вязень грае паланез.

На бітву музыка не звала,
глушыць яе было — дарма.
Нібыта камерная зала
была вакол, а не турма.

А на запясцях гнеў вызвоньваў
сціха ў маністы кайданоў,
чакаў мелодыі вызвольнай,
каб бунтаваць пачаць наноў...

На твар, на звязненыя рукі
упаў бязважкі цень крыла —
і нескароных гімнаў згукі
на волю, праз катоўні й мукі,
праз краты скрыпка падала.

Маўчаў капеж, нырнуўшы ў жолаб.
Пасланец люду, дрэў і траў,
матыў вызвольны ў дзюбку голуб,
нібы галінку пальмы, браў.

## ЗІМА

У сумётах двары сядзелі.
Вырасталі дымы ўвачавідкі —
быццам хаты пралі кудзелю,
з белых хмарак цягнучы ніткі.

***Даўно бянтэжыць, нават здзіўляе мяне адна акалічнасць, звязаная са словам агонь. Пэўна, шаноўныя чытачы, і вас таксама. Вось прачыталі вы ў загалоўку гэтае слова і — якія згадкі, асацыяцыі яно ў вас выклікала? Правільна, агонь — гэта цяпло, а значыць — ласка, пяшчота, дабрыня, прыязнасць, спагада, дапамога, паратунак, урэшце. Усё гэта, напэўна, ажно адтуль, ад першага агню, які даў людзям мужны і добры Праметэй; ад агню, які і дапамог чалавеку стаць чалавекам, з якім ён, яшчэ не надта розначыся ад іншых жывёлін, адчуў раптам сябе пераможцам над імі і ўпершыню ад ўсведамлення гэтага горда засмяяўся (калі згадаць запомненую змалку многімі з нас аповесць Янкі Маўра "Чалавек ідзе"). Зайсці на агеньчык... Пасядзець ля цяпельца... Святло бацькоўскай хаты... Цяпло матчыных рук... Агонь душы і сэрца жар... Ланцужок гэты, выток якога ўсё ў тым жа кароценькім слове "агонь", можна доўжыць бясконца. І толькі зрэдку, пры не самай лепшай нагодзе мы ўсведамляем, што агонь яшчэ — і магутная разбуральная, знішчальная, бязлітасная стыхія. Гэта тады, калі добры ласкавы агонь ператвараецца ў страшны, люты, усепаглынальны пажар.***

***Да пажару ж у нас, грэшных, адносіны бадай што такія, як і да турмы ці жабрачай торбы. Памятаем, што не трэба заракацца ні таго, ні другога, аднак жа памятаем — безадносна да сябе. Маўляў, здарыцца бяда тая не са мною, а з некім іншым. Так і да пажару. Не дай Бог, вядома, але ж — ліха гэтае мяне абміне, абыдзе бокам. А між тым...***

***Летась у Беларусі адбылося 17117 пажараў. У іх загінула 664 чалавекі, у тым ліку — 75 дзяцей. Агнём знішчана матэрыяльных каштоўнасцей на 203 мільярды рублёў.***

***Лічбы — ашаламляюць! Не, зусім не добранькі тут агонь — пякельны ён!***

***Падзяліце агульную лічбу пажараў на колькасць дзён у годзе. Што атрымліваецца? Больш чым па 44 пажары штодня, без святаў і выхадных! І кожны, нават калі ён без ахвяр і не надта пражэрлівы, — не жартачкі. Кожны — чалавечая трагедыя. Чалавечая!***

***Ды ўсё ж спахопліваемся, скаланаемся мы толькі тады, калі здараецца нешта ўжо зусім страшэннае. Як летась у Смалявіцкім раёне, калі ў выніку пажару ў рабочым жыллёвым блоку загінула адразу некалькі маладых хлопцаў. Ці як зусім нядаўна ў Крычаве, дзе ад пажару ў інтэрнаце-маласямейцы завода гумава-тэхнічных вырабаў загінула сямёра чалавек, у тым ліку двое дзяцей, а адзінаццаць шпіталізаваны.***

***Чаму такая трывожная статыстыка? Дзе, у чым галоўныя прычыны трагедый? Хто ці што вінаваты? Што рабіць, каб зменшыць страты?***

***Гэтыя пытанні і прывялі мяне да, так бы мовіць, "галоўнага пажарніка" нашай краіны. Мой субяседнік — начальнік Галоўнага ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы МУС РБ, галоўны дзяржаўны інспектар РБ па пажарным наглядзе, акадэмік Беларускай інжынернай акадэміі генерал-маёр В. П. АСТАПАЎ.***

# АГОНЬ АДМСЦІЦЦА, КАЛІ ЯГО ЎЦВЕЛІШ

**— Валерый Пятровіч, не здзіўлены, што на гутарку з вамі напрасіўся "ЛіМ" — газета творчай інтэлігенцыі Беларусі?**

— Не, не здзіўлены. Па-першае, газету вашу ведаю. Па-другое, падпісчыкі і чытачы "ЛіМа" — гэта частка нашай грамадскасці, а грамадскасць павінна быць сёння занепакоена станам, скажам так, нашай пажарнай бяспекі. І не проста занепакоена. Мне думаецца, мы павінны ў прынцыпе па-іншаму глянуць на многія звычныя рэчы. У грамадскім уяўленні даўно і надзейна ўсталявалася думка пра пажар як пра падзею выключную, што адносіцца да з'яў стыхійных і не залежыць ад волі і паводзін чалавека. А гэта ж не зусім так, хутчэй — зусім не так. Трэба, нарэшце, усвядоміць усю сур'ёзнасць праблемы і адказнасці за яе. Адказнасці кожнага з нас без выключэння.

**— Зводкі вашага ведамства сведчаць аб тым, што вогненная, калі можна сказаць, сітуацыя ў Беларусі ці не экстрэмальная і мае сімптомы да яшчэ большага ўскладнення. Таму і павінна быць прыцягнута ўвага грамадскасці да праблем пажарнай бяспекі? Дык мо не толькі грамадскасці? Мо для павышэння ўзроўню гэтай бяспекі ёсць неадкладная патрэба ў радыкальных мерах на ўрадавым, дзяржаўным узроўні?**

— Ну, вы, газетчыкі, схільныя да перабольшванняў, да катэгарычнасці сцвярджэнняў... Сітуацыя, вядома, сур'ёзная, вельмі няпростая. Але ж і мы не спім у шапку; як ні цяжка даводзіцца, але трымаем гэтую самую вогненную сітуацыю пад кантролем, стараемся дзейнічаць аператыўна і дзейсна. А што да мер на дзяржаўным узроўні, дык... Мы нарэшце якраз і дамагліся такіх мер. Прыняты закон "Аб зборах на ўтрыманне пажарнай службы", а таксама пастанова Кабінета Міністраў, паводле якой за кошт сродкаў ад падаткаў створана ваенізаваная пажарная служба... Гэтыя дакументы, хоць і прыняты яны са спазненнем, усё ж дапамаглі нам не спазніцца зусім і ў многім папярэдзіць тое, што мы бачылі і бачым у нашых суседзяў. Дзякаваць Богу, мы ўбераглііся ад такіх пажараў, як на шынным камбінаце ў Маскве ці на радыётэлецэнтры ў Кіеве. Канешне, стопрацэнтных гарантый ад такіх трагедый ніхто даць не можа, але ўсё ж мы многае зрабілі для стварэння такіх гарантый. І не таму, што мы, маўляў, разумнейшыя за сваіх суседзяў. Нягледзячы на тое, што за пяць гадоў наша грамадскасць так і не змагла прайсці навуку паразумення і згоды, мы ўсё ж змаглі пераканаць — не лабіраваць, а менавіта пераканаць! — прэзідэнта, урад, Вярхоўны Савет і тую самую грамадскасць у неабходнасці згаданага закона. Мы, вядома, не спадзяваліся, што пасля гэтага на нас пральецца фінансавы дождж. Ён і не праліўся. Праліліся ўсяго толькі слёзы Божыя. Але і яны дапамаглі таму, каб мы не толькі выжылі эканамічна, але і не згарэлі. Маю на ўвазе не службу нашу пажарную, а ўсю краіну. Бо — маглі б згарэць. Бо дастаткова сказаць, што да 1991 года, адносна спакойнага ў фінансавых адносінах, вёска ўтрымлівала пажарную службу па крайняй меры ў 2—3 разы даражэйшую, скажам так, чым сёння. Або такі факт. Сёлета ў сітуацыі чатырохмесячных бесперапынных маразоў мы маем павелічэнне пажараў на 27,5 працэнтаў. Усяго толькі! Бо ўвогуле пры такіх экстрэмальных сітуацыях колькасць іх узрастае, як правіла, у 2,5—3 разы. Значыць, жывем і працуем мы недарэмна. Тым не менш, ёсць у нас апаненты, якія гавораць, што мы непамерна раздзьмулі пажарны падатак. Самае сумнае ў тым, што сярод гэтых апанентаў і такая асоба, як Станіслаў Багданкевіч. Я вельмі паважаю яго і не магу не здзіўляцца, як ён, прафесар, высокаадукаваны, дасведчаны чалавек, не бачыць праблемы. Відаць, ён даўно не быў у вёсцы, а калі быў, дык ездзіў па добрых дарогах і заходзіў у дагледжаныя хаты з маладымі, моцнымі гаспадарамі. Бо калі б ён трошкі збочыў з асфальту ды зазірнуў у вымiраючыя вёскі, у пахілыя хаціны з адзінокімі старымі, калі б пабачыў жудасную галечу і дэградацыю, у яго б не павярнуўся язык гаварыць, што пажарнікі, маўляў, лабіруюць Вярхоўны Савет дзеля большых "пажарных" падаткаў. Калі б ён, скажам, пабыў на пажары ў вёсачцы пад Рудзенскам, у якім загінула ажно шэсць чалавек. На пажары, які быў, можна сказаць, запраграмаваны. Там грубка была пастаўлена на драўляныя брусы, а сценкі яе выкладзены ўсяго ў чвэрць цагліны. Калі б ён ведаў, што ва ўсім цывілізаваным свеце ў кожным гаражы, на кожнай дачы, у кожнай кватэры, у кожным доме вогнетушыцель — прадмет першай неабходнасці, а ў нас і думкі пра гэта няма, ён не казаў бы гэтак. У нас на 300 квадратных кіламетраў дзяжураць два юныя пажарныя, з якіх мы стараемся зрабіць віртуозаў, каб яны маглі ўсё — і пажар патушыць, і аварыю ліквідаваць, і памагчы ў бядзе чалавеку. Вядома, мы не заходняя рэкламная служба "911" і ў гэтым стагоддзі ёю не станем, аднак жа выпатрабаваны намі закон гарантуе хоць нейкія сродкі ў развіццё, проста ў жыццядзейнасць нашай службы.

**— Валерый Пятровіч, што такое сёння пажар у нашай краіне адносна яго першапрычыннасці? Гэта што — аб'ектыўная заканамернасць, усеагульнае жабрацтва, недахоп культуры, нізкі ўзровень эканомікі, абуральная безадказнасць, якая пранізвае ўсё наша грамадства?**

— І тое, і другое, і трэцяе... У нас у краіне 2,2 мільёна пенсіянераў. Сацыяльныя службы з цяжкасцю абслугоўваюць перыядычна толькі 20 тысяч чалавек, па нашых жа падліках патрэбны пастаянны нагляд за 200 тысячамі адзінокіх старых людзей. Гэта тыя старыя людзі, якіх раней у сем'ях не дапускалі ні да грубкі, ні да лямпы, ні нават да лучыны. Сёння яны пакінуты на волю Бога, многія — пры жывых дзецях і ўнуках. А стары чалавек ёсць стары чалавек. Некаторыя ў такім стане, што самі раскладуць вогнішча сярод хаты, іншыя гінуць ля электра- ці газавай пліты, ля тэлевізара, ад свавольства з агнём пакінутых на іх дзяцей. А п'янства? Яно стала дзяржаўнай праблемай! Менавіта на глебе п'янства ўзнікае большасць пажараў. Аналіз сведчыць, што 63 працэнты ахвяр пажару — людзі ў нецвярозым стане. Пенсіянераў, дарэчы, сярод ахвяр — 30 працэнтаў, дзяцей — 17 працэнтаў.

**— Пэўна, можна сказаць і наадварот: сучасны камфорт, розныя аддзелачныя матэрыялы, якія прыйшлі ў нашы дамы і кватэры, таксама спрыяюць пажарам?**

— Бясспрэчна. Сёння не толькі кватэры і дамы, а і школы, прадпрыемствы, установы — гэта склады хіміі, сапраўдныя хімічныя лабараторыі, у якіх для агню "тут корм багаты", як пісаў паэт. Самае ж страшнае нават не ў агні, а ў дыме. Калі раней чалавека выхоплівалі з палаючага дома, ён яшчэ мог жыць ды жыць. А сёння ён гіне праз 4—6 хвілін знаходжання ў атручаным прадуктамі гарэння асяроддзі. Дзіцяці дастаткова ўсяго 1,5—2 мінут. Ды што гаварыць пра хвіліны! Досыць 5—6 удыхаў гэтага хімічнага чаду, а дзіцяці і 2—3, як наступае незваротны ацёк лёгкіх і непазбежная пагібель. Сучасны камфорт, як вы кажаце, ва ўмовах пажару імгненна ператварае кватэру ў газавую камеру з 70 атручваючых рэчываў. Верагоднасць цяжкіх наступстваў пажару сёння непараўнальна большая, чым раней, і адлаведна нанесеная шкода — велізарная.

**— Ува ўсіх на слыху словаспалучэнне "пажарная бяспека". Што яно канкрэтна азначае?**

— Гэта вырашэнне многіх-многіх пытанняў. Але ж каб яны вырашаліся! Правільней: каб жа мы маглі іх усе вырашыць! Напрыклад, на пажарнай машыне па ўсіх нормах павінна быць як мінімум 6 чалавек, ды яшчэ начальнік каравула, ды яшчэ звяно газа-дымавой службы мінімум з трох чалавек для работы ў процівагазах. А ў нас сёння ў вёсцы — 2 чалавекі: вадзіцель і начальнік каравула. Увесь штат пажарнай часткі — 8 чалавек і дзяжурства ў 3 змены. А ўвесь свет працуе на 4 зменах. У нас таксама ў законе закладзены 4 змены, ды пакуль што не да раскошы.

У сельскай мясцовасці ўвогуле ніколі не было дзяржаўнай пажарнай службы. Летась урад знізіў удвая падаткі для калгасаў і саўгасаў, значыць, яны сталі плаціць менеей, чым плацілі раней, за ўтрыманне сваіх міжгаспадарчых апорных пунктаў пажарнай аховы. Сёлета Вярхоўны Савет прыняў папраўкі да закона, знізіўшы гэтыя падаткі яшчэ ў два з паловай разы. Значыць, збор на нашу службу з вёскі будзе ў 8 разоў меншы. А мы ні без таго ведаем, што гэты збор і раней складаў усяго толькі 20 працэнтаў ад неабходнага, 80 працэнтаў выдаткаў пакрывалася за кошт нашай напаўляжачай прамысловасці. Інакш кажучы, справядлівасць у гэтай галіне дзейнасці для вёскі ўжо практычна наступіла, вёска субсідзіруецца амаль цалкам.

І самі, і з дапамогаю дасведчаных эканамістаў-фінансістаў мы падлічылі і ведаем дакладна свае патрэбы і выдаткі. Ведаем мы верхнюю планку, г. зн. тое, колькі нам трэба было б, каб наблізіцца ці нават зраўняцца з еўрапейскай пажарнай службай. Але ж гэтак выразна мы ведаем і ніжнюю планку — колькі нам неабходна, каб хоць бы выжыць, як-небудзь пратрымацца да лепшай пары. Ніжняя планка — гэта мяжа, праз якую нават у крытычны момант пераступаць нельга, інакш гэта будзе службовае злачынства як з нашага боку, з боку спецыялістаў, так і з боку тых, хто прымае законы. Закон мы адстаялі, але зараз ідзе гаворка аб канкрэтнай лічбе ў бюджэце. Папярэдне яна была вызначана ў 250 мільярдаў рублёў. Падкрэслю і паўтару, што гэта — у 2 разы меней за неабходны мінімум. Сёння пажарная машына каштуе больш чым мільярд рублёў. А за тры гады, што папярэднічалі прыняццю закона, паспелі літаральна разрабаваць, прапіць ці прадаць на запчасткі амаль усё. Не хацелася б пра гэта гаварыць, але — мы маем справу не з чым-небудзь, а з пажарамі. А народная прымаўка кажа: "Злодзей пройдзе — вуглы пакіне, а пажар усё чыста зліжа". Дык — на што мы скупімся?

Сэнс словаспалучэння "пажарная бяспека" — гэта найперш гарантыя бяспекі эканамічнага патэнцыялу краіны. А дзе гэтыя гарантыі, адкуль іх узяць? Вось мы 40 падраздзяленняў на прадпрыемствах перавялі на ўтрыманне ад збору, а 37 яшчэ не пераводзім пакуль. раней гэтымі малакалькаснымі падраздзяленнямі ахоўвалася 300 прадпрыемстваў, сёння ж практычна ахоўваем 80. Гэта такія гіганты, як гродзенскі "Азот", наваполацкі "Палімір", нашы "МТЗ" і "МАЗ" і інш. А калі і іх пакінуць на волю лёсу? Будуць маскоўскія шынныя камбінаты і ў нас!

Да ўсяго ў Беларусі, акрамя прымітыўных вогнетушыцеляў, нічога не рабілася з пажарнага абсталявання, тэхнікі, экіпіроўкі — анічога. Нават абмундзіраванне пажарніка шылася недзе ў башкірскіх калоніях вязнямі. На Захадзе пажарнікі адначасова і выратавальнікі, яны выязджаюць па выкліку, маючы ў распараджэнні 750 пазіцый забеспячэння: пажарнага рыштунку, тэхнікі, экіпіроўкі, сродкаў тушэння, нейтралізацыі і г. д. У нас раней гэтая лічба складала недзе 150, а сёння маем не больш чым палову і таго, што мелі. А чым кампенсуецца гэты велізарны разрыў? Вядома ж, здароўем, павышанай рызыкай людзей, іх траўміраванасцю, а то і гібеллю.

**— Аварыі і пажары сапраўды сталі нашым нацыянальным бедствам, а мы ўсе, разам узятыя, быццам і не ўсведамляем гэтага. Уражанне такое, што часта нават тыя людзі, якія павінны былі б па сваіх абавязках клапаціцца аб пажарнай бяспецы, проста не думаюць пра гэта, і не разумеюць, што такая бяздумнасць — злачынства...**

— Вось іменна! Ці абавязкова трэба ведаць пажарныя нарматывы ці нейкія іншыя тонкасці, каб не завальваць запасны выхад з цэха, або не забіваць дзверы цвікамі-двухсоткамі? Колькі можна тлумачыць чалавеку, што нельга накручваць у электрасетцы самаробныя спіралі? Я ўжо казаў пра вёску. Там большасць пажараў — ад пячнога ацяплення. Чаму? Ды таму, што печы тыя гадамі не рамантуюцца, калі, па правілах, іх трэба аглядаць двойчы на год, чысціць, бяліць? А электраправодка? Тут жа таксама ёсць свае параметры. Мінула 12 гадоў — трэба мяняць. А мы сутыкаемся з выпадкамі, калі ў вясковых хатах праводка не мянялася 25 і больш гадоў, яна ўся проста спарахнела. А над усім гэтым, яшчэ і яшчэ раз паўтару, — п'янства. Памятаеце, летась пад Смалявічамі загінула шасцёра маладых хлопцаў — мантажнікаў газаправода. Жылі яны ў жахлівых умовах. Пасля працы не было дзе памыцца, абсушыцца, сагрэцца. Ратаваліся... бутэлькай. Скончылася ўсё трагедыяй. Тэорыя — гэта добра, але калі жыццё такое, дык усе тэорыі сыходзяцца ці то ў Мінфіне, ці, на жаль, на пажары, дзе, як у фокусе, выяўляюцца ўсе нашы беды, усе нашы няшчасці. А ў дадатак, як вы правільна заўважылі, яшчэ і элементарная безадказнасць, ігнараванне ўсялякіх правілаў. Так, сёння мы бедныя, але ж хоць самая элементарная сігналізацыя, апавяшчэнне павінны быць? Хоць тая самая падвешаная — як колісь - рэйка, праходы, пад'езды, доступы... У гэтым сэнсе мы пераступаем тую небяспечную мяжу, за якой — суцэльны абвал, катастрофа поўная. Вось вам, для пацвярджэння, яшчэ адна лічба. Мы дакладна ведаем, што 80 працэнтаў пажараў (а часам і больш) здараецца ў выніку таго, што людзі паводзяць сябе няправільна. За мяжой з двухгадовага ўзросту дзяцей афіцыйна

(Працяг на стар. 15)

ЛіМ
ЧАСАПІС

## ВЫДАЕ "ТЭХНАЛОГІЯ"

**Аматары беларускай кнігі ўжо добра знаёмыя з выданнямі незалежнага выдавецтва "Тэхналогія" і паспелі іх палюбіць. Сярод кніг, што выйшлі ў выдавецтве, зборнік артыкулаў і дакументаў "Курапаты", нарыс пра гісторыю Беларусі У. Новіка "Беларусь. Новая краіна ва Усходняй Еўропе", дзве кнігі Ю. Залоскі — "Дыялогі з Васілём Быкавым" і "Версіі", "Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадах" А. Вініцкага, "Дапаможнік для журналістаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы" ды іншыя.**

**Сёлета каталог выданняў "Тэхналогіі" папоўніўся навінкамі. У серыі Беларускага фонду Сораса "Адкрытае грамадства" выйшла кніга М. Говарда "Сучасная культурная антрапалогія". У ёй разглядаюцца сацыяльны, сімвалічны і матэрыяльны аспекты жыцця сучасных грамадстваў, якія складаюць адзіны сусветны арганізм і знаходзяцца ў няспынным развіцці. Асаблівая ўвага аддаецца пытанням знікнення малых супольнасцяў, адаптацыі людзей да чужой культуры, дэградацыі навакольнага асяроддзя.**

**У кнізе былога Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М. Грыба "На гістарычным скрыжаванні" пададзены яго выступленні на міжнародных і нацыянальных форумах, артыкулы ў перыядычным друку, інтэрв'ю сродкам масавай інфармацыі, якія прысвечаны актуальным праблемам дзяржаўнага будаўніцтва, рэфармавання эканомікі, замежнай і ўнутранай палітыкі дзяржавы, дзейнасці парламента, станаўлення шматпартыйнасці.**

**31 жніўня — 4 верасня 1995 года ў Мінску адбыўся другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры, арганізаваны Беларускім ПЭН-цэнтрам. Матэрыялы яго склалі кнігу, якая так і называецца "Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры "Незалежная прэса: свабода і адказнасць". У зборнік увайшлі выступленні такіх вядомых дзеячаў культуры Беларусі і замежжа, як Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха, Генадзь Бураўкін, Вітаўт Кіпель, Алесь Разанаў, Юры Хадыка, Вера Рыч, Уладзімір Арлоў, Норберт Рандаў, Віталь Цыганкоў, Сакрат Яновіч, Зора Кіпель, Валянцін Грыцкевіч і інш.**

**У серыі "Бібліятэка Беларускай дыяспары" выйшаў "Беларускі праваслаўны малітоўнік", які змяшчае больш за семдзесят малітваў, спевы, выняткі з Катэхізіса. Дабраславіў на гэтае трэцяе выданне на беларускай мове малітоўніка архіепіскап Мікалай, Першы іерарх Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы.**

**Замовіць гэтыя кнігі альбо набыць іх можна непасрэдна ў выдавецтве. Адрас выдавецтва — 220007, г. Мінск, вул. Магілёўская, 43, офіс 210. Тэл. (0172) 27-19-40, тэлефакс (0172) 21-77-40.**

## КРАСАВІЦКАЯ АФІША ДОМА ЛІТАРАТАРА

**1 красавіка ў 18 гадзін збірае ўсіх жадаючых вечарына народнага гумару "Рэха Аўцюкоў".**

**Пад назвай "Я слухаю людзей, каб не аглухнуць..." 11 красавіка пройдзе аўтарская вечарына паэта Р. Тармолы-Мірскага.**

**Прэм'ера мастацкага фільма рэжысёра В. Шувагіна "Метанойя" запланавана на 17 красавіка.**

**П. Ільюковіч і М. Мельнік запрашаюць 24 красавіка на вечарыну з нагоды выхаду першай кніжкі.**

**"Боль і смутак Чарнобыля" — літаратурны вечар, што адбудзецца 25 красавіка.**

**Юбілейная вечарына гісторыка і пісьменніка М. Ермаловіча "Голас гісторыі нашай Айчыны" пройдзе 30 красавіка.**

**ПАЧАТАК УСІХ ГЭТЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ у 18 гадзін 30 мінут.**

**А вось сумеснае пасяджэнне секцый прозы і крытыкі "Аповесць у часопісах "Полымя" і "Маладосць" за 1995 год" пачне сваю работу ў 15 гадзін 4 красавіка.**

Адгалоскі

# ХТО ПЕРАМОГ?

## АДНОСНА ГЕНЕЗІСУ ЗЯМЛІ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

Не ведаю чаму, але ў мяне была ўпэўненасць: калі й з'явіцца па-беларуску праца, прысвечаная генезісу цывілізацыі, дзяржавы і горада, дык яе аўтарам будзе не гісторык Беларусі, а спецыяліст у галіне антыкі. Маю на ўвазе першую частку публікацыі В. Ханкевіч "Старажытныя цывілізацыі" ў "Беларускім гістарычным часопісе" (N 2, 1995). Зноў жа падумалася пра тое, якім плённым магло б быць міжкафедральнае даследаванне згаданых праблем на гістфаку БДУ пры найактыўным удзеле Інстытута гісторыі АНБ. Досвед антыказнаўцаў быў бы карысны для беларусістаў, асабліва, на мой погляд, у тым, што датычыць:

— "дагістарычных" перасяленняў народаў і каланізацыйнага руху (у тым ліку і "ўнутранай" каланізацыі), ініцыянаванага дзяржавай ці вымушанага яе палітыкай (у нашым выпадку, напрыклад, хрысціянізацыяй), унутрыграмадскімі канфліктамі, войнамі з суседзямі;

— умоў узнікнення, структур улады і кіравання гарадоў-дзяржаў, з аднаго боку, і дзяржаў тэрытарыяльных — з другога; тыпалогіі ранніх дзяржаў;

— узаемадачыненняў горада і "абдзяржаўленай" хоры, галоўнага горада ў цэнтры міноры, калоніі і метраполіі, горада-калоніі і іншаэтнічных сельскіх грамад, так званага "плямёнавага свету" ці "варвараў";

— фактараў, што ўплывалі на здольнасць горада падпарадкаваць большую ці меншую сельскую тэрыторыю, а нават і кіраваць ёю;

— ролі знешняга гандлю: ці ён спрыяў росту эканамічнай магутнасці ранняга горада, ці найперш стварэнню багацця арыстакратаў, якое надалей выключалася са сферы вытворчасці і абмену ("tesaurizzazione nascosta", паводле тэрміналогіі Д. Мусці), ці таму і другому разам, etc.

Есць спадзяванне, што пры распрацоўцы падобных пытанняў на беларускім матэрыяле змяніліся б уяўленні пра дзяржаўнасць Полацкай зямлі і ранняга ВКЛ, была б звернута, нарэшце, увага на ролю ва ўтварэнні першай горада (гарадоў), другога — "плямёнавага свету"; выпраўлены картаграфічныя памылкі: знікла б асобная ад Літвы Наваградская зямля памерам ледзь не на ўсё Верхняе Панямонне, нібы шчыгрынавая скура зменшылася б Берасцейская зямля (гл. карту В. Насевіча "ВКЛ у XIII — першай палове XIV ст." у энцыклапедыі "Гісторыя Беларусі", т. 2 альбо карту Г. Штыхава "Старажытныя землі Беларусі ў XI—XIII стст." у энцыклапедыі "Археалогія і нумізматыка Беларусі"), а межы Полацкай зямлі не сягалі ў глыб Латвіі на той хіба падставе, што Герцыкай і Кукенойсам кіравалі полацкія намеснікі, а тамтэйшае насельніцтва (ці з вялікага абшару?) плаціла ім даніну. Меркаванне Л. Дучыц наконт паўночна-заходняй мяжы Полаччыны ўсё ж бліжэй да ісціны (Браслаўскае Паазер'е ў IX—XIV стст. Мн., 1991). Ды і Літву гісторыкі мо не шукалі б далёка, як каваль Вакула чорта, а "за плячыма", г.зн. за гарадскімі валамі, апрача, вядома ж, праўнальна невялікіх тэрыторый, якія гарады (Полацк, Лукомль, Віцебск, Тураў, Заслаўе, Пінск, Смаленск, Менск) мелі сілы "абдзяржавіць" — кіраваць з дапамогаю сваёй адміністрацыі, ці ўжо зусім мізэрных, з якіх яны (перадусім "мегаполісы" Панямоння) непасрэдна "карміліся" працаю сваіх жыхароў. Уяўляецца, што да эпохі ўзвышэння Літвы ці не адзіным больш-менш значным чыста ліцвінскім местам была паганская Вільня, але як гарадскі цэнтр яна яшчэ толькі фармавалася, знаходзілася пакуль што па-за межамі Літвы і ў палітычным "вакууме", таму дзяржаватворчая энергія ліцвінаў вырвалася на паверхню ў іншым рэгіёне, хаця, магчыма, і пры ўдзеле грамад з віленскага анклава. Мабыць, успомнілі б гіпотэзу нябожчыка Міхася Ткачова і, на ўзроўні сённяшняга археалагічнага досведу, пагадзіліся, што з этнічнага гледзішча Літву XIII ст. тварылі найперш "яцвягі" — носьбіты культуры (аў) позніх каменных курганоў і ранніх каменных магіл, а таксама нашчадкі земгаламоўных творцаў культуры "ўсходнелітоўскіх" курганоў у тым рэгіёне, дзе побач жыло іншаэтнічнае — генетычна балцкае (з германскімі кампанентамі), але, магчыма, ужо заходнеславянамоўнае ці пераходнае да таго "яцвяжскае" і славянскае — насельніцтва [бо інакш не было б "літвы" ("злітавання", "зліцця"), што азначала розназтнічную супольнасць аднаго краю, мясціны, а нават аднаго паселішча, т.зв. суседскую грамаду, адпаведную таму, што ў далёкім мінулым менавалася "teuta"; не дадуць плёну спрэчкі, што ад чаго ўтварылася: форма Літва ад Lietuva (Lietava) ці наадварот, бо славянская і балцкая (не жамойцкая!) формы ўзніклі і існавалі ў ліцвінскім асяроддзі паралельна, азначалі тое самае, што тлумачыцца колішнім этнічным адзінствам балтаў і славян], крывічы, дрыгавічы (у апошніх спакусліва бачыць, падобна А. Квяткоўскай ("Крыўя", N 1, 1994), розназтнічных славянскіх перасяленцаў з Украіны), мазаўшане, — г.зн. насельніцтва Беларусі, якое не трапіла пад уладу гарадоў і праваслаўную хрысціянізацыю, не сталася "рускім". Аслабленне Полацка не тлумачылі б "закупоркаю" вусця Дзвіны крыжакамі (у такіх выпадках горад-дзяржава актывізаваў бы асваенне ўнутраных тэрыторый і ў выніку мала што губляў бы, калі не было непасрэднай агрэсіі звонку: Полацк — не заблакаваны з мора прыбярэжны горад-калонія ў чужым краі) і "феадальнай раздробленасцю" (незразумела: як магло падрабніцца тое, што яшчэ не склалася ў сацыял-эканамічнай сферы і не знітавалася ў палітычнай?), а найперш ростам гарадоў у самой Полацкай зямлі, кансалідацыяй і ўзмацненнем грамад і, як вынік, іхнім "сепаратызмам" (адзінства ніколі раней і не было, без увагі на этнічную роднасць ці чужасць насельнікаў асобных цэнтраў; была слабасць малых гарадоў і — да пэўнага часу — агульнасць інтарэсаў), узмацненнем ціску з боку ўсходнеславянскіх суседзяў, а пазней і выхадам на авансцэну беларускай гісторыі ліцвінаў-вяскоўцаў — там, дзе гарады былі рэдкія, дробныя і слабыя (дарма, што Наваградак багаты на імпарты!), да таго ж, "дзякуючы" татарам, пазбавіліся дзейснай падтрымкі з боку сваёй "апякункі" — Галіцка-Валынскай зямлі (раней гэтую ролю выконваў Кіеў).

У чарговы раз непазбежна паўстала пытанне пра суадносіны вечавай і княжаскай улад, скажам, у Полацку. Што мы маем? У пачатку XI ст. баявому князю Брачыславу неабходна параіцца з "мужамі", каб здзейсніць вайсковую акцыю; далей — гіпатэтычная "эсімнетыя" (выбарная тыранія) Усяслава Чарадзея, выкліканая да жыцця, што праўда, не неабходнасцю палагодзіць унутраныя канфлікты, а патрэбаю ваяваць "з усім белым светам"; у XII—XIII стст. палачане то запрашаюць князёў, то выганяюць іх, ажно пакуль у горадзе не з'явіліся ўпершыню ліцвіны Таўцівіл і Гердзень, якіх ніхто не запрашаў і не выганяў. Уражанне такое, быццам узурпацыя ўлады для вясковых князёў была справаю непараўнальна лягчэйшаю, чым для гарадскіх князёў-кандацьераў. Мабыць, таму, што апошнія не мелі іншай падтрымкі, акрамя сваіх дружын, а ў горадзе гэтага замала? Кідаецца ў вочы тое, што Таўцівіл і Гердзень, як і Міндоўг, Войшалк, Тройдзень, Віцень, г.зн. князі, уважаныя некаторымі гісторыкамі за этнічна чужых нашым продкам, ні з якімі іншымі землямі, апрача беларускіх, не звязаны (хіба польская "Вялікая хроніка" Міндоўга выводзіць з Прусіі, ды Рагвалод прыйшоў "з-за мора"; "італьянскія" і "жамойцкія" сведчанні ліцвінскіх летапісаў і магнацкіх хронік пакінем тут па-за ўвагаю: яны выдатна ўраўнаважваюцца познімі ўкраінскімі і маскоўскімі ўльтраправаслаўнымі палітычнымі фальсіфікацыямі), тады як "нашыя" (папраўдзе яны сталіся нашымі) Ізяславы, Святаполкі, Усяславы, Усевалады, Расціславы ды князі з хрысціянскімі імёнамі паходзяць з кіеўскай, валынскай і іншых галін легендарнай "дынастыі Рурыкавічаў". Ці з'яўленне князёў-вяскоўцаў у горадзе не было сімптомам той хваробы (вельмі актуальнай!), якая ўрэшце прывяла да смерці полацкага веча як найвышэйшага органа дзяржаўнай улады? Пазней веча — орган мясцовага самакіравання, не болей (хоць выпадак са Скіргайлам сведчыць, што плачане і надалей у спрыяльных умовах мелі сілы калі не выгнаць, дык не пусціць у горад неўпадабанага намесніка). Прычына відавочная: Полацк, у якога не хапіла сілы і імкнення пераадолець гарадскую прыроду сваёй дзяржаўнасці ці хаця б мадэрнізаваць яе, падобна Рыму, стварыўшы перавагу ў эканамічных і людскіх рэсурсах над кожным са сваіх суседзяў-супернікаў паасобку, з цягам часу апынуўся ў складзе тэрытарыяльнай манархічнай дзяржавы — ВКЛ, як грэчаскія полісы Эгеіды — у Македонскім царстве, а гарады-дзяржавы Этрурыі і Вялікай Грэцыі — у Рымскай рэспубліканскай дзяржаве. Наогул, магчыма, у даследчыкаў з'явіцца думка пра нетыповасць няхай сабе і абмежаванай манархіі для ранняй дзяржавы, якая пачалася з горада. Нават калі гэта супярэчыць летапіснай хрысціянскай дактрыне дзяржавы, адметнай так сваёй манархічнасцю, як і патрыманіяльнасцю (адсюль гісторыкі і выводзяць "феадальную раздробленасць", "удзельныя княствы", сінхронныя ёй), і ідэі невядома калі створанага "Слова пра паход Ігаравы". Г. Сагановіч неяк згадваў, што Андрэю Багалюбскаму, каб умацаваць сваю ўладу, давялося знішчыць уладу вечавую ("Русский вопрос" с точки зрения белоруса.) ("Народная газета", 30.IV.93)... Дык ці варта называць горад-дзяржаву "княствам" толькі таму, што ў яго быў князь? У раннім Рыме, прыкладам, таксама былі цары і, прынамсі, ад часоў Сервія Тулія (Мастарны) наўрад ці ёсць сур'ёзныя падставы сумнявацца ў наяўнасці дзяржавы, аднак саму дзяржаву ніхто з сучасных гісторыкаў не называе "царствам", бо да сапраўднай манархіі Рым ішоў некалькі стагоддзяў і нарэшце дайшоў, але тады, калі ўтрымваць і кіраваць велізарнымі тэрыторыямі, абапіраючыся адно на рэспубліканскія інстытуты, а нават і на асабістую дыктатуру, стала ўжо немагчыма.

Што да гарадоў Панямоння славутага даліцвінскага перыяду, дык Наваградак, Ваўкавыск, Горадня, Слонім, Турыйск ніколі не былі незалежнымі. Прынамсі, аніводны з іх не заўважаны ў ажыццяўленні якой-кольвечы самастойнай акцыі. Хутчэй за ўсё яны былі не так палітычнымі цэнтрамі сельскіх акруг, як пунктамі кіеўскага, а потым валынскага кантролю за шляхамі зносін (воднымі) не на памежжы, а ў чужой краіне — Літве. "Чорную Русь" тварылі практычна адны гарады. Стасункі іх з навакольнымі грамадамі, відавочна, аддалена нагадвалі тыя, што існавалі паміж жыхарамі сэтльментаў і фортаў і індзейцамі ў ранні перыяд каланізацыі Паўночнай Амерыкі. Падчас канфліктаў ды пры адсутнасці дапамогі з метраполіі каланістам часцей даводзілася ратавацца за гарадскімі сценамі, калі дапамога была — здзяйснялі вайсковыя экспедыцыі, у мірныя гады ладзілі вайсковыя хаўрусы супраць трэцяга боку і гандлявалі: ліцвіны прыходзілі да горада, ці гарадскія гандляры "ў разнос" ішлі да ліцвінскіх паселішчаў. Меркаваны статус гарадоў-фартэцый, у адрозненне ад звычайных крэпасцяў, не замінаў пэўнаму ўзнаўленню імі ў сваіх межах адміністрацыйна-дзяржаўных структур другарадных валынскіх гарадоў з князямі-намеснікамі на чале. У такім выпадку веча было органам, які развязваў пытанні выключна ўнутранага жыцця горада (па-за дзядзінцам).

Адсюль, з "Краіны Рэдкіх і Дробных Гарадоў", і бярэ свой пачатак першая на Беларусі дзяржава тэрытарыяльнага тыпу, творцамі якой выступілі розназтнічныя, тады яшчэ спрэс непісьменныя і мала закранутыя хрысціянізацыяй продкі сучасных беларусаў — ліцвіны. Пра тое, як ліцвіны замацаваліся ў панямонскіх гарадах, шматкроць пісалі М. Ермаловіч і В. Чаропка. На некаторыя думкі дадаткова наводзіць і падобны сюжэт з гісторыі дарымскай Кампаніі.

З паведамлення Дыядора Сіцылійскага вынікае, што каля 437 г. да Н. Хр. самніты — гэткія ж "вясковыя мядзведзі" і адважныя ваяры (гл. Сальнье К. Войска і вайна ў самніцкіх народаў (VII—IV стст. да Н. Хр. (Парыж, 1983), як і ліцвіны, — аб'ядналі родныя ім оскамоўныя грамады ў кампанскі народ (populus Campanus). Пасля гэтага ні этрускія гарады-калоніі ўнутранага рэгіёна (Вультурн-Капуя, Нола, Нуцэрыя), ні грэчаскія на ўзбярэжжы Цірэнскага мора (Кумы, Пампеі, Неапаль, Геркуланум) не ведалі спакою. У 423 г. кампанцы захапілі Капую. Паводле Ціта Лівія, самніты папярэдне вымусілі "змучаных вайною этрускаў" перадаць ім горад і прылеглую тэрыторыю ў "супольнае валоданне", а аднойчы ў свята новыя месцічы перабілі старых жыхароў, стомленых напружанымі баляваннямі. Спіс службовых асоб (дэмархаў) Неапаля, прыведзены Страбонам, у якім да аб'яднання кампанцаў былі толькі грэчаскія імёны, а пасля — таксама і шмат італьянскіх, сведчыць, што тэрыторыя неапалітанскай хоры зноў трапіла ў "супольнае валоданне". А вось Кумы, паводле Дыядора і Лівія, у 420 г. да Н. Хр. былі захоплены збройным шляхам: аблогай і штурмам.

Ліцвіны, здаецца, панямонскія гарады не бралі ў аблогу і не захоплівалі збройна. Але нейкім чынам выціснулі адтуль валынскіх князёў з іхнім вайсковым і цывільным атачэннем. Ці не здарылася гэта пры падтрымцы насельнікаў (хоць бы часткі іх) вакольнага горада і пасада? Ускосным пацвярджэннем гэткае мажлівасці, скажам, у Наваградку, з'яўляецца этнічная стракатасць ягонага насельніцтва ў ранні перыяд існавання горада, зафіксаваная археалагічна (гл. Зверуго Я. Верхнее Понёманье в IX—XIII вв., -Мн., 1989). Сімпатыі да ліцвінаў у часткі навагрдцаў маглі быць і ў XIII ст., нягледзячы на іхнюю хрысціянскасць. Наогул, гэта тыповая карціна: прывілеяваны стан насельніцтва калоніі складаюць прыбышы, а тубыльцы — плебеі. Тыя ж самніты прыйшлі ў Капую, як вызваліцелі прыгнечаных этрускамі аўзонаў — роднаснага ім оскамоўнага народа, а ў 328 г. зн. Н. Хр., калі рымляне завалодалі Неапалем, дык іх падтрымалі арыстакраты, тады як "народная партыя" стала на бок самнітаў.

І як жа вяскоўцы абжыліся ў гарадах? Італьянскі прыклад сведчыць, што кампанцы пасля авалодання этрускімі і грэчаскімі гарадамі парушылі сінайкізм (тут: пэўнае адзінства горада і сельскай акругі, дасягнутае перасяленнем значнай часткі вяскоўцаў у цэнтр): тэрыторыі атрымалі большую самастойнасць. Горад (urbs), адпаведна пашыранай у італьянскіх народаў канцэпцыі, трапіў нават у падначаленае становішча адносна сельскай тэрыторыі (ager). Таму не дзіўна, што ў надпісах на манетах, адбітых у пачатку IV ст. да Н. Хр. у Неапалі і Ноле, побач Neopoliton і Nolaios сустракаем этнічнае найменне: Kampanos. (Эргон Ж. Даследаванні па гісторыі, рэлігіі і цывілізацыі дарымскай Капуі ад узнікнення да другой пунічнай вайны. -Парыж, 1942). Дзеля параўнання: пасля таго, як рымляне акупавалі Неапаль, магчыма, з ініцыятывы арыстакратыі, прыхільнай Рыму, у 326 г. да Н. Хр. у горадзе была адбіта серыя манет з легендай ROMAION і экземпляр з легендай ROMANO (Кроўфард М. Раннерымская эканоміка, 758—280 гг. да Н. Хр.) (Дарымская Італія і рэспубліканскі Рым. -Рым, 1976). Вось жа арыстакраты добра ведалі, што дзяржава пераможцаў — гэта найперш сам Рым, яе грамадзяне — "рымляне", а таму і падлеглы Неапаль, і неапалітанскія

манеты, натуральна, мусяць быць "рымскімі", а не "лацінскімі" ці "кампанскімі". Усё наадварот, бо дзяржава — пачыналася з горада. Дарэчы, насельніцтва ўласнага Самніўма чыніла супраціў урбанізацыі ажно да І ст. да Н. Хр., калі і там усталявалася рах Ромапа, ды мела за аснову форму этнапалітычнай арганізацыі не горад-дзяржаву, а touto — "плямёнавы" край, што ўбіраў у сябе тэрытарыяльныя акругі (pagi) з вёскамі (vici) і ўмацаванымі пунктамі (oppida, castella) (гл. Салман Э. Т. Самніўм і Самніты. -Кембрыдж, 1967).

Нешта падобнае назіраем спачатку і ў Літве. Нават у легендарных звестках пра барацьбу з татарамі жыхарамі гарадоў выступае адна "русь" — "новгорожаны, слонимчаны, пинщаны", а "литва", як і "жмонды", у іх не ўваходзіць (у іншым кантэксце на гэта часта зважае П. Лойка: Старонкі гісторыі Беларусі. -Мн., 1992; Нарысы гісторыі Беларусі. -Мн., 1994). Ці не сведчыць, акрамя таго, азначэнне ліцвінаў зборным найменнем "літва" іхнюю рознаэтнічнасць? Калі ў Іпацьеўскім летапісе пад 1305 г. побач з "литвой" пададзена форма "жмоит", дык гэта не здзіўляе, а тут — "литва" і "жмонды"... Ліцвіны, здаецца, як апынуліся ў гарадах, дык адразу нібы і не ведалі, што з тымі гарадамі рабіць і як іх найлепей для сябе выкарыстаць. Гэта быццам і тлумачыць гульню Войшалка, Будзівіда і Будзікіда ў перадачу гарадоў валынцам Раману, Шварну і Мсціславу Данілавічам ды, у нейкай ступені, "адданасць" Войшалка праваслаўю, што даходзіла ледзь не да пілігрымкі, а да манашскай келлі — дакладна. Ці гэта не паказнік таго, дзе люба ліцвінскім арыстакратам жыць і думаць: хоць на прыродзе, хоць у манастыры, — абы не ў горадзе! Тым болей, што гэта пакуль блага не чыніла: гарады, нягледзячы на шматлікія "паваёвы" з боку валынцаў — асобна і супольна з татарамі, — заставаліся пад кантролем ліцвінаў. Жамойцкія гісторыкі А. Лухтан і В. Ушынскас нават пішуць пра існаванне "вандроўнага" палітычнага цэнтра да Гедымінавага ўзвышэння Вільні (К вопросу о столице Литвы да 1323 г.) (Труды V Международного конгресса славянской археологии. -Москва, 1987. Т. III. Вып. І 6. Секцыя V. Города и их культурные и торговые связи). Гэтак кожны ўмацаваны пункт можна залічыць у "палітычныя цэнтры". З палітычнага цэнтра ажыццяўлялася кіраўніцтва краінай, а не толькі кантроль за сітуацыяй. Калі "вандруе" палітычны цэнтр, дык і дзяржава (ці краіна) павінна "вандраваць" разам з ім. Але ці наш рэгіён Еўропы ў сярэдневеччы — краіна намадаў?! Відавочна, ужо Тройдзень, а асабліва Віцень і Гедымін разумелі ролю горада ў кансалідацыі гаспадарства, і пры іх спачатку Навагрудак, а потым і Вільня набываюць сталічны статус. Параўнальна хуткай "урбанізацыі" інтэлекту дзяржаўных асоб спрыяла і няспынная пагроза з боку татараў і крыжакоў. У выніку — ВКЛ няўхільна нарошчвае дзяржаўную тэрыторыю...

Дачыненне блізу 80 працэнтаў легендарнага тэксту позніх ліцвінскіх хронік да Навагрудка і наваколля, канстатаванае М. Улашчыкам, як найперш лакалізуе ядро ранняй ліцвінскай дзяржавы, а адсутнасць слядоў новай пануючай культуры на археалагічных помніках XIII—XIV стст. сельскіх абшараў (гл. Квяткоўская А. Каменныя могільнікі.) (Археалогія і нумізматыка Беларусі) і гарадоў Беларускага Панямоння (Краўцэвіч А. Гарады і замкі Верхняга Панямоння XIV—XVIII стст. (планіроўка, культурны слой). -Мн., 1991), апрача іншага, сведчыць, што гаспадарства тварылася не прыхаднямі, але ініцыятывай і сіламі тутэйшых жыхароў. Акурат вясковасць ліцвінаў і спрычынілася да таго, што дзяржаўная будова набыла тэрытарыяльны кшталт ад самага пачатку. Трансфармаваныя ідэя і практыка гарадской дзяржаўнасці паступова былі перанесены на сельскія абшары, адкуль ліцвіны і выйшлі. Згаданы працэс моцна паскараўся яшчэ тым, што мянуецца федэалізацыяй, як і апошняя была паскорана тэрытарыяльная дзяржаўнасцю. Няма сумнення, што пакуль увазе даследчыкаў будуць падлягаць адны гарады, неадэкватным застанецца і ўяўленне пра раннюю беларускую дзяржаўнасць.

Таму цяжка пагадзіцца з В. Чаропкам, калі ў сваім выдатным у іншых аспектах артыкуле ён піша: "Можна да канца свету спрачацца, хто каго заваяваў і хто атрымаў палітычную перамогу: Літва ці Навагрудак. Гэта ўзровень спрэчак XVI ст. і нічога новага ў вывучэнні ВКЛ яна не прынясе. Важны вынік..." ("ЛіМ", 21.VII.95). Дыскусіі варта працягваць на ўсіх узроўнях і ў розных выданнях. А каб і надалей не дзейнічала правіла inter negantes principia non est disputandum, трэба дамовіцца, што пытанне, відавочна, мусіць гучаць па-іншаму:

"Хто "перамог" у справе збудавання дзяржавы, у межах якой упершыню была аб'яднана Зямля Пад Белымі Крыламі: гарады ці вясковыя грамады, якія яшчэ не ператварыліся ў "маўклівую бальшыню"?" Увогуле, як слушна выказаўся нашанівец (Сяргей Месціч. Чароўная Хатка.) ("НН". N 3, 1995), "наступ гістарычнае навукі на недаследаваныя абшары мінуўшчыны мусіць зрабіцца татальным..." Але хто здзейсніць яго, абапіраючыся на найшырэйшае кола крыніц і методык; мабыць, гісторыкі, лінгвісты, археолагі, якія згуртуюцца вакол часопіса "Беларускі Гістарычны Агляд" — беларускіх "Annales"?

**Б. СЕРГІЕВІЧ**

*г. Хойнікі*

# Яраслаў ПАРХУТА

20 сакавіка 1996 года раптоўна памёр вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Яраслаў Пархута.

Яраслаў Сільвестравіч Пархута нарадзіўся 8 сакавіка 1930 года ў вёсцы Мілейкі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў Ружанскую сярэднюю школу. Вучыўся на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1949—1952). З 1952 года працаваў уласным карэспандэнтам газеты "Сталинская молодежь", адказным сакратаром паліталдзелаўскай газеты "Сцяг камунізму" пры Падароскай МТС (Поразаўскі р-н). Пасля службы ў Савецкай Арміі (1953—1956), шмат гадоў аддаў працы ў раённым друку: быў загадчыкам аддзела газеты "Ленінскі шлях" (г.п. Поразава), намеснікам рэдактара газеты "Заветы Леніна" (г.п. Ружаны), рэдактарам газеты "Советская Родина" (г.п. Гарадзішча), намеснікам рэдактара міжраённай газеты "Знамя камунізму" (г. Баранавічы), намеснікам рэдактара газеты "Сельскае жыццё" (г.п. Маларыта). Яраслаў Пархута працаваў таксама на тэлебачанні (г. Брэст), у часопісах "Вожык", "Родная прырода". Скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ (г. Мінск).

У друку Яраслаў Пархута пачаў выступаць з 1946 года. Першыя вершы апублікаваў у брэсцкай абласной газеце "Заря". Ён аўтар кніг вершаваных казак — "Казка зялёнай дубровы", "Перапёлачка", прозы — "Ты пайшла ў сонца", "Мудрая цялушка", "Там, дзе жыве Юлька", "Жаваранак над полем", "Пад высокім сонцам", "Зямля бацькоў нашых", "Дарогамі надзеі і трывог". Яму належаць эсэ "Па мясцінах славутых землякоў".

У асобе Яраслава Пархуты мы мелі адметнага, таленавітага пісьменніка-грамадзяніна ў высокім сэнсе гэтага слова. Ён моцна любіў сваю Бацькаўшчыну, рабіў усё, каб адраджалася яе культура і мова. Гэтай невычэрпнай сыноўняй любоўю да роднай зямлі, роднай прыроды, чалавека была прасякнута ўся творчасць Яраслава Пархуты.

Плённая праца Яраслава Пархуты на літаратурнай ніве, у журналістыцы і ў грамадскім жыцці была высока ацэнена урадам рэспублікі. За кнігу "Зямля бацькоў нашых" у 1992 годзе Яраславу Пархуту была прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь. Ён таксама лаўрэат прэміі Саюза журналістаў БССР.



Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку, чалавеку надзвычайнай душэўнай дабрыні і прынцыповасці назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**У. Русакевіч, А. Сасноўскі, У. Бельскі, У. Ярмошын, М. Матусевіч, Р. Барадулін, Я. Брыль, В. Быкаў, Н. Гілевіч, І. Навуменка, І. Шамякін, В. Адамчык, С. Андраюк, В. Блакіт, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, А. Вольскі, В. Вітка, М. Гіль, У. Гніламёдаў, С. Грахоўскі, Г. Далідовіч, А. Дудараў, Л. Екель, А. Жалязоўскі, А. Жук, С. Законнікаў, В. Зуёнак, В. Іпатава, В. Каваленка, В. Казько, Я. Каршукоў, А. Кудравец, У. Ліпскі, М. Лужанін, В. Лукша, П. Макаль, У. Някляеў, У. Паўлаў, А. Пісьмянкоў, І. Пташнікаў, А. Разанаў, А. Русецкі, Ю. Свірка, Я. Сіпакоў, В. Супрунчук, В. Стома, М. Чаргінец, У. Юрэвіч.**

# АГОНЬ АДМСЦІЦЦА, КАЛІ ЯГО ЎЦВЕЛІШ

*( Працяг. Пачатак на стар. 13)*

пачынаюць вучыць правілам пажарнай бяспекі. А ў нас? Колькі гаворым: давайце ў садках, у першых класах школ увядзём курс бяспечнага выжывання, але сістэмнага падыходу да вырашэння праблемы так і няма. Зноў і зноў вучоным дзядзям і цёцям трэба даводзіць, што асновы траўматалогіі, санітарыі, бяспечных паводзін чалавека трэба закладваць у чалавека з малога ўзросту.

**— Чытала дзесьці, што работа па ліквідацыі пажараў адпавядае па існуючай кваліфікацыі ці не самым высокім катэгорыям цяжкасці, вымагае высокай ступені прафесійнай і псіхалагічнай падрыхтоўкі. Хто да вас прыходзіць на службу?**

— Наша служба вымагае першай катэгорыі здароўя. Гэта тая катэгорыя, па якой не заўсёды праходзяць медкамісію дэсантнікі, парашутысты, танкісты, падводнікі, якія сутыкаюцца з экстрэмальнымі фізічнымі і псіхалагічнымі нагрузкамі. Пажарны ідзе на барацьбу з агнём, несучы на сабе больш за 50 кілаграмаў грузу. Многія маладыя людзі спрабуюць знайсці сябе на гэтай службе, аднак затрымліваюцца толькі самыя мужныя духам і моцныя фізічна. Пажарны — прафесія шматфункцыянальная. Тут і дадатковыя нагрузкі на вадзіцеля, на афіцэра, бо, акрамя непасрэднага тушэння пажару, мы, як я ўжо казаў, аказваем самую розную дапамогу пацярпеўшым людзям, ліквідуем аварыі на самых розных камунікацыях. За год мы выносім, выцягваем з агню, з зоны задымлення да паўтары тысячы людзей. Не так даўно, напрыклад, здарыўся пажар у 175-ай мінскай школе. Ратавалі больш за 800 дзяцей, больш чым 100 з іх спускалі з трэцяга паверха па пажарных лесвіцах.

**— Дзе рыхтуюцца пажарныя?**

— Ёсць у нас свая сістэма падрыхтоўкі кадраў. Маем мы Вышэйшае пажарна-тэхнічнае вучылішча, у Салігорскім горна-хімічным тэхнікуме існуе аддзяленне пажарных тэхнікаў. Зараз кантактуемся з лётным каледжам, каб і там рыхтаваць нашых спецыялістаў. Ёсць яшчэ некалькі вучэбных цэнтраў і пунктаў, працуе таксама Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр пажарнай бяспекі.

**— Калі ласка, Валерый Пятровіч, колькі слоў пра вашу дыспетчарскую, апавяшчальную, калі можна так сказаць, службу?**

— Зараз у кожным райцэнтры ёсць штатны дыспетчар з дастаткова высокай прафесійнай падрыхтоўкай. Уся інфармацыя паступае да яго, які яе ацэньвае і адпаведна на яе рэагуе, даводзіць да міністэрстваў, ведамстваў, арганізацый абласнога ці раённага маштабу ці іншых экстрэмальных служб. На інфармацыю аб пажары, незалежна ад каго яна паступіла, мы — у адрозненне, скажам, ад армейскіх служб ці служб унутраных войск — рэагуем імгненна. За 30 секунд пажарная машына павінна выехаць з гаража за вароты. У нас адлік часу ідзе менавіта па секундах: апрананне баявога адзення, пасадка ў машыну, выезд за межы гаража, устаноўка на ваду, пад'ём па ручных лесвіцах, самавыратаванне, выратаванне... Я ўжо гаварыў пра сённяшнія часавыя межы выжывання, таму прыбыццё машыны нават праз 5 хвілін пасля выкліку можа быць запозненым — чалавека з задымленага памяшкання ўжо можна і не ўратаваць. Але мы змагаемся да апошняга, ратуем не толькі людзей, але і ўсё што можна яшчэ ўратаваць. Ёсць формула часу, якая складаецца з 5 інтэрвалаў: час, калі быў заўважаны пажар; час паведамлення; час збору па трывозе дзяжурнага каравула; час следавання на пажар і час баявога разгортвання. Мы з усіх сіл намагаемся зводзіць гэтую формулу да мінімуму. І ў горадзе дамагаемся нядрэнных вынікаў. А ў вёсцы? Там ужо прыкладна ў 6 разоў павялічваецца першы інтэрвал — час, калі быў заўважаны пажар. Яго можна скараціць? Безумоўна, але для гэтага трэба ўстанавіць тэлефон-паведамляльнік. А колькі бывае выпадкаў, калі да тэлефона едуць некалькі кіламетраў, а ён, аказваецца, не працуе. Гэта ад каго залежыць? Ад пажарных? Ад нашай безгаспадарчасці! Вось час збору па трывозе залежыць цалкам ад нас, і тут мы змагаемся за долі секунды, інакш і быць не можа.

На пачатак 1991 года мы мелі ўжо досыць сур'ёзную матэрыяльна-тэхнічную базу. Сёння, напрыклад, у нас ёсць 548 пастоў ваенізаванай пажарнай службы. Калі б мы развілі гэтую сетку да дыслакацыі 1991 года, гэта значыць, да 900 пастоў, час прыбыцця на пажар быў бы ў 2 разы меншы і радыус выезду — таксама ўдвая меншы. Пяць гадоў назад гэты радыус быў 10 кіламетраў, сёння — 20. Хуткасць следавання машыны — 35 кіламетраў у гадзіне, бо машына занадта цяжкая, перагружаная, грузавыя патокі і г. д.

**— А як у вас увогуле справы з тэхнічным забеспячэннем? Наколькі мне вядома, сёння ці не паўсюль гэтыя праблемы надзвычай вострыя. Вас яны таксама не абышлі?**

— Наша тэхнічнае ўзбраенне — на ўзроўні 50-гадоў. Тая самая марудная пажарная машына не мадэрнізавалася 30 гадоў. Гэта ж можна сказаць і пра іншую пажарную тэхніку. Вядома, склаўшы рукі мы не сядзім. Распрацоўваем свае ўзоры, імкнёмся звесці гэты разрыў да мінімуму, каб гэта была і тэхналагічная мадэль, і універсальная, і шматфункцыянальная. І на сённяшні дзень маем ужо некалькі адзінак вопытнай пажаратэхнікі. У Магілёве распрацоўваецца каленчаты пад'ёмнік, сродкі пажаратушэння. Ідуць і іншыя пошукі. Скажам, раней ніхто вадзічку не мераў — лілі, колькі хацелі. А цяпер Мінжылкамгас пытаецца: а хто будзе плаціць за кубаметры скарыстанай вады? Вучымся эканоміць. У Мінску, скажам, сёння мы тушым кватэрныя пажары дзесятай часткай той вады, якую вылівалі раней, намагаючыся "прамачыць" дом да падмурка. Працуем над сродкам, які дазволіць яшчэ на цэлы парадак скараціць выдаткі вады, — каб затушыць пажар у кватэры ўсяго дзесяццю літрамі вады, якая, праўда, будзе выкідвацца пад аграмадным ціскам у 250 атмасфер. Распрацоўкі і выпуск гэтых і іншых новых сродкаў пажаратушэння — справа не танная. Аднак галоўнае ў тым, што мы можам і павінны гэта рабіць. У Беларусі ёсць магутнейшы інтэлектуальны патэнцыял. На нашы прапановы адгукаюцца, да нашых распрацовак падключаюцца самыя выдатныя вучоныя і практыкі. Сёння мы можам даць шэраг такіх канкрэтных прапаноў, якія дазволілі б радыкальна змяніць існуючы парадак у забеспячэнні пажарнай аховы, зменшыць гібель людзей, знізіць колькасць пажараў, у значнай ступені знізіць матэрыяльныя страты. Аднак бяда ў тым, што напрацаванае намі мы не можам пусціць на канвеер. Вось, скажам, апавяшчальнік аб пажары... Ды ён лепшы, чым амерыканскія аналагі, але яго ў нас няма, нават у мяне няма, не магу яго вам паказаць, а амерыканскі — калі ласка, вось ён. Наш супрацоўнік апавяшчальнік распрацаваў, фірма з ахвотаю асвоіла яго выпуск і... тут жа пачала зарабляць на ім, прадаючы Расіі і іншым суседзям. А нашы патэнцыяльныя ахвяры агню купіць яго не могуць — няма сродкаў. Як няма нават і на тое, каб адрамантаваць абяздоленым людзям грубкі, якія за доўгія гады службы сталі як рэшата, трымаюцца на добрым слове.

Навошта нам, скажам, сёння такая пажарная машына, гэта гара жалеза пад назваю "Урал-375 Д", якая раней паглынала на 100 кіламетраў 78 літраў 93-га бензіну, а зараз — 41 літр? Маючы дзесятак новых, сучасных, парашковых вогнетушыцеляў, можна і на ўазіку пад'ехаць часам.

Наспеў час, ды не проста наспеў, а час вымушае кардынальна мяняць літаральна ўсё ў службе пажарнай бяспекі. І трэба, каб нам, спецыялістам, паверылі ў неабходнасці гэтых перамен і забяспечылі іх правядзенне адпаведным фінансаваннем. А гэта ўжо праблемы не толькі вузкага кола спецыялістаў, — гэта праблема ўсяго нашага грамадства...

У загаловак інтэрв'ю я вынесла беларускую прымаўку "Агонь адмсціцца, калі яго ўцвеліш". Гэта адпаведнік рускага выслоўя "С огнем шутки плохи". Можна загадаць яшчэ і словы Маякоўскага: "З агнём не жартуй — згарэць можна, з агнём абыходзься вельмі асцярожна!" З агнём сапраўды жартаваць нельга! Заклік гэты, як вынікае з інтэрв'ю Валерыя Пятровіча Астапава, адрасаваны практычна ўсім нам — ад прэзідэнта да забытай Богам і людзьмі адзінокай бабулі ў нейкай усёяшчэ заснежанай вёсачцы. Ці пачуем яго нарэшце?

**Інтэрв'ю правяла**
**Марыя ГІЛЕВІЧ**

# ПАРТРЭТЫ МУЗ

## ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫЯ ЗАГАДКІ ДЛЯ АМАТАРАЎ ПАЭЗІІ

### МУЗА НАМБА УАН

Яна не адчувае зямнога прыцягнення і назаўжды завісла між філалогіяй, літаратурай і філасофіяй.

Яна ткалля не горш за Арахну і сплятае свае палотны з асацыяцый, сугуччаў і аналогій.

Часам яна нават думае пункцірам.

І хаця не ўсе спасцігаюць яе вытанчаную да вастрыя стралы прыгажосць, прызнацца ў гэтым лічыцца маветонам.

Таму ніхто даўно і не прызнаецца...

### МУЗА НАМБА ТУ

Яна — асоба вельмі мужная: мужна заклікае да змагання, мужна змагаецца сама з сабою і перамагае... У выніку ейныя эмоцыі маюць выразна гіпербалізаваны характар, а выразы — эмацыянальную мужчынскую лексіку.

Яна стварае вакол сябе заганна-рамантычны міф, і шчодрая на шчырасці, праклёны і слёзы.

У ёй шмат паганскага, і паколькі бог ейны — пан лёс, можна вызначыць яе ваўкалацкую пярэваратную прыроду.

Якая, як вядома, праяўляецца ў здольнасці траціць не толькі боскае, але й чалавечае аблічча.

### МУЗА НАМБА ФРЫ

Яна ўвесь час вывучае сама сябе, пільна, як найнебяспечнага ворага. І найменшыя прыкмечаныя зрухі апісвае.

Яна любіць ноч, як час разумна-разумна паразважаць на ўласнай кухні... Плён сваіх разважанняў яна носіць заўсёды ў левай кішэні.

У правай мусяць быць цыгарэты.

З-пад яе еўрапейскага хітона відаць даматканы андарак, і яна ўвесьчасна знаходзіцца ў стане настальгіі па старым добрым вясковым жыцці з пахам свежага гною і шчырай беларускай лаянкай.

Эх, вярнуцца б туды, у той просты да святасці свет...

Але позна.

Яна занадта шмат ведае.

### МУЗА НАМБА ФО

Яна еўрапейка.

Паспрабуйце ўсумніцца ў гэтым.

Яна такая еўрапейка, што нават стамілася ад гэтай Еўропы...

Стамляецца яна па частках. Па чарзе. Грэцыяй, Парыжам...

Стамляецца яна вытанчана-эстэтычна, каб, крый Божа, не западозрылі, што яна марыць яшчэ б хоць раз пабываць у тым месцы, якім стамілася...

Роднай беларускай правінцыяй яна стамілася ў першую чаргу.

Яна вельмі клапоціцца пра свой выгляд, таму мае выгляд і ўсё, што трэба дзеля падтрымання яго на належным узроўні.

Імя яе нарадзілася ў час палёту з Эйфелевай вежы:

"А—а—а—а—а—а!!!"

### МУЗА НАМБА ФАЙФ

Яна вельмі эмацыянальная. Расчараванне і надзею чаргуе з перыядычнасцю ў чатыры радкі.

Сучасны свет занадта жорсткі для яе, і яна зазірае ў рыцарскае мінулае. А там яшчэ большыя жахі...

Затое ёсць магчымасць прымераць сапраўдныя каралеўскія строі.

Трэба прызнацца, яны ёй да твару. Яна ў іх такая прыгожая, безабаронная, няшчасная... Ну такая Барбара... Такая Радзівіл...

Так і хочацца суцешыць каралеўскім падарункам. Хаця б у выглядзе дзяржаўнай прэміі.

### МУЗА НАМБА СІКС

Яна падобная на мадэлі Пікасо апошняга перыяду.

Так што час ад часу ёй даводзіцца пакутліва ўспамінаць, у якім месцы мастак апошнім разам намаляваў ёй вока.

Яна фанерай пралятала над Парыжам, не затрымалася там і прызямлілася ў родную балею.

Яна так хоча здавацца зусім дарослай і важнай і сыпле вобразамі і цытатамі, а што вырасце з гэтага вундэркінда з тварам Тутанхамона, — не ведае ніхто...

Бо вырасці ўжо даўно было нешта павінна...

### МУЗА НАМБА СЭВЭН

Яна жыве на званіцы.

Часам на вежы.

Галоўнае, што на вышыні.

Паўзверх камсамольскага значка на ейных грудзях начэплены значок з Джонам Ленанам.

Хаця на самай справе гэта Андрэй Разін.

Яна інтэлектуальная, заварожвае напорыстымі рытмамі і гучнымі рыфмамі. Яна ўмее гаварыць так, каб чулі ўсе.

Але не лічыць усіх гэтага вартым.

Дый навошта гэта, калі маеш уласную вежу?

**Фёрст ЭЙПРЫЛ**

---

Сцяпан СІНІЦА

# КАЗКІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

### ЯК КУРАЧКА ПЕЎНІКА РАТАВАЛА

Жыла-была сям'я — курачка і пеўнік. Курачка яйкі несла, а пеўнік зярняткі здабываў, курачку матэрыяльна забяспечваў. Знайшоў аднойчы пеўнік вялікую бобінку і думае: гэтага зярняці курыцы не праглынуць, з'ем хіба сам. Во які самаўпэўнены.

Праглынуў — і падавіўся. Паваліўся пеўнік, ногі задраў і не дыхае.

Пабегла курачка да каровы — масла прасіць, горла пеўніку змазаць.

— Добра, — кажа карова, — дам табе масла. Але бяжы перш да касцоў, папрасі травы. Не еўшы — якія могуць быць надоі, якое масла?

Прыбегла курачка да касцоў, просіць травы, расхваляваная.

— Добра, — кажуць касцы, — дадзім мы травы, толькі ты ідзі да бабы Тэклі і прынясі нам паўлітру.

Што тут курачцы рабіць? Патупала яна да бабкі-самагоншчыцы, на долю скардзіцца.

— Бабка. бабка, так і так, пеўнік мой упаў і не дыхае, дай для касцоў бутэльку, інакш удавою стану.

А бабка Тэкля скоса зірнула і гэтак мовіла:

— У мяне гарэлка моцная, як сляза чыстая. Задарма я яе нікому не даю. Чым маеш заплаціць?

Бедная курка і дзюбу апусціла: акрамя чэкаў "Маёмасць", анічога ў яе не было.

Не рассталася злая баба з бутэлькай, касцы карове травы не ўкасілі, карова галодная масла не дала. Ды і не спатрэбілася тое масла пеўніку, бо яго гаспадыня дарэзала і зварыла суп наварысты, залацісты.

— Сэ ля ві, — падумала курка, і тым суцешылася.

### КУРАЧКА-РАБА

Жыў дзед, жыла баба. Была ў іх курачка-раба. І знесла курка яечка — не абы-якое, а залатое. Дзед біў-біў — не разбіў. Бабка біла-біла — не разбіла. І вырашыла яна тое дзівоснае яечка прадаць. І не за простыя рублі-зайчыкі, а за долары заморскія. Пайшоў дзед на Камароўку ды не дайшоў, бедалага: перанялі яго на дарозе хлопцы-малойцы, пабілі дзеда, пакалечылі, а залатое яечка сабе забралі.

Плача бабка, бядуе, слёзы хусцінкай уцірае, курку ў сваёй бядзе вінаваціць.

— Была б ты курка як курка, неслася б, як усе нармальныя чубаткі, жыў бы мой дзед сто гадоў і гора б мы не ведалі.

А курка кажа:

— Не плач, бабка, не рві на сабе валасы сівыя. Успомні, што ў Святым пісанні сказана. Адчайвацца — вялікі грэх, смяротным называецца. Так што не грашы Богу, а дзед паправіцца.

Паслухалася бабка, уцерла слёзы і здала свайго дзеда пасля бальніцы ў Дом састарэлых. Там ён і сёння жыве, курку сваю ўспамінае, і бабку заадно.

### РЭПКА

Пасадзіў дзед рэпку, усё лета даглядаў, паліваў, лебяду выполваў. Недарэмна стараўся: вырасла тая рэпка як гара. Ну, не гара, дык помнік надмагільны. Прыйшоў час агарод спарадкаваць. Цягне дзед рэпку, пнецца, а выцягнуць не можа. Адклаў справу на заўтра, бабцы, унучцы і Жучцы строга наказаў, каб дома былі і нікуды, крый Бог, не адхіляліся.

А ў бабкі справа набегла неадкладная — суседцы пазыку аддаць. Як панесла, дык і згінула, свіней пакарміць забылася. Вядомая рэч — кабеты, трэба нагаварыцца, мужыкам костачкі перамыць.

Унучка таксама дома не заседзелася: касету ў аднакласніка перапісвала, і не адну, пакуль тое ды сёе — сонца села, вечар на дварэ, дыскатэка ў клубе.

Жучка і тая з ланцуга сарвалася, бо інтарэс мела на другім канцы вёскі, а які — нам пра тое ведаць не дадзена.

Кошка котная ўпалявала мышку-памочніцу і ўвесь дзень соладка спала ля пустой будкі, сны сніла каціныя.

Плюнуў дзед і запіў ад такога жыцця. А чарнобыльскую рэпку кранам выцягнулі не то фермеры, не то кааператары. Галоўнае — не прапала.

### ЧЫРВОНАЯ ШАПАЧКА

Жыла-была на свеце дзяўчынка па імені Чырвоная Шапачка. Паслала яе аднойчы маці да бабулі ў госці, булачак у кошык паклала, кока-колы бутэльку і адзін "Снікерс" у дадатак.

Вясёлая ішла Чырвоная Шапачка лесам, песенькі спявала, кветачкі рвала. Кока-колу, прытаміўшыся, выпіла, "Снікерсам" не ўтрываўшы, паласавалася. Моцна зазлаваў дзядзька Воўк, які сачыў за дзяўчынкай з кустоў і бачыў такую непавагу да старасці.

А быў ён, шэры, правільным ды прынцыповым, дзесяць год у партыі камуністаў узносы збіраў і дасюль ёй верным застаўся. Не стаў ён есці благую дзяўчынку, а проста адлупцаваў яе рэменем па імпартных трусіках, — як умеў павучыў, як бабку хворую шанаваць і па лесе адной не швэндацца.

Ён і з бабкай правёў прафілактыку адносна выхавання ўнучкі. Праўда, ёй ўжо нікога не прыйшлося выхоўваць, па адной простай прычыне: прапала без вестак і па сёння не знайшлася.

---

Уладзімір ЦІШУР

# ВЕНІЧКАМ, ДЗЯРКАЧЫКАМ...

### У АТАКУ

**Літаратурны гвардзейц —**
**паэт В. К. Гардзей,**
**як літаратар**
**высокага рангу —**
**з цэнтра ўдарыць і з флангаў:**
**да чытача, па бруку,**
**без груку,**
**з друку,**
**з аднастайна-журботным смакам —**
**вершы ідуць у атаку!**
**Услед спяшаецца проза...**
**Ці літарацкая дзейнасць — то,**
**ці калегам і чытачам —**
**па-гро-за?!**

### ПАЭТ-ХУТАРАНІН

**Ворыва поле,**
**чыстае ранне...**
**У хляве — баране,**
**парсюк і карова —**
**жыві — на здароўе!..**
**Да горада быў прыкуты —**
**ды прыдбаў, нечакана,**
**хутар!**
**І жыве, як маленькі царык,**
**Паэт Алесь Пісарык...**

### ЯКАЯ РАДАСЦЬ?

**Супраць песенных тэкстаў**
**хто мае пратэсты?**
**Паэт — словы кідае,**
**кампазітар — тэкст праспявае,**
**спявак са сцэны — глотку дзярэ...**
**Душа — тут справа**
**такая —**
**удзел у працы такой**
**ці бярэ?**
**Няхай спявае спявак,**
**хай піша тэксты**
**А. Бадак —**
**бяда такая...**
**А радасць каму, якая?**

### ЛЫСЫ... РАМАН

**Лысы, як Бонч-Бруевіч,**
**празаік В. С. Гігевіч.**
**Аповесці і раманы**
**пасля "Галоўліта" —**
**не мелі заганы...**
**Раман-сцэнарый**
**для кіно —**
**пайшоў на дно,**
**бо:**
**крычалі кінаактрысы:**
**— Сам лысы і раман — лысы!**
**Кідалі вобзем пальчаткі:**
**— Сямёныч,**
**напішы-ка раман**
**спачатку!..**

### ШЧЫРЫЗНА

**Не капрызны**
**Карызна**
**жыць хоча шырызна!**
**Без галадання,**
**ў прызнанні,**
**у кніжак сваіх**
**і чужых**
**рэдагаванні...**
**Хаця б мора шчырызны**
**Карызны**
**не затапіла іншых...**
**тварызмы!**

### МАЛАДЗЕЕ

**Рыгор Іванаў Барадулін**
**старасці падносіць... дулю.**
**Не пускае ў вочы дым,**
**памагае — маладым...**
**Ён у клопатах, у дзеях**
**такім чынам — маладзее!**

### САПРАЎДНЫ ЛЕЎ

**Па знаку**
**задыяка**
**Лявон Галубовіч — Леў.**
**Раней ведаў —**
**хату**
**ды хлеў...**
**Цяпер у сталіцы —**
**кватэру займеў.**
**У ч-с "Крыніцы"**
**пасаду з акладам —**
**таксама займеў!**
**Сапраўдны ён — Леў!**

### ПРЫ ЗАНЯТАСЦІ

**І з паэтычнага слова,**
**і з празаічнага слова**
**і з радыётэлевізійнага**
**слова**
**жыве Раіса Баравікова, —**
**ці ж адмыслова?!**
**Тлумным Скарынавым**
**трактам**
**на працу ідзе,**
**як рэдактар...**
**Ай-яй-яй —**
**працы хоць адбаўляй!**
**Пры занятасці гэткай**
**заве сябе толькі —**
**Паэткай...**

### НЕ ЎСЁ РОЎНА

**І паэтэса, і празаіса —**
**Бондар Таіса...**
**Паэт і паэтэса —**
**Ці не ўсё роўна?**
**Ды толькі ж, пэўна,**
**Бондар — адно,**
**І зусім другое —**
**Бандароўна!**

---


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ —** *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП —** *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 332-204**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7500.
Нумар падпісаны 28.3.1996 г.
Заказ 1558/Г

П 123456789101112
М 123456789101112